# XXVII З'ЕЗД КАМУНІСТЫЧНАЙ




Масква. Крамлёўскі Палац з'ездаў. 25 лютага 1986 года. Прэзідыум XXVII з'езда КПСС. На трыбуне — Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш М. С. Гарбачоў. Фота ТАСС.

## НАША МЭТА — КАМУНІЗМ

У жыцці Савецкай краіны, у рабоце партыі камуністаў ёсць асаблівыя дні, калі, падняўшыся на новую вышыню, мы азіраемся на пройдзены шлях, ацэньваем зробленае і вызначаем перспектыву далейшага руху наперад. Такімі былі дні з 25 лютага па 6 сакавіка 1986 года, калі працаваў XXVII з'езд КПСС у Маскве.

Да гэтых дзён з патрыятычным уздымам рыхтаваўся кожны камуніст, кожны працоўны калектыў, іх чакалі нашы таварышы па класу за мяжой, усё прагрэсіўнае чалавецтва. Да іх рыхтавалі працоўныя падарункі ўдзельнікі сацыялістычнага спаборніцтва, важным этапам якога стаў Усесаюзны камуністычны суботнік напярэдадні партыйнага з'езда. Можна з упэўненасцю сказаць, што час падрыхтоўкі да партыйнага форуму стаў часам напружанай творчай працы, новых здзяйсненняў на карысць сацыялістычнай Радзімы.

19-мільённы атрад камуністаў краіны прадстаўлялі на з'ездзе 5000 дэлегатаў, з іх 3827 дэлегатаў, або 76,5 працэнта выбрана ўпершыню. 1705 дэлегатаў на з'ездзе прадстаўлялі рабочы клас краіны, які адыгрывае авангардную ролю ва ўсім працэсе камуністычнага будаўніцтва. На з'езд былі выбраны 872 работнікі сельскай гаспадаркі. Гэта камуністы, якія знаходзяцца на пярэднім краі барацьбы за паслядоўнае ажыццяўленне аграрнай палітыкі партыі, рэалізацыю Харчовай праграмы СССР. Дэлегатамі з'езда былі выбраны 355 кіраўнікоў вытворчых і навукова-вытворчых аб'яднанняў, прадпрыемстваў, канструктарскіх арганізацый і інжынерна-тэхнічных службаў, 80 дырэктароў саўгасаў, 116 старшынь калгасаў, 114 работнікаў навукі і вышэйшых навучальных устаноў, 123 правадзейныя члены і члены-карэспандэнты Акадэміі навук СССР, галіновых акадэмій і акадэмій навук саюзных рэспублік. 156 дэлегатаў прадстаўлялі вялікі атрад камуністаў, якія працуюць у галіне літаратуры і мастацтва, культуры, народнай асветы і аховы здароўя. Сярод дэлегатаў з'езда былі 1074 партыйныя работнікі, у тым ліку 570 сакратароў акругкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі. У саставе дэлегатаў былі 698 сакратароў пярвічных цэхавых партарганізацый і партгрупоргаў.

Год ад году, ад з'езда да з'езда расце колькасць жанчын у партыі, усё больш іх становіцца ў выбарных партыйных органах, вылучаецца да кіраўніцтва рознымі ўчасткамі камуністычнага будаўніцтва. Нязменна павялічваецца іх колькасць і сярод дэлегатаў партыйных з'ездаў. На XXVII з'езд было выбрана 1352 жанчыны, што склала 27 працэнтаў усіх дэлегатаў. Гэта найбольшая колькасць за ўсю гісторыю КПСС у абсалютным і працэнтным выражэнні.

На парадак дня з'езда былі вынесены наступныя пытанні:

— справаздача Цэнтральнага Камітэта КПСС і задачы партыі;

— аб новай рэдакцыі Праграмы КПСС;

— аб змяненнях у Статуце КПСС;

— Палітычны даклад Цэнтральнага Камітэта КПСС XXVII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — дакладчык Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш Гарбачоў М. С.;

— справаздача Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС — дакладчык старшыня Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі тав. Сізоў Г. Ф.;

— аб Асноўных напрамках эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перспектыву да 2000 года — дакладчык Старшыня Савета Міністраў СССР тав. Рыжкоў М. І.;

— выбары цэнтральных органаў партыі.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

## ПАЛІТБЮРО ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС


М. С. ГАРБАЧОЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС, Генеральны сакратар ЦК КПСС.


Г. А. АЛІЕЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


В. І. ВАРАТНІКОЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


А. А. ГРАМЫКА. Член Палітбюро ЦК КПСС.


Л. М. ЗАЙКОЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


Д. А. КУНАЕЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


Я. К. ЛІГАЧОЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


М. І. РЫЖКОЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


М. С. САЛОМЕНЦАЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС, старшыня КПК пры ЦК КПСС.


В. М. ЧЭБРЫКАЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


Э. А. ШЭВАРДНАДЗЕ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


У. В. ШЧАРБІЦКІ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


П. Н. ДЗЕМІЧАЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


У. І. ДАЛГІХ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


Б. М. ЕЛЬЦЫН. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


М. М. СЛЮНЬКОЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


С. Л. САКАЛОЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


Ю. П. САЛАЎЕЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


М. У. ТАЛЫЗІН. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


А. П. БІРУКОВА. Сакратар ЦК КПСС.


А. Ф. ДАБРЫНІН. Сакратар ЦК КПСС.


М. В. ЗІМЯНІН. Сакратар ЦК КПСС.


В. А. МЯДЗВЕДЗЕЎ. Сакратар ЦК КПСС.


В. П. НІКАНАЎ. Сакратар ЦК КПСС.


Г. П. РАЗУМОЎСКІ. Сакратар ЦК КПСС.


А. М. ЯКАЎЛЕЎ. Сакратар ЦК КПСС.


І. В. КАПІТОНАЎ. Старшыня Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС.



**Дэлегаты з'езда (злева направа) нарыхтоўшчыца верху абутку мінскага вытворчага абутковага аб'яднання «Прамень» Л. А. Краўцова, машыніст цеплавоза лакаматыўнага дэпо «Мінск» Я. М. Ковель, мантажніца мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт» Т. І. Навіцкая, старшыня Акцюбінскага аблвыканкома (Казахская ССР) С. С. Сагінтаеў, участковы ўрач дзіцячай паліклінікі № 22 г. Мінска Л. М. Літвіновіч і старшыня калгаса «Світанне» Нясвіжскага раёна М. А. Карчміт.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**

З'езд паказаў, што КПСС паслядоўна працягвае справу Вялікага Кастрычніка, упэўнена ідзе ленінскім курсам, дастойна выконвае ролю палітычнага правадыра рабочага класа, усяго савецкага народа.

З'езд прайшоў у атмасферы партыйнай прынцыповасці і адзінства, патрабавальнасці і бальшавіцкай праўды, адкрытага выяўлення недахопаў і хібаў, глыбокага аналізу ўнутраных і знешніх умоў развіцця нашага грамадства.

Шырокі водгук выклікаў Палітычны даклад Цэнтральнага Камітэта КПСС XXVII з'езду, з якім выступіў Генеральны сакратар ЦК партыі М. С. Гарбачоў. І не толькі ў савецкіх людзей, але і ў нашых сяброў у брацкіх краінах сацыялізму, у шырокіх колах міжнароднай грамадскасці.

Жывую цікавасць да работы з'езда ленінскай партыі, да Палітычнага даклада ЦК КПСС растлумачыць лёгка — на абмеркаванне з'езда былі вынесены задачы паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Паскарэнне — гэта перш за ўсё павышэнне тэмпаў эканамічнага росту. Сутнасць паскарэння ў новай якасці росту: усямернай інтэнсіфікацыі вытворчасці на аснове навукова-тэхнічнага прагрэсу, структурнай перабудовы эканомікі, эфектыўных форм упраўлення, арганізацыі і стымулявання працы. Курс на паскарэнне прадугледжвае праводзенне актыўнай сацыяльнай палітыкі, паслядоўнае зацвярджэнне прынцыпу сацыялістычнай справядлівасці. Стратэгія паскарэння мае на ўвазе ўдасканаленне грамадскіх адносін, абнаўленне форм і метадаў работы палітычных і ідэалагічных інстытутаў, паглыбленне сацыялістычнай дэмакратыі, пераадоленне інерцыі, застойнасці і кансерватызму — усяго таго, што стрымлівае грамадскі прагрэс.

«Наша задача...— адзначыў М. С. Гарбачоў,— выпрацаваць рэалістычную, усебакова ўзважаную праграму дзеянняў, якая арганічна знітавала б велічнасць мэт і рэалізм магчымасцей, планы партыі — з надзеямі і спадзяваннямі кожнага чалавека. Рашэнні XXVII з'езда вызначаць і характар, і тэмпы нашага руху на гады і дзесяцігоддзі ўперад, руху да якасна новага стану савецкага сацыялістычнага грамадства».

КПСС прапанавала цэласную праграму поўнай ліквідацыі да канца дваццатага стагоддзя ядзернай і іншай зброі масавага знішчэння. Па сваіх маштабах і значэнню гэта праграма гістарычная. З трыбуны партыйнага з'езда ў першы ж дзень яго работы прагучала новая ініцыятыва аб стварэнні ўсеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі, сфармуляваны прынцыповыя Асновы такой сістэмы. Гэта новае праяўленне савецкай міралюбівай знешняй палітыкі. «Такую палітыку,— сказаў у сваёй прамове на XXVII з'ездзе КПСС Першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Кубы Фідэль Кастра,— савецкі народ праводзіць з часоў Леніна, калі яшчэ не было зброі масавага знішчэння. І хто можа не прызнаць, што менавіта ў яго стальных нервах, непахіснай магутнасці, яснай і цвёрдай палітыцы міру, радыкальнай і рашучай прапанове скончыць з гонкай узбраенняў, забараніць касмічныя віды зброі і назаўсёды ліквідаваць усю ядзерную зброю заключаецца галоўная надзея на выжыванне чалавецтва».

XXVII з'езд КПСС канстатаваў, што знешнепалітычны курс СССР — гэта курс на сацыялістычную эканамічную інтэграцыю краін сацыялістычнай садружнасці, на далейшае развіццё палітычнага супрацоўніцтва паміж імі, гэта курс на адзінства міжнароднага камуністычнага руху, на салідарнасць з сіламі сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення, на пашырэнне сувязей з усімі, хто выступае супраць вайны, за міжнародную бяспеку, на больш цеснае супрацоўніцтва дзеля дасягнення поспеху ў бітве супраць ядзернай вайны, поспеху, які будзе гістарычнай перамогай усяго чалавецтва, кожнага чалавека на нашай планеце.

Палітычны даклад, з якім выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, дыскусія, у якой прынялі ўдзел дэлегаты, далі адказы на самыя злабадзённыя пытанні нашага жыцця. У кожным слове, сказаным на з'ездзе, біўся пульс часу, ідэі з'езда горача ўспрынялі савецкія людзі, абмяркоўвалі ў кожным калектыве, у кожнай сям'і.

Людзі вераць у партыю, падтрымліваюць яе. Смелы наватарскі курс, аналітычны падыход, шчырасць ацэнкі становішча спраў, маштабнасць, рэалізм і дакладнасць пастаноўкі задач — гэта бальшавіцкая традыцыя, якая ідзе ад Леніна.

Галоўнай сферай дзейнасці партыі была і застаецца эканоміка. Іменна тут ствараюцца перадумовы для забеспячэння матэрыяльна і духоўна багатага, сацыяльна насычанага жыцця савецкіх людзей ва ўмовах міру, для дасягнення новага якаснага стану грамадства.

З'езд адзначыў, што за чвэрць стагоддзя пасля прыняцця трэцяй Праграмы КПСС народная гаспадарка краіны значна рушыла наперад. Нацыянальны даход павялічыўся амаль у 4 разы, прамысловая вытворчасць — у 5 разоў, сельскагаспадарчая — у 1,7 раза. Па выпуску шэрагу важнейшых відаў прадукцыі Савецкі Саюз трывала займае першае месца ў свеце. Узрос дабрабыт народа. Рэальныя даходы на душу насельніцтва павялічыліся ў 2,6 раза, грамадскія фонды спажывання — больш чым у 5 разоў. Палепшыліся жыллёвыя ўмовы большасці сем'яў. Агульнапрызнаныя поспехі ў развіцці айчыннай навукі, адукацыі, аховы здароўя, культуры.

У Асноўных напрамках эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на дванаццатую пяцігодку і на перыяд да 2000 года, прынятых з'ездам, партыя ставіць перад нашым грамадствам новыя задачы.

За пяцігодку аб'ём нацыянальнага даходу павінен дасягнуць 614 мільярдаў рублёў, што дазволіць значна павялічыць дабрабыт савецкага народа. Да канца пяцігодкі плануецца павялічыць сярэднямесячную заработную плату рабочых і служачых да 215—220 рублёў. Больш высокімі тэмпамі будзе расці аплата працы ў калгасах і складзе 180 рублёў у месяц. Сярэднямесячны даход на аднаго чалавека павінен быць не менш як 125 рублёў.

Адначасова з умацаваннем прынцыпу размеркавання па працы будзе прадоўжана паслядоўнае развіццё грамадскіх фондаў спажывання, якія адыгрываюць выключна важную ролю ў жыцці савецкіх людзей. За пяцігодку яны значна павялічацца і складуць у разліку на душу насельніцтва ў 1990 годзе больш як 600 рублёў.

Разам з тым партыя паставіла задачу велізарнай сацыяльнай важнасці — да 2000 года забяспечыць практычна кожную савецкую сям'ю асобным жыллём — кватэрай або індывідуальным домам. Яе ажыццяўленне запатрабуе максімальнай мабілізацыі сіл і сродкаў, пастаяннай увагі да гэтага жыццёва важнага пытання.

У Палітычным дакладзе было заяўлена, што партыя і надалей будзе нястомна ўмацоўваць брацкую дружбу народаў нашай краіны, выхоўваць працоўных у духу савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму.

З'езд падкрэсліў важнасць дзелавой і паслядоўнай дзейнасці Саветаў у мабілізацыі мас на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця нашага грамадства, у вырашэнні пытанняў штодзённага жыцця насельніцтва, задавальнення запатрабаванняў і патрэб людзей.

Будзе і далей павышацца роля прафсаюзаў і камсамола, творчых саюзаў і добраахвотных таварыстваў, жаночых арганізацый у кіраванні справамі дзяржавы і грамадства.

Адна з важнейшых задач партыі — усямернае павышэнне баявой гатоўнасці Узброеных Сіл, падтрыманне іх на ўзроўні, які выключае стратэгічную перавагу сіл імперыялізму.

Сучасны курс партыі стварае магчымасці для значнага павышэння эфектыўнасці ідэалагічнай дзейнасці. Задача заключаецца ў тым, каб ідэйна-палітычнае выхаванне працоўных, яго формы і метады прывесці ў адпаведнасць з рэальнасцямі ўнутранага і міжнароднага жыцця, забяспечыць яго звязанасць з арганізатарскай і гаспадарчай дзейнасцю.

Вырашаемыя нашым грамадствам маштабныя, новыя і складаныя задачы прад'яўляюць высокія патрабаванні да ўсёй палітычнай, ідэалагічнай і арганізатарскай дзейнасці партыі.

Галоўнае — умацаваць дзелавы і баявы стыль работы ўсюды і паўсюдна, яе гібкія, эфектыўныя метады і сродкі.

Дакументы, якія абмеркаваў з'езд — блізкія і зразумелыя кожнаму чалавеку. Бо яны ставяць мэту зрабіць яго жыццё матэрыяльна і духоўна багацейшым, захаваць мір на зямлі. У імя гэтага варта добра папрацаваць. Менавіта такую думку выказаў у сваёй прамове на з'ездзе каваль-штампоўшчык Мінскага аўтамабільнага завода Я. А. Шуляк. «Мае таварышы прасілі перадаць, што рабочыя Мінскага аўтазавода розумам і сэрцам адабраюць і падтрымліваюць унутраную і знешнюю палітыку партыі, курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Гэта курс — адзіна верны і правільны, ён адпавядае нашым думкам і імкненням».

Гэтыя словы — сведчанне таго, што на крутых паваротах гісторыі, калі рашаецца лёс краіны, рабочы клас гатоў скіраваць усю сваю энергію на дасягненне тых вялікіх задач, якія ставіць партыя.

XXVII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза пастанавіў:

— адобрыць палітычны курс і практычную дзейнасць Цэнтральнага Камітэта КПСС;

— адобрыць палажэнні, вывады і задачы, выкладзеныя ў Палітычным дакладзе Цэнтральнага Камітэта з'езду, усім партыйным арганізацыям кіравацца імі ў сваёй рабоце.

З'езд зацвердзіў новую рэдакцыю Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і тэкст Статута КПСС з усенымі і яго змяненнямі.

З'езд прыняў Рэзалюцыю XXVII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза па Палітычнаму дакладу ЦК КПСС, у якой даручыў Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Савету Міністраў СССР ажыццявіць у бліжэйшы час комплекс мер з тым, каб прывесці формы і метады кіравання і гаспадарання ў адпаведнасць з сучаснымі патрабаваннямі.

З'езд зацвердзіў абраныя на Пленуме ЦК КПСС цэнтральныя органы партыі.



ДЭЛЕГАТ XXVII З'ЕЗДА КПСС

# ТАК БУДЗЕМ ПРАЦАВАЦЬ ДАЛЕЙ

Мне ўпершыню давялося ўдзельнічаць у рабоце вышэйшага форуму савецкіх камуністаў — XXVII з'езда партыі. Цяжка пераказаць усе думкі і пачуцці, якія перажыў у тыя незабыўныя дні. Вось і цяпер, успамінаючы прамову Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, выступленні дэлегатаў, якія прадстаўлялі ўсе слаі нашага народа, я быццам зноў і зноў акунаюся ў тую насычаную працай атмасферу, у тое гарэнне адданых сэрцаў, з якіх шырокімі хвалямі ўліваліся ў свядомасць прысутных іх гарачая любоў да нашай вялікай Радзімы, новыя і новыя прапановы, як зрабіць жыццё людзей больш шчаслівым і заможным, як накіраваць увесь магутны арсенал навукова-тэхнічнага прагрэсу на стварэнне тытанічных сіл, з дапамогай якіх нам трэба рэзка павысіць вытворчасць працы, падвоіць наш прамысловы патэнцыял.

Слухаў я выступленні дэлегатаў і сам у сябе пытаўся: «А што я здолеў зрабіць для людзей на тым рабочым месцы, якое яны мне даверылі? Як думаю выконваць грандыёзныя задачы, якія партыя ставіць перад кожным працаўніком, а, значыць, і перада мной?»

Што і гаварыць, да з'езда зроблена нямала. Перад вачамі праходзяць усе дні, напоўненыя самаадданай працай. Адзінаццатую пяцігодку закончылі паспяхова, з выкананнем вытворчага плана на 109 працэнтаў. У гонар адкрыцця з'езда партыі брыгада ўзяла абавязацельствы выдаць на-гара 5 тысяч тон калійнай руды звыш плана. Выдалі значна больш. Прыйшлося ў гэтай пяцігодцы перайсці на новую тэхніку. Раней здабывалі руду з дапамогай камбайна КШ-ЗМ, а ў жніўні 1984 года асвоілі новы комплекс ЕДВ-600. Канечне, тэхніка новая, больш прадукцыйная і — больш складаная. Але члены брыгады паспяхова асвоілі яе і нават унеслі рацыяналізатарскія прапановы для ўдасканалення яе — паставілі гідрацыліндры на эстакадзе канвеера і ўпоры на рыштачным ставе. У выніку была выключана ручная праца пры перасоўванні канвеера, а гэта дало добры выйгрыш у часе. А значыць і дадатковыя тоны.

Слухаў я выступленні, а думкамі пераносіўся ў брыгаду, якая ў гэты час была ў забоі. Хацелася падзяліцца з імі ўсім тым, што адбывалася ў гэты час у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, расказаць пра велічныя планы партыі. Быў упэўнены, што і яны захапляліся б грандыёзнымі ідэямі з'езда. І я не памыліўся, калі, прыехаўшы з Масквы, расказваў ім аб гэтым. Працуем мы адной брыгадай з 1974 года. Кожны ведае ўсіх і упэўнены, што яго ніхто не падвядзе. І ўсе ведаюць кожнага і знаюць, што справа брыгады — справа кожнага. І гэта вера адзін у аднаго, упэўненасць у цвёрдым плячы таварыша неаднаразова дапамагала нам дабівацца добрых вынікаў у сацыялістычным спаборніцтве. На нашым рахунку першыя месцы ў аб'яднанні і міністэрстве. Сем разоў перамагалі ў спаборніцтве на сваім рудніку і звыш плана здабылі пяцьдзесят тысяч тон руды. Сёння не магу не адзначыць ударную працу машыністаў Івана Цімафеевіча Вярбіцкага і Анатоля Філіпавіча Няброева, Сяргея Тройніча і Васіля Ахрамовіча і іншых. Словам, добра працуюць усе. Менавіта таму, што ўсе члены брыгады маюць сярэднюю адукацыю, што ўсе цікавяцца тэхнікай, ведаюць і любяць яе. Таму, калі машына пачынае капрызіць, не трэба чакаць дапамогі рамонтнікаў. Іх клічам тады, калі самі не можам управіцца. Брыгада горача адгукнулася і падтрымала пачын рабочых Свярдлоўскай вобласці аб калектыўнай адказнасці за працоўную дысцыпліну, арганізацыю работы і выкананне плана.

Так мы сустракалі XXVII з'езд нашай партыі. Так будзем працаваць і далей.

**Георгій САВАНОВІЧ, дэлегат XXVII з'езда КПСС, брыгадзір рудніка Трэцяга рудаўпраўлення вытворчага аб'яднання «Беларуськалій» імя 50-годдзя СССР.**

**Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**

## ДЫЯЛОГ-УСПАМІН, АБО ЎСТУП ДА ПЕРШАГА РАЗДЗЕЛА



# КВЕТКА НА ДАЛОНІ РАСІІ

**Мікалай ЗЯНЬКОВІЧ**

Фірменны экспрэс «Татарстан» адышоў ад Казанскага вакзала сталіцы вечарам, але яшчэ да прыцемак. Наперадзе была цэлая ноч і частка раніцы: цягнік прыбываў у Казань пасля дзесяці гадзін дня...

Суседка па купэ, маладая жанчына з прыемнай знешнасцю па нейкіх толькі ёй бачных асаблівасцях паводзін выпадковага спадарожніка беспамылкова здагадалася:

— Упершыню да нас?

Праз нейкі час мы ўжо вялі ажыўленую гаворку пад стук вагонных колаў, з задавальненнем смакуючы выдатны чай з прыгожых кубкаў з нацыянальным арнаментам, якія гасцінна паставіла перад намі праваднiца.

Забягаючы наперад, скажу, што праз два тыдні, удосталь павандраваўшы па дарогах Татарыі, я зноў прыехаў у Казань і зусім нечакана сустрэў сваю спадарожніцу... у адным з цэхаў друкарні новага будынка Дома прэсы, наведаць які надта ўпрошвалі казанскія калегі.

— Знаёмцеся,— прадставілі яе мне.— Дзільбар Таліпаўна Хайруліна, начальнік вытворча-тэхналагічнага аддзела газетна-часопіснага выдавецтва. Заслужаны работнік культуры нашай аўтаномнай рэспублікі.

Дзільбар Таліпаўна весела засмяялася. Сапраўды, вось дык сустрэча! Калі б не яна, так бы і разышліся, не пацікавіўшыся, з кім столькі было перагаворана ў поездзе. Да таго захапіліся тады размовай, што абмежаваліся мінімумам звестак: імем і імем па бацьку ды хто адкуль родам.

Што ж гэта за размова была, калі яна парушыла традыцыйныя для спадарожнікаў вагонныя тэмы?

Упэўніўшыся, што я еду ў Татарыю ўпершыню і маю намер павандраваць па яе дарогах аж паўмесяца, Дзільбар Таліпаўна адразу ж пашкадавала:

— Толькі два тыдні? Мала што можна ўбачыць за такі тэрмін.

— Ну, відаць, часу на галоўныя славутасці ўсё ж хопіць. Казань, горад Брэжнеў з яго славутым КамАЗам, нафтавыя промыслы,— пачаў я пералічваць мясціны, якія меў намер пабачыць.

Іх раіў наведаць Раіс Кіямавіч Бяляеў, сакратар абкома партыі. З ім мне ўдалося пагаварыць па тэлефоне з Масквы. А выйсці на яго парэкамендавалі калегі з часопіса «Новый мир», якія ведаюць Раіса Кіямавіча з тых часоў, калі ён яшчэ ўзначальваў гарком партыі ў Набярэжных Чаўнах, цяпер горад Брэжнеў, а навамірцы стварылі там літаратурны пост свайго часопіса. Потым, у Брэжневе, я не сустракаў ніводнага чалавека, які б вымаўляў прозвішча Бяляева без захаплення. Скажам шчыра, нячаста ў нашай літаратуры з'яўляюцца мастацкія творы, дзе першы сакратар гаркома партыі быў бы выведзены пад уласным імем. А вось Бяляеў выведзены. У рамане-дылогіі Ф. Відрашку «Набярэжная надзеі».

Мой тэлефонны званок застаў Раіса Кіямавіча ў службовым кабінеце выпадкова. Ён быў у адпачынку, толькі што вярнуўся з поўдня, і ледзь толькі апусціў дарожны чамадан у пакоі сваёй кватэры, як адразу ж накіраваўся ў абком. Меў намер пабыць там зусім нямнога, аб чым даў жонцы цвёрдае слова. І не выканаў абяцання. Жонка ўжо колькі разоў званіла (зразумей жа, нарэшце: ты ў адпачынку, толькі што з самалёта, ванну нават не прыняў). Раіс Кіямавіч сабраўся ўжо было дадому, і тут міжгародні званок зноў затрымаў яго ў крэсле.

Просьба назваць самыя цікавыя мясціны Татарыі, якія б далі ўражанне аб гэтым маляўнічым, самабытным краі цэнтральнага Паволжа, не захапіла знянацку сакратара абкома. За многія гады, праведзеныя на партыйнай рабоце, ён прывык вырашаць самыя незвычайныя, самыя нечаканыя пытанні. Таму і зараз даў вычарпальны адказ і, як і казалі знаёмыя навамірцы, з уласцівай яму ўвагай і далікатнасцю да субяседніка папрасіў абавязкова зайсці да яго ў абком перад ад'ездам у Маскву — к таму часу ён ужо выйдзе з адпачынку.

Шчыра падзякаваўшы, я пачаў рыхтавацца да паездкі. Што мне было вядома пра Татарыю? Я ведаў, што гэта савецкая сацыялістычная аўтаномная рэспубліка, сталіца яе — горад Казань — размешчана на Волзе, ведаў пра славуты Казанскі універсітэт, у якім вучыўся У. І. Ленін і з якога быў выключаны за ўдзел у студэнцкім рэвалюцыйным руху, пра тое, што малады Ульянаў адбываў сваю першую ссылку ў вёсцы Какушкіна непадалёк ад Казані. Канечне, чытаў і чуў пра будаўніцтва ў Набярэжных Чаўнах гіганта айчыннага аўтамабілебудавання — КамАЗа, са школьных падручнікаў помнілася, што Татарыя — край багатых запасаў прамысловай сыравіны.

Вось, бадай, і ўсе звесткі. Хаця не: з сярэдзіны шасцідзесятых гадоў у свядомасць трывала запалі імя і прозвішча — Муса Джаліль. Памятаю, як у юнацтве моцна ўразілі гарачыя радкі і гераічны лёс нязломнага сына татарскага народа, ягонага выдатнага паэта, закатаванага ў фашысцкай крэпасці Маабіт. Дагэтуль помняцца мужныя строфы перакладзенага на беларускую мову і выдадзенага ў Мінску «Маабіцкага сшытка»— адзінай у сваім родзе кніжкі, напісанай алоўкам на шматках паперы ў варожым палоне. І яшчэ, таксама са школьнага падручніка: ратуючыся ад карычневай навалы, у Казані спыніўся і нейкі час жыў наш Янка Купала.

Дзільбар Таліпаўна толькі ўсміхалася, слухаючы мае скупыя звесткі пра яе радзіму. Потым загаварыла яна, і я зразумеў, што праўда на яе баку; сапраўды, каб даведацца, што гэта за куток, куды я еду, двух тыдняў мала.

Калі б вы толькі чулі, з якой любоўю і гордасцю расказвала мая спадарожніца пра родны край! Дзіва што былі начыста забыты тэмы, на якія звычайна вядуць гаворку ў цягніках незнаёмыя людзі, каб бавіць час. Карацей кажучы, дзякуючы сваёй мілай спадарожніцы, я ступіў на перон чыгуначнага вакзала ў Казані даволі дасведчаным чалавекам у пытаннях гісторыі, геаграфіі, эканомікі, культуры, фальклору Савецкай Татарыі.

Я выдатна разумеў пачуцці Дзільбар Таліпаўны, калі яна з найглыбокай пашанай паведаміла, што ля калыскі стварэння Татарскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі стаяў У. І. Ленін. Кожны раз, калі майго слыху кранаюцца такія словы, міжволі адчуваю цеплыню і шчырасць да тых, хто іх вымаўляе. Гэтыя людзі адразу становяцца нібы раднейшымі, больш блізкімі і дарагімі. І мяне ахопліваюць такія ж пачуцці, і я бязмежна ганаруся, калі кажу, што ля вытокаў стварэння дзяржаўнасці маёй мілай Беларусі быў Уладзімір Ільіч Ленін. І ў такія вось хвіліны з асаблівай гарачынёй усведамляеш: якое ж гэта вялікае шчасце быць савецкім чалавекам! Колькі ў нас, прадстаўнікоў розных народаў СССР, агульнага, дарагога, што аб'ядноўвае, збліжае і парадняе!

Між тым, ноткі гордасці ў голасе спадарожніцы не знікаюць. Падстава ёсць, і немалая: менавіта сам Ленін прапанаваў зрабіць Казань сталіцай Татарскай АССР. А ўтворана рэспубліка была згодна з ягоным дэкрэтам ад 27 мая 1920 года. Праўда, пытанне аб стварэнні нацыянальнай дзяржаўнасці татараў Уладзімір Ільіч разглядаў значна раней. З гэтай мэтай па яго ініцыятыве яшчэ ў студзені 1918 года быў створаны Камісарыят па справах мусульман Унутранай Расіі на чале з палымяным рэвалюцыянерам Мулланурам Вахітавым. Але цяжкае становішча на Усходнім фронце ў час грамадзянскай вайны не давала такой магчымасці. Загінуў ад рук белагвардзейцаў Вахітаў. Помнік вернаму паплечніку Леніна абавязкова паглядзець трэба, ён на адной з новых плошчаў у цэнтры горада.

## 1. *Тут юны Ленін крочыў*

Я жыў у Казані некалькі дзён. Блукаў па яе старажытных вуліцах, наведваў новыя жылыя масівы, музеі, Казанскі крэмль, любаваўся маляўнічым краявідам Волгі, што адкрываўся з рачнога порта, праводзіў позіркам уражлівыя гмахі двух- і трохпалубных прыгажуноў-цеплаходаў, выцягнутыя абрысы вёрткіх «метэораў» і «ракет» на падводных крылах, і літаральна на кожным кроку сутыкаўся са сведчаннямі даўніны, якая стала зайздроснай часткай біяграфіі славутага горада на вялікай рускай рацэ. Гідам па Казані быў Рэнат Закіраў — малады вучоны, энцыклапедычна падрыхтаваны чалавек, бязмежна ўлюбёны ў свой горад. Закіраў бясконца сыпаў імёнамі славутых людзей, чый лёс у розны час быў злучаны з Казанню, Татарыяй.

Першае, самае ганаровае месца казанцы па праву надаюць Уладзіміру Ільічу Леніну. Няўмольна мінаюць хуткакрылыя гады, абнаўляюцца пакаленні, і толькі нязменна застаецца велізарнае пачуццё найвялікшага шчасця, што менавіта іх гораду выпала ўвайсці ў гісторыю як месцу, дзе семнаццацігадовы Уладзімір Ульянаў упершыню ўступіў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Гэта пачуццё — адметная рыса жыхароў Казані, і перадаецца яно ад бацькоў да сыноў і ўнукаў ужо як сямейная маральная



**Уладзімір Ільіч Ленін.** **Масква, 23 красавіка 1920 года. Фота Льва ЛЕАНІДАВА.**

каштоўнасць, своеасаблівая фамільная гордасць.

Таму так і шануюць казанцы ўсе мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Уладзіміра Ільіча, таму і акружылі іх нястомнай увагай і шчырай любоўю народнай.

З глыбокім хваляваннем падыходзілі мы да будынка Казанскага дзяржаўнага універсітэта. Ля яго галоўнага корпуса — помнік У. Ульянаву-студэнту. На паліраваным граніце ўзвышаецца постаць юнака ў форменнай тужурцы, накінутай на адно плячо.

— Звярніце ўвагу,— чуецца ціхі голас Рэната Зінуравіча,— як удала спалучаецца скульптура з агульным архітэктурным ансамблем старога будынка. Я тут бываў мноства разоў, і заўсёды такое адчуванне, нібы Уладзімір Ульянаў кожную раніцу сустракае студэнтаў, якія збіраюцца на заняткі. Здаецца, што ён заўсёды з імі і ніколі не пакідаў універсітэт.

Мой спадарожнік тлумачыць — помнік адкрыты ў лістападзе 1954 года:

— Якраз святкавалі 150-годдзе нашага універсітэта. Дарэчы, Казанскі універсітэт — па ўзросту самы старэйшы ў Расіі пасля Пецярбургскага і Маскоўскага.

Рэнат Зінуравіч запрашае ў ленінскі мемарыял. Ён размешчаны на другім паверсе галоўнага корпуса універсітэта. Па дарозе расказвае, што мемарыял тут адкрылі ў час святкавання 100-годдзя з дня нараджэння правадыра.

Другі паверх будынка. Ля ўвахода ў выставачную залу — скульптурныя партрэты М. Я. Федасеева і Х. М. Ямашава — першых распаўсюджвальнікаў марксізму ў Казані. Нас сустракае маладая прыгожая дзяўчына. Яна студэнтка універсітэта, грамадскі экскурсавод мемарыяла. Пачынаецца хвалюючае знаёмства з матэрыяламі аб жыцці і дзейнасці юнага Валодзі Ульянава.

— Перад вамі — скульптурны партрэт Ільі Мікалаевіча Ульянава,— гучыць голас экскурсавода.— Бацька Леніна быў таксама выхаванцам нашага універсітэта. Ён нарадзіўся ў сям'і бедных мяшчан. У раннім дзяцінстве страціўшы бацьку, Ілья Мікалаевіч на ўласным лёсе адчуў увесь цяжар гаротнага жыцця выхадца з нізкага саслоўя. Дзякуючы дапамозе старэйшага брата Васіля яму ўдалося закончыць Астраханскае павятовае вучылішча, а затым і гімназію. У 1850 годзе дзевятнаццацігадовы Ілья Ульянаў атрымаў атэстат сталасці і паступіў у Казанскі універсітэт. Закончыў яго бліскуча: атрымаў званне кандыдата па разраду матэматычных навук і паехаў у Пензу, дзе пачаў выкладаць матэматыку і фізіку. Ілья Мікалаевіч паставіў перад сабой мэту — аблягчаць дзецям з беднаты шлях да ведаў і да канца свайго жыцця быў ёй верны. Ён усяго сябе аддаваў справе, якой служыў самааддана, горача, натхнёна. Дырэктар народных вучылішчаў Сімбірскай губерні І. М. Ульянаў шмат зрабіў для асветы народаў Паволжа. Яго кіпучая дзейнасць абарвалася раптоўна. Дванаццатага студзеня 1886 года, на 55-м годзе жыцця, Ілья Мікалаевіч памёр.

Экскурсавод падводзіць нас да стэндаў з матэрыяламі, якія прысвечаны Валодзю Ульянаву. Многае з таго, аб чым яна расказвае, вядома па школьных і універсітэцкіх падручніках. Згадзіцеся, цяжка знайсці ў наш час чалавека, які б не быў знаёмы з біяграфіяй вялікага правадыра. І ўсё ж, гледзячы на ксеракопіі сапраўдных дакументаў, зусім па-іншаму ўспрымаеш і тое, што ведаў дагэтуль сам, і тое, што чуеш зараз у гэтай незвычайнай аўдыторыі, дзе некалі хадзіў, сядзеў, слухаў лекцыі, размаўляў з таварышамі найвялікшы з усіх прайшоўшых па зямлі людзей. Што ні кажыце, велізарнай, амаль магічнай сілай валодаюць старыя, пажаўцелыя ад часу, паперы! Хвала ж ім, сціплым, непрыкметным, але неўтаймаваным, няўрымслівым духам, хто збірае, сістэматызуе, беражліва захоўвае для нашчадкаў свяшчэнныя радкі гістарычнай памяці народа!

Перад намі — зашклёная драўляная рамка з атэстатам Валодзі Ульянава. Колькі разоў даводзілася чуць, што Сімбірскую гімназію Валодзя скончыў з залатым медалём. Выдатныя адзнакі па ўсіх прадметах! І тут жа, пад табелем паспяховасці, замацаваныя пячаткай і подпісамі адказных службовых асоб, усе правы, дадзеныя ўладальніку гэтага атэстата, у тым ліку і права неадкладнага залічэння ва універсітэт.

Пра сталічныя навучальныя ўстановы нельга было і марыць: пасля пакарання смерцю старэйшага брата Аляксандра шлях Валодзі ў Маскоўскі і Пецярбургскі універсітэты быў закрыты. Вырашана было паступаць у Казанскі. Казань была блізкай сям'і Ульянавых. Там вучыўся Ілья Мікалаевіч, у гэтым горадзе жылі родныя па лініі маці Валодзі. Вядомы сваімі вучонымі універсітэт, багатая бібліятэка, музей, оперны і драматычны тэатры, прагрэсіўная інтэлігенцыя — усё гэта выгадна вылзяляла Казань з шэрага іншых гарадоў Паволжа, і яна па праву лічылася адным з буйных культурна-навуковых цэнтраў Расіі. Актывізавалася тут і канцэнтрацыя прамысловасці, якая мела вялікае значэнне для развіцця і росту рабочага руху ў Казанскай губерні. Дастаткова сказаць, што ў сярэдзіне 80-х гадоў тут ужо налічвалася каля 300 фабрык і заводаў, на якіх працавала каля 8 тысяч рабочых. Непрыкметна рос слой перадавых пралетарыяў.

«Цяпер такі час, калі трэба вывучаць навукі права і палітычную эканомію. Мажліва ў іншы час я выбраў бы іншыя навукі...»,— пісаў Валодзя Ульянаў стрыечнаму брату М. Верацeннікаву, тлумачачы выбар спецыяльнасці. Ён, як вядома, вырашыў паступаць на юрыдычны факультэт. Прашэнне на імя рэктара універсітэта датавана Ульянавым 29 ліпеня 1887 года. У левым кутку страхуючая ад непрыемнасцей, якія маглі ўзнікнуць у сувязі з прыняццем ва універсітэт брата пакаранага смерцю рэвалюцыянера, рэзалюцыя рэктара Крамлёва: «Адтэрмінаваць да атрымання характарыстыкі». Побач — характарыстыка педагагічнага савета Сімбірскай гімназіі: «Вельмі таленавіты, пастаянна добрасумленны і акуратны, Ульянаў ва ўсіх класах быў першым вучнем і пры заканчэнні курса ўзнагароджаны залатым медалём, як самы дастойны па поспехах, развіцці і паводзінах...» Толькі пасля атрымання такой характарыстыкі на прашэнні Ульянава 13 жніўня Крамлёў учыніў літасцівую рэзалюцыю: «Прыняць». Гэтыя рэзалюцыі — хіба не ўзор крывадушнасці і палахлівасці рэктара, хіба не характарыстыка прафесараў імператарскага універсітэта, хіба не адлюстраванне заведзеных там парадкаў?

Тры месяцы правучыўся Валодзя Ульянаў у Казанскім універсітэце. Тады тут было чатыры факультэты, на іх вучылася 918 студэнтаў. Царскі ўрад імкнуўся выкарчаваць рэвалюцыйную «крамолу» з навучальных устаноў. Мясцовыя ўлады, ад губернатара да інспектара студэнтаў, шалёна праводзілі палітыку ўрада. Рэпрэсіі ўзмацняліся з зацвярджэннем у 1887/88 навучальным годзе новага рэакцыйнага універсітэцкага статута. На яго падставе універсітэцкая аўтаномія была ліквідавана. Студэнцкія сходкі аб'яўляліся незаконнымі. «Кухарчыных дзяцей» выганялі з аўдыторый. Усе студэнцкія арганізацыі — зямляцтвы, касы ўзаемадапамогі, студэнцкія бібліятэкі забараняліся. Уводзіліся новыя пасады — інспектараў студэнтаў, якія надзяляліся функцыямі паліцэйскіх і жандараў. Рэпрэсіўныя меры ў адносінах да студэнтаў былі састаўнымі звеннямі ў агульным ланцугу рэакцыйнай палітыкі царскага ўрада. І яна выклікала адпор, гнеў і супраціўленне моладзі.

З гісторыі вядома, што першым рэвалюцыйным хрышчэннем маладога Леніна быў удзел у студэнцкай сходцы 4 снежня 1887 года, за што яго выключылі з універсітэта і ў ноч з 4 на 5 снежня арыштавалі. «У снежні 1887 года я быў першы раз арыштаваны і выключаны з Казанскага універсітэта за студэнцкія хваляванні; затым высланы з Казані»,— пісаў У. І. Ленін у незакончанай аўтабіяграфіі. «Арышт і высылка ў 1887 годзе, правёў у турме некалькі дзён»,— запісаў ён 14 снежня 1921 года ў асабістай анкеце дэлегата XI Усерасійскай канферэнцыі РКП(б), адказваючы на пытанне: ці падвяргаўся рэпрэсіям за рэвалюцыйную дзейнасць (калі).

Месцам студэнцкай рэвалюцыйнай сходкі была актавая зала універсітэта. Яна захавалася ў тым жа выглядзе да сённяшняга часу. Са школьных гадоў помніцца карціна мастакоў М. Жукава і М. Самсонава «На сходку!» Натхнёныя, рашучыя твары студэнтаў, наперадзе імкліва крочыць Ульянаў у расшпіленай студэнцкай тужурцы, у яго правай руцэ — петыцыя, калектыўна распрацаваная і зацверджаная ўдзельнікамі сходкі.

Мы ў гэтай зале. Гулка б'ецца сэрца. Праз год будзе роўна стагоддзе, як вось тут, на гэтым месцы, найвялікшы чалавек, якому наканавана змяніць ход падзей і самой сусветнай гісторыі, зрабіў першы смелы крок насустрач прамяністай мэце, якая вабіла яго. Цішыня. Замоўкла экскурсавод, супакоіўся Рэнат Зінуравіч. Тут не патрэбны словы. Тут трэба даць волю пачуццям. Невялікае намаганне, і перад вачамі нібы ажывае адлюстраваная на карціне падзея.

...Дванаццаць гадзін дня. Універсітэт жыве звычайнымі рытмамі: крочаць сівабародыя светачы навукі з тоўстымі партфелямі, вітаюцца з калегамі, няспешна аб нечым размаўляюць. Спакой і цішыня ў калідорах раптам парушаецца тупатам ног многіх людзей. «На сходку, таварышы, на сходку!» Адчыняюцца дзверы аўдыторый, кабінетаў, адтуль выскокваюць групы студэнтаў, подбегам імчацца ў вестыбюль. Там — агульны збор. Узбуджа-

(Заканчэнне на 36-й стар.)








# Фантазіі на тэму „МАЗа"







Фотанарыс Уладзіміра ШУБЫ.



□ Работа над мадэлямі аўтамабіляў — ювелірная.
□ Генеральнаму канструктару аб'яднання «БелаўтаМАЗ» лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР Міхаілу Сцяпанавічу Высоцкаму (справа) таксама іншы раз даводзіцца раіцца з Іосіфам Уладзіміравічам Сасноўскім.
□ Аўтарскія пасведчанні на вынаходніцтвы і пасведчанні на рацыяналізатарскія прапановы, атрыманыя Іосіфам Сасноўскім.
□ Кожную раніцу разам з сынам Аляксандрам накіроўваецца І. У. Сасноўскі на родны завод, каля ўвахода якога, на пастаменце — першынец беларускіх аўтамабілебудаўнікоў «МАЗ-205», з якога пачалася рабочая біяграфія Іосіфа Уладзіміравіча.
□ У эксперыментальным цэху ідзе работа над новым макетам. Злева направа: слесары механазборачных работ Мікалай Мікалаевіч Кашэль, Іосіф Уладзіміравіч Сасноўскі, Аляксандр Паўлавіч Шароў.
□ На дарозе — «МАЗ-6422».

Справа, якой займаецца Іосіф Уладзіміравіч Сасноўскі, чалавеку недасведчанаму можа здацца не зусім сур'ёзнай. Слесар высокага разраду ўвесь свой працоўны дзень майструе мініяцюрныя машынкі з пластыліну, дрэва або металу. Але няхай не здаецца дзіўным, што без іх, гэтых машынак, не атрымае пуцёўку ў жыццё ніводная з новых мадыфікацый магутных самазвалаў, якія выпускаюцца вытворчым аб'яднаннем «БелаўтаМАЗ». Таму што не цацкі, а макеты, дзе ў зменшаным выглядзе да мікрона вытрыманы ўсе прапорцыі будучых аўтамабіляў, стварае Сасноўскі. І робіцца гэта, вядома ж, не дзеля пацехі. «Цацачныя» вырабы Іосіфа Уладзіміравіча закліканы сказаць, ці «вытрымае» задумы дызайнераў метал, ці прыме новыя распрацоўкі канструктараў вытворчасць. Яны дапамагаюць знаходзіць агульную мову дзвюм вельмі важным службам прадпрыемства — дызайнерскай і тэхналагічнай.

Амаль чвэрць стагоддзя мінула з той пары, як былы сапёр упершыню пераступіў парог прахадной Мінскага аўтамабільнага завода. Звольніўшыся ў запас, прыйшоў сюды Іосіф Сасноўскі вучыцца слясарнай справе. Ужо праз некалькі дзён ён здаў на самы высокі — пяты разрад, а праз два месяцы авалодаў усімі аперацыямі зборачнага канвеера. Неўзабаве малады рабочы стаў лепшым кузаўшчыкам завода. Тады і запрасілі яго працаваць у бюро мастацкага канструявання: там патрэбны былі людзі, якія валодалі высокім прафесійным майстэрствам, фантазіяй, здольнасцю без чарцяжа, па малюнку рабіць макеты будучых машын. Іосіф Уладзіміравіч стаў проста незаменным спецыялістам.

Ён прымаў удзел у стварэнні амаль усіх марак машын, якія выпускала прадпрыемства. Выканаў каля ста макетаў, правяраючы «жыццяздольнасць» той ці іншай канструктарскай ідэі. На адны часу затрачвалася нямнога — тыдзень, два. На другія — амаль паўгода. Цяпер мініяцюрныя мадэлі Сасноўскага захоўваюцца ў макетнай зале завода, прадстаўлены ў экспазіцыі розных музеяў краіны, на ВДНГ, часта экспануюцца на замежных выстаўках.

Сярод апошніх работ Іосіфа Уладзіміравіча — макет «МАЗа-6422», зменшаны ў параўнанні з арыгіналам у 100 разоў. Ён змяшчаецца на далоні, але і тут, як і ў папярэдніх работах майстра, усё адпавядае дэталям сапраўднай машыны.

Ствараючы гэты аўтамабіль, інжынеры і канструктары перш за ўсё клапаціліся пра вадзіцеля. Дзякуючы надзейнаму прыбору падагрэву ў кабіне цёпла нават у саракаградусны мароз, за спінкай сядзення — два спальныя месцы, халадзільнік, зручная палічка для рэчаў вадзіцеля. Траўмабяспечны руль, які рэгулюецца па вышыні і нахілу, забяспечвае дадатковыя зручнасці і бяспеку. У «даводцы» канструкцыі ўсіх гэтых дэталей непасрэдны ўдзел прымаў Іосіф Уладзіміравіч.

Добрае слова могуць сказаць вадзіцелі ў яго адрас за ўдала знойдзенае месца ўстаноўкі фільтра, за зручныя поручні і супрацьсонцавыя шторкі ў кабіне. Дарэчы, ідэя ўдасканалення канструкцыі шторак нарадзілася, калі Сасноўскі быў у дарозе. Вяртаючыся з камандзіроўкі на спадарожнай машыне, Іосіф Уладзіміравіч звярнуў увагу на тое, што ад трасення супрацьсонцавы казырок увесь час спаўзаў і перашкаджаў вадзіцелю назіраць за шашой...

У аўтарскім багажы Сасноўскага нямала пасведчанняў на вынаходніцтвы, сярод якіх ёсць і нечаканыя — напрыклад, за стварэнне механізма перамяшчэння фотаружжа або за канструкцыю адной з дэталей швейнай машынкі. У творчасці ён нястомны. І таму побач з яго рабочым сталом — кульман.



Генадзь БУРАЎКІН

# *Пісьмо Пятру КЛІМУКУ з заснежанай Камароўкі*

Панасыпала сёння сумётаў,
Аж схаваліся яблынь камлі —
Быццам сотня тваіх самалётаў
Пракаціла віхор па зямлі,
Быццам хмарай пранесліся гусі —
Кожны скінуў на вёску пяро...
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро.

Гэта можна ўявіць толькі дома —
Як заснулі ў палях маразы,
Як звіняць заінелыя бомы
І пад сонцам блішчаць палазы,
Як на белым бяскрайнім абрусе
Зіхаціць завірух серабро...
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро.

Хай дымы рассцілае сталіца
Неадмытай старой прасцінай,
Я з табою хачу падзяліцца
Першабытнай зямной чысцінёй,
На прасторы, расчыненым насцеж,
Цёплым промням падставіць шчаку
І рыпучую сцежку пракласці
Па сляпучым глухім цаліку,
Каб сіберныя ветры атрэслі
Сум настылы з кашлатых хваін
І касмічныя трасы і стрэсы
Ты забыў хоць на дзесяць хвілін...

Не паддайся сумненню і скрусе,
Не прыхоўвай у сэрцы дабро —
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро!

**Пятро Клімук з Данілам Міцкевічам пад яблыняй, якую пасадзіў Якуб Колас.**

**Здымак зроблены ў 1976 годзе.**

**Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.**

# ПАЭЗІЯ



**Пімен ПАНЧАНКА**

### *Эпоха*

Схіляю я ў роздуме
Зноў галаву:
Няўжо не ў сваю
Я эпоху жыву?

Ні звычак старых,
Ні народнай маралі.
За што ж нашы хлопцы
Ў баю паміралі?

Ні дружбы з суседам,
Ні чорта, ні бога.
Якая ты, сёння,
Чыя ты эпоха?

Правіцелі розных краін —
На нажах.
Над светам — ракеты
І ядзерны жах.

І мова нязвыклая
У моладзі сёння:
Рок-музыка, «Грундынг»,
Поп-музыка, «Соні».

І пафас прафесій
Інакшы узнік:
Дызайнер і бармен,
Спартсмен і мяснік...

І цягнецца нехта
Туды, дзе выгодна,
Дзе ярка і гучна,
Прэстыжна і модна.

Ды гэта ўсё пена,
Гарэзлівасць дзён,
Расход накладны —
Быў і ты маладзён.

А век наш грымотны,
Круты, навальнічны.
Са светам старым
Ён заўжды пагранічны.

А ў моладзі нашай
Імклівы разбег:
Сягоння на БАМ,
А пасля — на Казбек.

І радасці тыя ж,
І тыя ж хваробы,
Што ў добрых станочнікаў
І хлебаробаў:

Шуканне, чаканне
І хваляванне,
Зачараванне —
Расчараванне.

І моладзь,
Што вырасла
На цаліне,
Вайну аб'явіла
Зорнай вайне.

І людзі, што выраслі
Сёння на БАМе,
За намі і з намі,
Франтавікамі.

А значыць,
Жыву я ў эпоху сваю,
Якую мы ўсе
Здабывалі ў баю.

■ ■ ■

І вера, і вернасць, і вечнасць,
І наш паэтычны туман —
А мо гэта ўсё недарэчнасць
І нейкі сусветны падман?

І гэта крынічнасць, сунічнасць,
Вавёрка, і верас, і бор —
Зялёная сімвалічнасць,
А шчасця ў жыцці недабор.

І хто нам раскажа пра гэта,
Ці быў наш задуманы лёс
На грані крывавых трагедый,
Пад страхам пякельных нябёс?

Ці мы захацелі замнога
У прагнасці лютай сваёй
Ад маці-прыроды, ад бога,
Ад крохкай натуры людской?

Забылі зямлі прыцягненне
І космасу жудасны лёд.
На розум зышло зацямненне,
Няма ўжо ні мар, ні натхнення:
Ля бездані — мудры наш род...
Мы верым надзеям глыбінным:
Жыццё наша не зарасце
Травою.
Яно ў нас павінна
Быць вечна чысцей і прасцей.

### *Персанальныя шаферы*

Вечна не хапае нам шафёраў,
Трактарыстаў і будаўнікоў.
А кармы ці гной развозіць — гора,
Бо не навучыліся ў бацькоў.

А размах той шоферагадоўлі —
Легкавухі пруць з усіх бакоў!
Трэба нам шафёры на будоўлях,
А яны развозяць жарабкоў.

Безліч, процьма ў нас шафёраў штатных,
Кожны выглядае каралём...
Ну, калі стары альбо не здатны,
Дзе яму ўжо ёрзаць за рулём.

Хворы там на вочы ці нервовы,
Альбо з вельмі важнага звяна.
Ну а тут здаровы, папяровы,
Канцылярскі гарадскі званар.

Каб дырэктар там альбо міністр,
Генерал — заўжды на варце ён...
Ды цякуць дзяржаўныя каністры,
У кішэнях нейчых — добры звон.
Так шафёр начальніка панее:
Паганяў бензінавы дымок,
Нахапаў «кліентаў» на панелі,
Тры гады — машына і дамок.

Не чапай шафёрскую ты касту:
Раз начальнік — трэба і шафёр.
Ды замоўкні ты, крыкун клыкасты!—
Чую нейчых жонак злосны хор.

Хлопцы, ў персанальныя не прыце!
Папрацуйце — і дастатак прыйдзе.
Вы, дзяржпланы,
штаты ўсе папраўце,
Каб жылося ўсюды ў нас
па праўдзе.

Ад школьных год і да труны
Жанчын вачмі мы мераем.
Сінхронным плаваннем яны
Звядуць пенсіянераў.

Рака і сонца. Прыгажосць!
Забыў пра паражэнні.
Практычны час. Разлік і злосць.
Але і заляцанне ёсць.
І галавакружэнне.

А колькі ветэрану год?
Ізноў яны пра годы...
Калі ўлюбіўся Дон Кіхот
І закахаўся Гётэ?

■ ■ ■

Глядзець на зарыва калін?
Заслухацца салоўкам?
Няма калі, няма калі,
Патрэбна бегчы зноўку:

Схадзі у бліжні лес з дачкой,
Сынка вазьмі павудзіць...
Бягу ў шаснаццаты пакой:
Такі тугі ў нас вузел.

Прынесці жонцы сёння бэз
І маці ліст адправіць?
Які там бэз, які там лес:
Ну, проста душаць справы.

Калі з малымі мне гуляць?
Хай кніжкі лепш лістаюць.
Каб навучаць і папраўляць,
Ёсць школа і настаўнік.

І ў той штодзённай мітусні
Ад студня і да студня
Ляцяць, ляцяць за днямі дні,
Пакуль інфаркт не стукне.

Здабыткаў штосьці не відно...
Адзін ляжыць, марнее.
Яго жыцця пустое дно
Не свеціць, а чарнее.

Ляжаў, стагнаў, дзяцей чакаў.
Напрацаваўся чэсна...
Ты дзе, сынок?
Ты дзе, дачка?
Адкуль такая чэрствасць?

■ ■ ■

Яна была ці не была?
Быў дзень. Спякотны дзень.
Яна па воблаку плыла
У свіслацкай вадзе.

Вядома, скрывіцца ханжа:
Ты позіркам не гойсай.
Схавай ты вочы,
Як кінжал
Кладуць у ножны горцы.

Старыя грэшнікі грашаць
І сняць былыя сны.
І я не буду парушаць
Законаў прапісных.

Але ж яна плыла, плыла,
Рукой разбіла сонца
І ў верш мой гэты заплыла,
Як у сасоннік сойка.

### *Слова ветэрана*

Мы — салдаты, а не героі,
А яны закапаны зямлёю
Сорак год ці мо болей назад,
І без іх адбываўся парад.

Мы Радзіме сваёй пакляліся,
Кожны бой свой сумлення вялі...
Можа трохі мы ўжо зажыліся,
Хоць нікому ў цяжар не былі.

Нас амаль што не крыўдзяць.
Нас цэняць.
Пасядзець запрашаюць на сцэне,
Слухаць воплескаў ветлівы гром.
Дзякуй вам!
Мы ўжо хутка памром.

Мы не просім, каб нас вы любілі,
Мы не просім, каб нас шкадавалі.
Просім толькі, каб добра рабілі
І навек засталіся людзьмі.

Мы не хочам, каб вы бедавалі,
Каб і вас, як і нас, разбамбілі.
Хочам мы, каб вы мір збудавалі
І Радзіму любілі як мы.

### *Сумны верлібр*

На Паўночна-Заходнім фронце
У рэдакцыі армейскай газеты
«Героический штурм»
Мы жылі ў зямлянцы
З Міхаілам Святловым.

Вярнуўшыся з часцей,
Адрапартаваўшы і адпісаўшыся,
Мы распальвалі
Вясёлую пячурку
І бралі па добрай франтавой чарцы.

Душа адтайвала,
І Міхаіл Аркадзьевіч
Пачынаў жартоўную арыю:
«Што ў Пімене табе маім?».

Я лагодна ківаў галавой:
«Вот піменна»...
Даўно ўжо знік
Мой друг за небасхілам...

Я падыходжу да таго парога,
Які нікому не ўдалося перайсці.
І страшна запытаць
У роднага народа:
«Што ў Пімене табе маім?».

# ДЫРЭКТАР

## КАМУНІСТ І ЯГО СПРАВА

Так ужо атрымалася, што сустрэчу нашу дырэктар нанапалацкага «Паліміра» некалькі разоў адкладваў. І вось, нарэшце, чую па тэлефоне доўгачаканае: «Прыязджайце!»

Назаўтра, як і дамовіліся, роўна ў дзевяць раніцы быў у прыёмнай. Дырэктар выйшаў з кабінета з заклапочаным тварам, павітаўшыся, адразу прапанаваў ехаць на будаўнічую пляцоўку. Там, ледзь паспяваючы за шпаркім крокам Льва Вітальевіча Наважылава, мы з фотакарэспандэнтам спяшаліся перайсці з лабараторна-бытавога корпуса ў хімічны, адтуль у будынак, дзе вялася кантрольная праверка тэхналагічных ліній па выпрацоўцы валокнаў мапан — заменніка воўны. Зазірнулі яшчэ на адзін аб'ект — у сталовую. Мяркуючы па строгай размове дырэктара з кіраўнікамі падраднай і шэрага субпадрадных будаўнічых арганізацый, якія чакалі яго тут, графік работ парушаўся. Тут жа, на лятучай нарадзе, было абгаворана, хто, калі і што абавязан зрабіць, каб хутчэй «расшыць» вузкія месцы.

«Пераварваючы» першыя ўражанні ад сустрэчы з чалавекам, пра якога і раней даводзілася чуць нямала добрых слоў, я не знайшоўся з адказам, калі, ужо вяртаючыся ў заводакіраўніцтва, Наважылаў незадаволена заўважыў: «Ну, што гэта вы за мяне ўзяліся? Хіба няма пра каго больш пісаць?». Але ўжо праз якую хвіліну голас яго пацяплеў, і, уваходзячы ў «нашы абставіны», ён працягваў: «Прабачце, не хацеў вас пакрыўдзіць... Толькі павінен папярэдзіць: у суботу і нядзелю я вельмі заняты, давайце пачнём і закончым усё сёння».

Гэта было сказана ў пятніцу. Прыйшлося на хаду карэкціраваць план. Добра, што мой калега за тыдзень да гэтага ўжо змог паназіраць за героем будучага фотанарыса і зрабіў некалькі рабочых здымкаў.

Звяртала на сябе ўвагу падкрэсленая сціпласць кабінета дырэктара: нідзе нічога лішняга. На вялікім паліраваным стале ляжаў толькі адзін невялічкі лісток — праграма на тыдзень, або «вузельчыкі на памяць», як сказаў нам сакратар парткома аб'яднання Уладзімір Уладзіміравіч Сасноўскі, хоць лісток той таксама зусім неабавязковы: памяць у Льва Вітальевіча ідэальная. На прадпрыемстве сотні інжынераў, і кожнага ён ведае ў твар, кожнаму можа даць падрабязную характарыстыку. Дасканала валодае дырэктар і тэхнічнымі пытаннямі, узначальвае савет народнага універсітэта тэхніка-



1 □ Устаноўкі вытворчасці поліэтылену.



2 □ Дырэктар вытворчага аб'яднання «Палімір» імя 50-годдзя Беларускай ССР, Герой Сацыялістычнай Працы Л. В. Наважылаў.

эканамічных ведаў. Зарад яго ініцыятывы, актыўнасці, накіраваны на ўдасканаленне вытворчасці, невычарпальны...

Не думаў, не гадаў студэнт Іванаўскага хіміка-тэхналагічнага інстытута Леў Наважылаў, што лёс закіне яго на беларускую зямлю, што будзе будаваць ён у Наваполацку гігант хімічнай індустрыі, а потым і ўзначаліць яго. Пасля заканчэння ВНУ паехаў малады выпускнік па размеркаванню ў Саратаў, працаваў начальнікам цэха на адным з прадпрыемстваў гэтага волжскага горада. Там, дваццаць гадоў назад, стаў камуністам. А ў 1967 годзе ў складзе групы спецыялістаў-хімікаў, людзей дасведчаных, энергічных, прыехаў у Наваполацк, дзе нараджаўся нафтахімічны комплекс.

Меркаваць, які ты кіраўнік, можна і трэба па тым, як працуе пад тваім кіраўніцтвам прадпрыемства, увесь яго калектыў. Пры ўсёй сваёй прастаце формула гэта найбольш поўна адлюстроўвае ісціну. Ва ўсякім выпадку Наважылаву яна падабаецца. Ужо пры яго дырэктарстве, у 1976 годзе, за датэрміновае выкананне заданняў дзевятага пяцігадовага плана, значнае павелічэнне вытворчасці пластычных мас і сінтэтычных валокнаў, стварэнне і асваенне новых высокапрадукцыйных працэсаў і ўстановак калектыў «Паліміра» быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Дзесятая і адзінаццатая пяцігодкі сталі для наваполацкіх нафтахімікаў пяцігодкамі якасці і павышэння эфектыўнасці вытворчых магутнасцей.

Асаблівае месца ў працоўнай біяграфіі аб'яднання займае адзінаццатая пяцігодка. Чатыры разы за гэты перыяд паліміраўцам прысуджаўся пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ з занясеннем на Усесаюзную Дошку гонару на галоўнай выстаўцы краіны. Заслугоўваюць увагі такія вынікі: заданне мінулай пяцігодкі па росту прадукцыйнасці працы яны выканалі за два з паловай гады, звыш плана выпрацавалі і рэалізавалі прадукцыі на многія мільёны рублёў, у тым ліку 2,4 тысячы тон поліэтылену, 4,8 тысячы тон акрыланітрылу, 1,1 тысячы тон валакна нітрон, удвая павялічылі выпуск тавараў народнага спажывання, дабіліся вялікай эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў. Аб'яднанне ў тэрмін выконвае ўсе свае дагаворныя абавязацельствы. А гэта зусім не проста, калі ўлічыць, што прадукцыя прадпрыемства (асартымент яе налічвае каля 500 відаў вырабаў) адпраўляецца больш як 800 спажыўцам, ідзе на экспарт амаль у 20 краін, а ўдзельная вага прадукцыі вышэйшай катэгорыі якасці ў агульным аб'ёме тавараў складае 59 працэнтаў.

І яшчэ адна паказальная рыса: у аб'яднанні няма такой звычкі — карэкціраваць планы ў бок зніжэння. Калі папраўляць ужо нешта, дык толькі ў бок павелічэння. Не кожнаму прадпрыемству гэта па плячы. Дзе ж знаходзіць «Палімір» свае рэзервы? Сакрэтаў у калектыву няма. Тут праводзіцца вялікая работа па паскарэнні навукова-тэхнічнага прагрэсу за кошт удасканалення тэхналагічных працэсаў, мадэрнізацыі абсталявання, расшырэння і рэканструкцыі вытворчасцей, павышэння каэфіцыента выкарыстання магутнасцей дзеючых установак, пастаяннай падрыхтоўкі рэзерву высокакваліфікаваных кадраў.

— Працаваць інакш сёння проста нельга,— разважае Наважылаў.— Год назад, у красавіку 85-га, мне давялося ўдзельнічаць і нават выступіць на праведзенай у Крамлі пад старшынствам М. С. Гарбачова сустрэчы з кіраўнікамі прамысловых аб'яднанняў, буйных заводаў, калгасаў і саўгасаў, брыгад, са спецыялістамі і вучонымі, дзе, у прыватнасці, абмяркоўваліся шляхі і метады вырашэння найбольш важных эканамічных і сацыяльных задач, якія стаяць перад нашым грамадствам у сучасны момант. Мы гаварылі аб тым, што маглі б, але па розных прычынах не паспелі зрабіць, што перашкаджае,



□ У штабе будоўлі новай вытворчасці валокнаў мапан.

Уладзімір ФРЭЙДЗІН

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.



што павінны ажыццяўляць, каб найлепшым чынам выканаць свой абавязак перад Радзімай і ўнесці як мага большы ўклад у агульнанародны здабытак. Думаю аб гэтым і цяпер, калі ў нас адбываюцца вялікія перамены і ў арганізацыі, і ў метадах гаспадарання.

Мысліць Леў Вітальевіч маштабна, па-дзяржаўнаму, з арыентацыяй на перспектыву. Не будзе перабольшаннем сказаць, што сам стыль штодзённай дзейнасці Наважылава садзейнічае павышэнню арганізаванасці і дысцыпліны. Мне расказвалі, што дырэктар умее быць суровым з парушальнікамі ўстаноўленага на вытворчасці распарадку, з бракаробамі, не любіць балбатуноў, людзей недысцыплінаваных. Але паліміраўцы ведаюць — Наважылаў заўсёды справядліва вырашае пытанні, калі людзі прыходзяць да яго на прыём са сваімі клопатамі, просьбамі і прапановамі. Дырэктар умее ўважліва выслухаць, унікнуць у сутнасць справы. І калі ўжо што-небудзь паабяцае, то абавязкова выканае.

Прадмет асаблівай увагі дырэктара — падтрыманне ў калектыве здаровага мікраклімату, стварэнне такіх умоў для працы, каб яна была ў радасць. Многае робіць ён і для больш поўнага задавальнення сацыяльна-культурных патрэб нафтахімікаў. Аб'яднанне выдзяляе значныя сродкі на жыллёвае будаўніцтва: толькі ў мінулым годзе наваселле тут справілі больш як 200 сем'яў. Пакуль бацькі на рабоце, добра адчуваюць сябе ў шасці заводскіх садах-яслях дзеці паліміраўцаў. А школьнікі з задавальненнем выязджаюць адпачываць у дні канікулаў у піянерскі лагер на маляўнічае возера Суя, многія з іх гэтым летам падмацуюць здароўе на арандаваным аб'яднаннем чарнаморскай базе. У «Паліміра» ёсць свой санаторый-прафілакторый, паліклініка. Сотні працаўнікоў і членаў іх сем'яў удзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці, у розных спартсекцыях. Далёка за межы горада разнеслася слава аб паліміраўскім воднальшным клубе імя Ю. А. Гагарына, дзе выхавана 25 майстроў спорту міжнароднага класа і майстроў спорту СССР, дзе зімой у спецыяльна абсталяваным басейне «Садко» часта трэніруюцца члены жаночай і мужчынскай зборных каманд краіны. А ўзначальвае гарадскую і Віцебскую абласную федэрацыі воднальжнікаў... Леў Вітальевіч Наважылаў.

Шмат карыснага робіць ён не толькі для працаўнікоў аб'яднання, а і для ўсіх навапалачан, калі ў гаркоме партыі, членам бюро якога з'яўляецца, або ў гарсавеце вырашаюцца пытанні далейшага развіцця маладога горада.

Мы пабывалі ў вытворчым аб'яднанні «Палімір» імя 50-годдзя Беларускай ССР напярэдадні пуску першай чаргі новай, аснашчанай самым сучасным абсталяваннем вытворчасці, якая будзе даваць прадпрыемствам лёгкай прамысловасці краіны 34 тысячы тон валокнаў мапан. У год XXVII з'езда КПСС тут намячаецца ўвесці ў дзеянне магутнасці па выпуску яшчэ 10 тысяч тон заменніка воўны.

Ісці ўпоравень з часам, рабіць усё магчымае для шырокага ўкаранення ў вытворчасць дасягненняў навукі, тэхнікі і перадавой практыкі і на гэтай аснове даць у дванаццатай пяцігодцы больш неабходнай краіне прадукцыі, якая па сваёй якасці пераўзыдзе лепшыя замежныя аналагі,— у гэтым бачыць галоўную задачу калектыву нафтахімікаў дырэктар «Паліміра», Герой Сацыялістычнай Працы, кандыдат у члены ЦК КПБ Л. В. Наважылаў.

Развітваючыся з ім, я пацікавіўся, ці бываюць дні, гадзіны, калі ён не думае аб сваёй рабоце, штодзённых клопатах...

— Не,— хутка адказаў ён.

— І нават на рыбалцы, калі клюне добры акунь?

У вачах Льва Вітальевіча засвяціліся праменьчыкі, твар упрыгожыла добрая ўсмешка...

4 ☐ Штодзённы ранішні абход прадпрыемства.

5 ☐ Л. В. Наважылаў з апаратчыкам вытворчасці валокнаў мапан Генадзем Міхайлавічам Дуброўскім.

6 ☐ Старшыня гарадской і абласной федэрацый воднальжнага спорту Л. В. Наважылаў з членам зборнай каманды краіны майстрам спорту Вячаславам Дурновым (злева) і майстрам спорту міжнароднага класа Аркадзем Генавым у басейне «Садко».







—Юрый Ігаравіч! Цяпер, калі першая лінія Мінскага метрапалітэна ўжо не толькі ў страі, але і з гонарам вытрымала выпрабаванне часам на трываласць, можна падвесці пэўныя вынікі: што здзейснена, што робіцца цяпер і што яшчэ будзе зроблена ў нашым горадзе па будаўніцтву падземных магістралей.

— Самым складаным для мяне ў гэтым пераліку пытанняў, увявіце, другое. Што будзе зроблена — гэта планы. Што зроблена — гэта рэальнасць, факт. Сёння пра гэта я магу гаварыць з задавальненнем. А вось — што робіцца?.. Гэтае пытанне рабочае, актуальнае. І таму — даволі складанае.

— Тады пакінем пакуль гэтае пытанне... Давайце спачатку пагаворым пра тое, што мы ўжо маем, і пачнём не з таго дня, калі мінчане літаральна ў момант раскупілі газеты з карцінкамі будучага метро, а з першага маркшэйдэрскага знака каля абсерваторыі, ад якога, мякка кажучы, і пачаўся адлік... складанасцей руху па Ленінскім праспекце сталіцы.

— Так, не магу з вамі не пагадзіцца. Пракладваць 8,6 кіламетра падземкі сем гадоў — гэта далёка не тыя тэмпы, якія хацелася б мець.

— Юрый Ігаравіч, тэмпы гэтыя, як кажуць, ніжэй усялякай крытыкі. У Маскве, да прыкладу, 11,6 кіламетра падземкі пракладзена за тры гады з паловай. Неверагодна, але ж факт: і першыя ў свеце 3,6 кіламетра Лонданскай падземкі будавалі амаль з такой жа «хуткасцю». Толькі адбывалася тая будоўля звыш стагоддзя назад — у 1860—1863 гадах. А сёння мы жывём у перыяд імклівага развіцця навукова-тэхнічнага прагрэсу. Будаваць па кіламетру ў год — гэта значыць асуджаць людзей на дадатковыя нервовыя перагрузкі ў перапоўненых аўтобусах або тралейбусах. А існуе ж горадабудаўнічы нарматыў пэўных затрат часу на паездку да месца работы. Для 80—90 працэнтаў жыхароў ён не павінен перавышаць сорак мінут. Кожныя дзесяць мінут звыш гэтага тэрміну, ды яшчэ ў «дыскамфортных умовах», параджаюць элементарную стомленасць, і, як вынік, зніжэнне прадукцыйнасці працы на тры — чатыры працэнты.

— Адкажу шчыра: калі ў трыццатым годзе было абвешчана: «Усе на будаўніцтва метро!», гэтыя словы ўспрымаліся як ганаровы загад. Бо тагачасная падземная будоўля разглядалася не толькі як транспартная, сацыяльная, культурная



□ **Закончана праходка ад станцыі «Маскоўская» да станцыі «Усход». Брыгадзір комплекснай брыгады праходчыкаў Віктар Сяргеевіч Кісялёў віншуе брыгаду праходчыкаў, якую ўзначальвае брыгадзір Адам Сцяпанавіч Вац.**

# СЯРЭБРАНЫЯ ДУЭТЫ

**ДЫЯЛОГ НАМЕСНІКА НАЧАЛЬНІКА МІНСКАГА МЕТРАПАЛІТЭНА Юрыя Ігаравіча КАЛАМІЙЦА І ЖУРНАЛІСТА Віктара ПАНЯВІНА**

забудова, але і як з'ява палітычная. Мы былі вымушаны даказаць усяму свету, што падобнае магчыма не толькі ў такіх тэхнічна развітых цэнтрах, як Нью-Йорк, Будапешт, Парыж, Берлін або Токіо, але і ў маладой Савецкай дзяржаве, якая ледзь-ледзь паднялася з разрухі. Метрабудаўцам былі выдаткаваны практычна неабмежаваныя па тым часе капітальныя ўкладанні. Патрэбны грошы — вазьміце, няма цюбінгаў або абечкаў — зробім у самы кароткі тэрмін, заказы на нестандартнае абсталяванне ў дырэктыўным парадку з СНК атрымлівалі вядучыя прадпрыемствы краіны. Шэсцьдзесят тысяч — у асноўным маладых энтузіястаў — камуністаў і камсамольцаў, якімі кіравалі вопытныя інжынеры краіны, спусціліся пад зямлю.

А Мінскае метро нават на самым інтэнсіўным этапе будаўніцтва ўзводзілі ўсяго не больш як 2,5 тысячы чалавек, хаця нам і дапамагалі спецыялісты з Масквы, Ташкента, Харкава. Да таго ж майце на ўвазе, што ў «спрэчцы» з хуткасным трамваем і аўтобусам-экспрэсам перамагала метро. І вось вынік: цяпер яно развіваецца ў адзінаццаці гарадах, першыя пускавыя ўчасткі пракладваюцца ў трох прамысловых цэнтрах, а яшчэ для дзесяці рыхтуецца праектная дакументацыя. Пагадзіцеся, проста немагчыма ставіць, няхай нават з самых высокіх патрыятычных меркаванняў, свой горад у цэнтр агульнага ўсесаюзнага метрабуда.

— Але тэхнічны прагрэс, сучасныя машыны — яны ж павінны былі «сказаць» сваё слова?

— Канечне, мы валодаем, напрыклад, такім прагрэсіўным метадам, як «сцяна ў грунце», прымяняем канструкцыю тунеляў з маналітна-прасаванай кальцавой бетоннай абдзелкай, урэшце, у нас ёсць магутныя праходчыя шчыты, якія выпускаюцца серыйна... Шчыты, якія павінны быць усяму галава! А вось яны, на жаль, прыдатныя толькі ў аднародных грунтах, як, напрыклад, у Ленінградзе, дзе на глыбіні сорак — пяцьдзесят метраў амаль чыстая гліна. Гані рэкорды! А ў Мінску? Такая «чысціня» пачынаецца толькі на глыбіні 400—500 метраў. Да іх дабрацца — нерэальна. А так плывуны ды валуны. І шчыты «заміраюць»... І тады ў «забой», прабачце, у тунель зноў спускаюцца людзі, якія

умеюць моцна трымаць у руках адбойныя малаткі. Вось вам і тэхнічны прагрэс.

— Юрый Ігаравіч, у пятліцах вашага форменнага кіцеля дубовае лісце. Але ёсць усё-такі і некалькі вугальных мецін на тварыі.. Магчыма, таму вы і агаварыліся — у «забой»?

— Бадай... І хаця сёння, паверце, у мяне дастаткова спраў, як у намесніка начальніка метрапалітэна, які адказвае за службы капітальнага будаўніцтва, пуцявых і тунельных збудаванняў, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, аўтатранспарт, быт і гэтак далей, я ўсё роўна недзе ў душы застаюся шахцёрам. Пасля заканчэння Харкаўскага горнага інстытута юнацтва маё прайшло ў забоях Данбаса. І я, калі шчыра, ганаруся, што сярод будаўнікоў мінскіх падземных магістраляй — нямала людзей, якія ў мінулым насілі гордае званне шахцёра. Але мы адхіліліся — тэрміны... Тэрміны, якія, па сутнасці,— адлюстраванне дзяржаўнага плана. А мы ж нават перавыканалі яго, пусцілі першую лінію на паўгода раней — да 40-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І прынята была тая лінія дзяржаўнай камісіяй з ацэнкай «выдатна», прызнана адной з прыгажэйшых у Саюзе.

І ўсё пачалося з таго, што сталі дбаць пра галоўную будоўлю рэспублікі задоўга да пачатку земляных работ. Вы ж толькі ўявіце, чаго каштавала спланаваць і перанесці маршруты наземнага транспарту. Сёння Мінск — адзін з самых хуткарастучых гарадоў краіны: за апошнія пятнаццаць гадоў яго насельніцтва павялічылася больш чым у два разы. Літаральна на кожным сацыялагічным або дэмаграфічным «скрыжаванні» чуеш — «феномен Мінска». «Феномен»... Асабліва, калі ўлічыць, што ў горадзе не было запланавана ніводнага «дублёра» праспекта. Так, недзе адрэзкамі,— перагружаная жылымі і дзяржаўнымі гмахамі вуліца Карла Маркса, гарлавіна вуліцы Горкага, тры кварталы вуліцы Куйбышава... Як абысці, а дакладней, аб'ехаць праспект? Да таго ж спатрэбілася перанесці літаральна цэлыя кіламетры інжынерных сетак, каб жыццё ў горадзе магло нармальна працягвацца. Але ўсе праектныя работы па гэтых пытаннях былі вырашаны да пачатку будаўніцтва. Была ўмацавана і наша матэрыяльна-тэхнічная база — пабудаваны заводы жалезабетонных вырабаў і рамонтна-механічны, аўтагаспадарка і база спецзабеспячэння. Для падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў «Мінскметрабуда» вельмі своечасова быў створаны філіял ГПТВ-25 будаўнікоў, у Беларускім політэхнічным інстытуце ўведзена спецыяльнасць «масты і тунелі».

— Выходзіць, усё нармальна. Як гавораць у такіх выпадках — у добры шлях!

— Не сказаў бы гэтак упэўнена. Па-першае, аказалася не так проста зламаць псіхалагічную інерцыю непрыхільнікаў метро. Якіх толькі пісьмаў мы не атрымалі: і што псуяце горад эстэтычна, літаральна разбураеце яго фізічна «дрыжыкамі», робіце людзей ледзьве не паталогічна нервовымі. І хаця пісьмаў такіх адносна нямнога, але сутнасць нашага жыцця, нашых сацыялістычных адносін такая, што павінны ўлічвацца інтарэсы і пажаданні кожнага чалавека. Кожнае пісьмо патрабавала пільнай увагі. Вось, напрыклад, «пасланне» з дома за нумарам 91 — гэта паблізу парку Чалюскінцаў: «Ваша метро сваім брынканнем-ляскатаннем зробіць нашых дзяцей маральна нікчэмнымі». Прыходзім і бачым, больш дакладна, чуем: крык, лаянка, посуд аб падлогу. Адным словам, самы банальны бытавы скандал, які «з поспехам» замяняе з дзесятак метрапалітэнаў.

Або такое пісьмо: «Іншы раз вельмі шумна». Праверылі расклад руху паяздоў і выявілі, што даволі часта, як гавораць, нос у нос тут сапраўды сустракаюцца два саставы. Тут жа «развялі» іх па часе, і скаргаў не стала.

— Але ўсё гэта ўжо клопаты ўчарашняга дня. Мінчане чакаюць новых ліній. Якія перспектывы іх уводу ў дзеянне? Я маю на ўвазе ў першую чаргу тэрміны.

— Ну, па-першае, два гады назад пачалі доўжыць першую лінію на адзін перагон — будаваць станцыю «Усход» у раёне аднайменнага буйнога жылога масіву. Даўжыня ўчастка 1,63 кіламетра. Тунель «гналі» двума забоямі — левым і правым. Праходка ўжо завершана. Станцыя «Усход» узводзіцца па метаду «сцяна ў грунце», і такім чынам новы ўчастак да «Усходу» ў 1986 годзе, на год раней запланаванага, будзе ўведзены.

Але гэта ўжо сёння не асноўны, хаця і перадпускавы аб'ект. Куды больш хвалююць справы на будаўніцтве другой лініі даўжынёй 13,4 кіламетра з дзесяццю станцыямі — яна зніту жылую зону Пушкінскага праспекта ў заходняй частцы горада з прамысловай у паўднёва-ўсходняй, дзе літаральна згрупаваліся заводы імя Казлова, аўтаматычных ліній, трактарны, аўтазавод... Дбаем ужо і пра трэцюю лінію — з поўдня на поўнач.

Скрыжаванне першай і другой ліній ужо стварэецца ў раёне Цэнтральнай плошчы. На першым участку другой лініі даўжынёй 6,3 кіламетра ад Юбілейнай плошчы да трактарнага завода з шасцю станцыямі — «Фрунзенская», «Няміга», «Янкі Купалы», «Першамайская», «Пралетарская», «Трактарны завод» (станцыя «Янкі Купалы» будзе перасадачнай на станцыю «Кастрычніцкая») — работа ўжо ў разгары...

— Даўжыня ўчастка — карацейшая за першую лінію. Так што, трэба меркаваць, мінчане атрымаюць яе гэтак у годзе...

— ...у 1992-м па плану. На жаль, планавыя тэмпы застаюцца вельмі маруднымі.

— Але гэта трэба неяк растлумачыць, інакш можа ўзнікнуць незадавальненне: маўляў, зноў гэтыя аб'езды, гразюка...

— Тлумачэнне ёсць. І першая яго частка даволі парадаксальная: лінія, сапраўды, у асноўным нібыта перыферыйная, а першы ўчастак яе давядзецца ўзводзіць у яшчэ больш складаных інжынерна-геалагічных і архітэктурна-планіровачных умовах, чым тая, што цяпер дзейнічае. Траса праходзіць літаральна пад шматпавярховымі гмахамі, дзе не дапамогуць нават магутныя гумавыя амартызатары, ні вертыкальныя трубы ў грунце. Так што жыхароў некаторых дамоў давядзецца перасяляць — ці не праблема? Да таго ж участак перасякае гістарычнае ядро горада, а размова з архітэктарамі і гісторыкамі, як правіла, нялёгкая. Нам двойчы давядзецца перасякаць Свіслач, адзін раз рэчышча Сляпянскага ручая і ракі Нямігі. А потым Усходняя станцыя, там таксама два дамы трэба знесці... Адным словам, цяжкасцей аб'ектыўнага характару хапае.

— Але ёсць яшчэ, відавочна, і суб'ектыўныя прычыны?

— Вядома. І вось толькі некалькі прыкладаў: па ўсёй краіне раскіданы метрабудаўнічыя аб'екты. І многае іх абсталяванне, як дзве кроплі вады, падобнае між сабой. Значыць, і дэталі, матэрыялы ім патрэбны ідэнтычныя. А на справе — хто ў лес, хто па дровы. Масквічы прабіваюць сваё, у харкаўчан — свае «вузкія месцы», а ў мінчан, натуральна, свае... Пытанне зусім не рытарычнае: калі ж магутная рука стандартызацыі і уніфікацыі кранецца «Метрабуда»? Перад самым пускам першай лініі ў Мінскім гаркоме партыі сабраліся кіраўнікі ўсіх буйнейшых прадпрыемстваў горада і вобласці. Да іх звярнуліся з просьбай: «Таварышы! Метрабудаўцам патрэбна дапамога. Падзяліце паміж сабой гэтыя некалькі соцень нестандартных назваў».

І таварышы зразумелі. І падзялілі. І вельмі нам дапамаглі. Але вось пытанне: прэстыжнасць нашай другой лініі зусім не такая высокая, як першай. І ці захочуць тыя ж таварышы браць на сябе абцяжараныя абавязкі, калі ў іх сваіх клопатаў, як гаворыцца, па горла.

Або яшчэ адно пытанне — шпалы! Чыгуначныя метрабудаўцам не падыходзяць: яны і даўжэйшыя, і танчэйшыя. Бывае, з сотні прапанаваных удаецца выбраць толькі штук пяць, але і гэта не ўсё. Далей іх трэба насыціць спецыяльным саставам. А на Барысаўскім шпаланасычальным заводзе, напрыклад, без перабольшання, «дарэвалюцыйнае абсталяванне», і дай ціск на патрэбныя атмасферы, дык усе катлы ў пух і прах паляцяць. Дзе якасць шпалаў у такім выпадку? Дзе, адпаведна, іх колькасць? А замяніць метрабудаўскую шпалу — не тое, што чыгуначную: яе ж з бетону высечы трэба ў тыя некалькі гадзін перадышкі паміж цягнікамі. Вось і па сённяшні дзень усё там жа «воз» са шпаламі, скрануць з месца які могуць толькі агульныя намаганнямі (і агульным жаданнем!) Мінтрансбуд, Міністэрства лясной прамысловасці і Міністэрства шляхоў зносін.



□ Брыгадзір комплекснай брыгады праходчыкаў участка № 8 БМУ-1 «Мінскметрабуда» Адам Сцяпанавіч Вац.

— Але ўсё гэта так ці інакш датычыцца тэхнікі ў будаўніцтве, а не ўласна будаўніцтва...

— Тут таксама безліч пытанняў. Некаторыя і ад нас, як гензаказчыка, і ад «Мінскметрабуда», як генпадрадчыка, мала залежаць. Напрыклад, перакладанне інжынерных сетак, дзе манаполію трымае 15-ты трэст Спецбуда камбіната Мінскбуд (кіраўнік В. І. Міцкевіч). Гэтая арганізацыя і раней ніколі не была ў цесных, як гавораць, сяброўскіх адносінах з метрабудаўцамі, а цяпер і зусім агульнай мовы не стала. Прычына — пазіцыя таварыша Міцкевіча: «Пакладзіце мне на броўку жалезабетонныя латкі, патрубкі, накрыўкі, кольцы і гэтак далей — тады ўжо і мы развернемся...»

І забывае пры гэтым Віктар Іосіфавіч, якое мае значэнне для горада другая лінія метро, лінія, якую гэтак чакаюць людзі. Ці партыйны гэта падыход? А некаторыя арганізацыі — практычна ўсе — «ідуць яшчэ далей»: пры перакладанні сетак прыпісваюць на сваю карысць метры, тоны і іншыя фізічныя адзінкі, за якія мы з імі павінны яшчэ і разлічвацца... грашамі.

Ну, і многае, канечне, залежыць і ад самога генпадрадчыка — «Мінскметрабуда». Будаўніцтва станцыі адкрытым спосабам можна было б весці больш інтэнсіўна, калі б на кожным аб'екце сканцэнтроўвалася больш рабочай сілы. Тады можна было б узяць зямлю, як гавораць будаўнікі, паставіць сцены і пайсці са спакойным сумленнем на іншы аб'ект, а не «цягнуць гуму» адразу на некалькіх станцыях.



І калі быць крыштальна сумленнымі, то і мы, як гензаказчыкі, маглі б больш дапамагаць сваім падрадчыкам. Але нешта перашкаджае нашым адносінам. Заспакоенасць ці што — пуск жа яшчэ далёка?!

— Калі я вас правільна зразумеў, мора работы патроху зацягвае раскай, як Мінскае мора ў жніўні?

— Не думаю, што справядлівае такое рэзкае параўнанне. Па-першае, усё, што пабудавана, з гонарам вытрымала больш чым паўтарагадовую праверку. У «Мінскметрабудзе», у асноўным, захаваўся баявы калектыў, у якім нямала класных спецыялістаў.

Выдатна працуе, напрыклад, брыгада прахадчыкаў з БМУ-2 Анатоля Кандратавіча Прасолава — на два месяцы апярэджваючы свае планавыя заданні. Ці брыгада будаўнікоў кавалера ордэна Леніна Віктара Сяргеевіча Кісялёва, якая сёння будуе станцыю «Усход»... Імёны першапраходцаў можна пералічваць і пералічваць...

Нам не дае права працаваць кепска пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР «Аб ходзе будаўніцтва метрапалітэна ў Мінску». Яна абавязвае да многага.

— І, напэўна, не толькі будаўнікоў метрапалітэна. Думаецца, што сутнасць пастановы — клопат аб людзях. Людзях, якія чакаюць новую падземную лінію.

— І яны яе атрымаюць — зручную, хуткую і не адну. І калі гаварыць пра камфорт нашага метро, зазначу: хуткасць Нью-Йоркскага, Лонданскага і Такійскага метро — 32 кіламетры ў гадзіну, у Парыжы — 25, у Маскве ж — 42. У нас амаль столькі ж. І гэта нягледзячы на тое, што мы пастараліся зрабіць станцыі ва ўсіх неабходных «гарачых» кропках горада і перагоны ў нас невялікія. Але выручае якасць самой пабудовы, і, канечне ж, выдатная работа ўсяго калектыву метрапалітэна.

— Іменна дзякуючы гэтаму вы «кампенсуеце» кожнаму мінчаніну па трыста гадзін «чыстага часу» штогод, калі ён двойчы ў суткі сядзе ў блакітны вагон?

— Так. І калі ўжо размова зайшла пра лічбы, нагадаю яшчэ некалькі. Спярша «вытворчая»: мы больш чым на дваццаць працэнтаў перавыконваем свае заданні. Другая — «аптымістычная»: у свеце няма метрапалітэна таннейшага за наш. Праходзячы праз турнікет, мы апускаем у суматар пятак — усяго пятак! — а паездка наша абыходзіцца дзяржаве сем капеек. Толькі па Мінску датацыя на метро — два мільёны штогод. Але наша дзяржава ідзе на гэта, бо загадзя ведае: у метро «зайцаў» няма. Метро дорыць нам і хуткасць, і камфорт, і, калі хочаце, культуру. І апошняя падзея — святочная: у адным з вагонаў нашага метро праехаў ужо 100-мільённы пасажыр!

— Упэўнен, Юрый Ігаравіч, што і мільярдны, як кажуць, не за гарамі, бо колькасць пасажыраў падземкі павялічваецца і павялічваецца — даспадобы прыйшліся мінчанам і гасцям беларускай сталіцы гэтыя блакітныя і вельмі «дысцыплінаваныя» падземныя экспрэсы.

— А цяпер я задам пытанне вам: «Што вы чуеце ў постуку колаў нашых цягнікоў?»

— Адразу і не адкажаш... Здаецца, нейкую ўдарную аптымістычную поліфанію...

— А мне вось нядаўна давялося прачытаць у даведніку для тых, хто прыязджае ў Нью-Йорк, наступнае: «Сцеражыся метро!..» Далей растлумачвалася, чаму трэба сцерагчыся: у нью-йоркскім метро пануе антысанітарыя, бандытызм... Ад смецця на пуцях нават рэйкі гудуць прыглушана. А вось для мяне, калі мінскага цягніка ў метро яшчэ нават і не бачыш, а толькі пачуеш ягоны шум, сярэбраныя стужкі рэек ужо звіняць. Звіняць ва ўнісон.

□ Звеннявы-машыніст механізаванага горнапраходчага комплексу Анатоль Мікалаевіч Дзмітрыенка.

Фота Пятра КАСТРАМЫ.

# СТЭПКА



**Ірына ЖАРНАСЕК**

АПАВЯДАННЕ

У Навасёлках бязногую Стэпку не любілі ні старыя ні малыя. Ніхто не спачуваў яе жахліваму калецтву. Малыя неслухі спалохана шморгалі насамі, калі раззлаваныя бацькі пужалі іх: «Вось аддам цябе Стэпцы!..» А калі Стэпка ехала на сваёй скрыпучай інвалідскай трохколцы ў краму, дарослыя ўнікалі з ёй спатыкацца, а падшыванцы, з тых, каторыя ўжо ведалі, што нічога ім Стэпка не зробіць, беглі за ёй следам і верашчалі: «Фрыцыха! Фрыцыха!» Стэпка на іх не сварылася, яна быццам і не чула — мабыць, прывыкла. Малыя выраслі, іх змянялі другія, а ў яе жыцці ніякіх змен так і не было.

Сёння Васіль Маскалёў нарэшце выправіўся ў шэрую непрыветную Стэпчыну хаціну з маленькімі, быццам у лазні, акенцамі, якая так недарэчы суседзіла з дагледжанымі сялібамі навасёлкаўцаў, абнесенымі звонкім фарбаваным штыкетнікам. Доўга ён не знаходзіў часу схадзіць да Стэпкі. Трапляліся пільнейшыя справы — ці мала іх у старшыні сельсавета? — а гэтую размову ён усё адкладваў і адкладваў з дня на дзень. Калі б хто запытаў, ён, напэўна, так бы і сказаў: «Спраў па горла». І нават сам сабе наўрад ці прызнаўся б, што яму цяжка было змагчы ў сабе даўнюю да Стэпкі непрыязнасць.

Васілю ні разу не надаралася размаўляць са Стэпкай. А для зацятай нянавісці ў дзяцінстве, якая спакваля перайшла ў грэблівасць, хапіла аднаго выпадку.

Яму і цяпер да драбніц прыгадаўся той даўні дзень: ён разам з гэткімі ж блазнюкамі, як і сам, падцікавалі, калі Стэпка пад'ехала да крамы. Яна ўскараскалася па высокіх прыступках ганка, і ледзьве за ёй прычыніліся дзверы, яны ўскулілі на яе віскатлівую трохколку самага меншага з іхняга кагалу Сцёпку Стукана і пакацілі яго да рэчкі.

Тады Васіль упершыню бачыў, як Стэпка плакала. Яна сцягнула з галавы хустку, схавала ў яе твар — усхліпвала і курчылася на прыступках.

— Гляньце, а яна сапраўдная ведзьма — валасы да пят,— гукнуў нехта з хлапцоў.

І яны ажно прыціхлі: так дзіўна ім было бачыць доўгую Стэпчыну касу. Вызваленая з-пад хусткі, яна вілася цяжкім жгутом па Стэпчынай сагнутай спіне і канчалася ў пыле на прыступках.

— Ах вы, шалахвосты! Я вось зараз крапівой вам па задніцах! — закрычаў тады на іх дзядзька Ягор. Ён жыў побач з крамай і не стрываў — прыйшоў навесці парадак. Хлопцы сыпанулі куды каторы, але дзядзька Ягор схапіў Віцьку Каранеўскага за руку, садраў з яго галавы шапку: — Ану, марш па каляску! А не — хай бацька па шапку прыходзіць.

Пагроза падзейнічала. Віцька нехаця паплёўся да рэчкі і прыцягнуў трохколку. Хлопцы маўкліва — дзядзька Ягор яшчэ не адышоўся — пазіралі, як Стэпка так-сяк ссунулася з прыступак на зямлю і пачала ўзлазіць на трохколку. Васіль і цяпер добра памятае, як не змог тады глядзець на гэта — адвярнуўся, а дзядзька Ягор вылаяўся і пахмурна сказаў:

— Чаго не бачылі? Марш па хатах!

Тае ночы Васілю снілася Стэпка. Толькі ў сне валасы ў яе не былі сплецены ў касу, а рассыпаліся па плячах і пакрывалі ўсю яе быццам чорнай хусткай. І з прыступак яна не злазіла, а кацілася. Валасы замятала пылам — і вось ужо не знябожаная Стэпка, а кароценькі стаўбур стаіць збоч трохколкі і ўсхліпвае.

Уранні бацька сварыўся на Васіля:

— Па табе, смаркач, мусі быць, даўно дзяга не гуляла. Няхай малыя дурныя, а ты ж, ёлупень, сем класаў маеш. Знайшоў занятак — з калекі пасміхацца.

Васіль толькі прымерыўся няўзнак вынырнуць з хаты, але наўздзіў злосны матчын голас запыніў яго.



— Ты чаго гэта на мальца каршуном кідаешся? Было б за што, а то з-за гэтай суччкі, якую саму даўно пара ў рацэ ўтапіць.

Васіль, адчуўшы мацерыну падмогу, пасмялеў:

— Мы ж не з дзядзькі Гэнькі пасмяяліся, якому нагу пад Сталінградам адарвала, а з фрыцавай палюбоўніцы.

— Малы ты яшчэ ўсё гэта ведаць,— буркнуў бацька.

— Чаму гэта ён малы? — зноў перапыніла яго маці.— Няхай ведае, што гэта за калека. Яны яе фрыцыхай абзываюць, а мо і не ведаюць, што фрыцыха яна і ёсць, самая сапраўдная. У вайну хто галаву склаў, хто ад голаду спух, хто свету за слязамі не бачыў, а яна з фрыцам пад ручку шпацыравала. Хлопцы нашыя да вайны па ёй сохлі, а яна фрыца выбрала — пэўна ж, паняй хацела пажыць. Вот і пажыла — да смерці на сваёй карэце будзе ездзіць.

— Стэпка з нагамі? — чмыхнуў тады Васіль.— Аж смех бярэ. Здаецца, у яе іх ніколі і не было.

Маці перасунула з месца на месца вёдры з мешанкай, пашукала нечага пад лаўкай — выпрасталася.

— Былі ў яе ногі. Яшчэ ой як бегалі. А як павесілі немцы каля школы Пецьку Фарыну з Уладкам Піліпенкам за тое, што яны трох іхніх матацыклістаў на Горацкім бальшаку забілі, так і не стала ў яе ножак. Бабы падцікавалі, як яна бегла да свайго гергетуна, і перабілі палкамі ногі, каб забылася гэную сцежку. А потым як азвярэлі немцы з-за гэтай швэндаўкі і пахапалі нашых баб — хацелі дазнацца, хто яе так адпаласаваў. Ні халеры не дазналіся, а дзвюх замучылі — Пецькаву матку і Гэлю нашу. Нехта набрахаў, што Гэля помсціла Стэпцы за свайго жаніха Уладка. Во колькі бяды нарабіла гэтая гадаўка, а бацька шкадаваць яе ўзяўся. Было не прадавацца як сучцы апошняй. На лёгкі хлеб, паскудніца, пакваапілася, дык во ёй хлеб — хай падавіцца.— І забедавала: — Каб не гэта гадаўка, наша Гэля на свеце пажыла б, а так дзевятнаццаць гадочкаў — і ў зямліцу. Сама што шчасцейкам цешыцца... А Уладка яна любіла...— прамовіла маці задуменна і страпянулася, быццам не тое нешта сказала — пасп яшалася запэўніць: — Толькі не біла яна Стэпкі. Не біла. Ніхто не бачыў.

Пасля таго Васіль яшчэ мацней зненавідзеў Стэпку.

Маці ж болей ні разу не ўспамінала ўсяго гэтага, нібыта адным разам выліла з душы набалелы цяжар.

□ □ □

— Добры дзень у хату,— павітаўся Васіль ці не задужа гучна, і яго аж перасмыкнула ад сваіх жа слоў.

Нейкі момант у хаце было ціха, і Васіль ужо ўзяўся за клямку, але з процілеглага кута, дзе стаяў нізкі самаробны ложак, насцярожаны нягучны голас адказаў яму: «Добры дзень». І сціх.

Прыгледзеўшыся, Васіль убачыў у куце на ложку Стэпку. Яна, відаць, нешта шыла, а цяпер, торкнуўшы наўздагад у шпалеру каля вушака іголку, з непрыхаванай трывогаю ўглядалася на госця.

Васіль чуў няўтульнасць ад цішыні ў хаце, можа, таму, што яго не запрашалі сесці — ад яго нечага чакалі. І ён... разгубіўся — стаяў і падбіраў у думках словы, з чаго пачаць.

— Даўно збіраўся зайсці...— прамовіў нарэшце.

З кута пачуўся стрыманы ўздых і зноў — ні жэста, ні слова.

І ён пачаў казаць, што Стэпчына хата дашчэнту струхлела, і Стэпцы варта пераехаць жыць у дом для інвалідаў — гэтак будзе нашмат лепей для яе. Стэпка сядзела быццам скамянелая, потым не дужа ўпэўнена запрасіла:

— Можа, прысядзеш?

Васіль агледзеўся, убачыў невялічкі самаробны стоўчык з надламанай дошкай:

— Вось бачыце,— нібы зарадаваўся ён,— і мэблю вам цяжка купляць, ды і дровы, хлеб, а там усё гатовае, чыста, цёпла.

— Памерці, значыцца, там прыйдзецца...

— Ну, ужо адразу і паміраць. Мы ж не пра смерць гаворым — пра жыццё. А што вам тут? Ні родзічаў, ні блізкіх, ні...— Васіль змоўк і па малым часе паўтарыў: — А там чыста, цёпла.

Стэпка глядзела ў акно — маўчала.

— Падлога ўся вунь прагніла,— пачаў зноў Васіль і асекся — Стэпка плакала.

Ён адчуў гэта па яе згорбленых плячах, нізка схіленай галаве. І яму зноў прыгадаўся той даўні восеньскі дзень, калі Стэпка плакала на прыступках крамы, а яны, яе крыўдзіцелі, дзівіліся з гэтага, быццам бачылі нешта надзвычай неверагоднае. Нешта падобнае ён адчуў і цяпер, хіба што цяпер да гэтага прымяшалася маленькая кропля шкадобы — і тут жа знікла: занадта моцна жыла ў ім нянавісць да гэтага чалавека.

— Як жа мне кінуць усё гэта? — загаварыла Стэпка.— Тут жа, дарагі ты мой чалавек, са мной горачка маё ўсе гэтыя гадочкі жыло.

— Гэ! Было па чым бедаваць! — бадзёра гукнуў Васіль, перабіраючы пальцамі па стале, засланым ладна пацёртай цыратай.— Ад гора бегчы трэба, а не трымацца за яго аберуч.

— Ад майго не ўцячэш,— уздыхнула Стэпка і неспадзявана прапанавала: — Там пад акном гарнец з грушамі — частуйся. Ападышы. З дрэва не дастану, а што зваліцца...

— Папрасілі б каго памагчы абабраць,— параіў Васіль.

Стэпка змоўчала, і ён зразумеў недарэчнасць сваёй парады: хто ў Навасёлках захоча ёй дапамагаць?

— Твая праўда, дарагі чалавек. Даўно пара мне адсюль з'ехаць, не мазоліць людзям вочы. І сама не раз пра гэта думала, а ўсё неяк... Усё чакала, што зварухнецца душа ў аднаго чалавека, ажно, мусіць, задужа цвёрдая яна ў яго...— Стэпка спужана зірнула на Васіля і прыкрыла далонню рот, потым ухапілася рукамі за ржавыя прэнты ложка, апусціла на рукі галаву, ледзь чутна шапнула: — Загаворвацца пачала. Відаць, і праўда пара мне на ласкавы хлеб.

Васіль прыгаломшана ўтаропіўся на Стэпку: гэта яна спадзявалася зварухнуць нечую душу?!

— Хто ж гэты чалавек? — пацікавіўся.

— Нашто ён табе? Кожны, дарагі ты мой, сваю больку мае, толькі адзін яе хутка зёлкамі залечыць, а другі ўсё жыццё тыя зёлкі шукае, ды так і не знойдзе.

— Вы... не знайшлі?

— А я іх не шукала.— Стэпчын твар перакрывіла змушаная ўсмешка.— Без ног не надта кінешся шукаць. Мусіць, бог мне прысудзіў замеж крываўніку соль на мае болькі. Так вось і засталіся яны незагойныя.

— Дзе ж ён, той чалавек?





— Быў тут адзін... Заслужаны... Відны...— не падымаючы галавы, быццам давячыся словамі, сказала Стэпка.— Каб не ён, у мяне і сёння былі б ногі. А ён... Ён столькі гадоў маўчыць! Быццам і на свеце няма ні мяне, ні гэтай жалязякі, што мне замест ног служыць. Мо ён аглух? Бо як жа можна столькі гадоў не чуць, як рыпяць гэтыя мае праклятыя «ногі»?

— А, можа, ён чуе?

Стэпка засмяялася — ненатуральна, рэзка:

— Каб чуў, не маўчаў бы. Чаму ж ён не маўчаў тады, калі я прыйшла да гэтага белабрысага немчура прасіць за іх? Тады ён гаваркі быў, ногі мне цалаваў, каб іхнія галовы з-пад шыбеніцы ўратавала.

Апошнія словы Стэпка амаль выгукнула і з непрыхаваным жахам у шырока раскрытых вачах глядзела на Васіля.

— І вы... уратавалі?

Стэпка закрыла далонямі твар.

Васіль прыўстаў, падаўся да яе:

— Вы за тых хлопцаў, за Пецьку з Уладкам хадзілі прасіць?

— Іх там трое было.

— Ды не, маці ж казала...

— Трое іх было,— мацней паўтарыла Стэпка.— Утрох яны і матацыклістаў рашылі, а пасля збіраліся камендатуру ў Грышаках спаліць.

— А вы адкуль гэта ведалі?

Стэпка не адказала — доўга маўчала, нібы і забылася, што ў хаце ёсць старонні чалавек.

— Кахала я яго,— ці то сама сабе, ці то Васілю нарэшце сказала Стэпка.— І ён бажыўся, што я яму люба. Таму да немчура і пабегла прасіць. Пецька з Уладкам слаўныя былі хлопцы, а толькі каб яго з імі не было, наўрад ці адважылася б да той поскудзі ісці ў ногі кланяцца. А так... Як жа не пабяжыш? Самі ногі панеслі. Пасля мамы пярсцёнак застаўся. Яго занесла, яек назбірала, кілбас. Аддала афіцэру, а ён пасміхаецца. Я яму: «Вы скажыце, што яшчэ трэба. Я па людзёх пахаджу — збярэм». А ён лыбіцца: «Ты, дзевушка, как это у вас — красная? — нужна». Крутнулася я — і да дзвярэй, а гергетун крычыць: «І пасматрэць на парней сваіх не хочэш?» Спынілася... Павёў ён мяне ў хлеў да хлопцаў. Ляжаць на гнаі — змардаваныя, ратуй божачка. Я — у слёзы, а немец здзекуецца: «Плачаш, а не ратуеш,— і да хлопцаў: — Выкупіць вас хацела кілбасою. Хіба ж такіх малойцаў можна за кілбасы аддаваць? Я ёй іншую плату прызначыў — не згаджаецца». Тады ён, той трэці, і кінуўся да мяне ў ногі. За рукі хапае, цалуе, просіць: «Ратуй! Я ж кахаю цябе і век кахаць буду, толькі памажы адсюль выбрацца».



Стэпка змоўкла, пачала нервова расціраць рукамі шыю, нібы хацела прагнаць даўкі камяк, які не даваў ёй вольна дыхаць.

Васіль азірнуўся на бакі, убачыў каля дзвярэй на лаўцы вядро, зачэрпнуў каўшом вады і падаў Стэпцы. Тая прагна глынула раз... другі...

Васіль асцярожна паставіў коўш на месца, пастаяў крыху і зноў прысеў да стала.

— А потым што?

— Астатняе ж усё вядомае — «сучка нямецкая, вырадак, фрыцыха». Праз тры дні пасля таго, як я да іх хадзіла, Уладка з Пецькам павесілі каля школы. А як жа маткі іхнія галасілі ды валасы на сабе рвалі — няможна было глядзець. Той дзень, думала, звар'яцею. Я ж за ўсіх прасіла, думала, усіх іх выцягну з таго хлява праклятага. І немчур, каб яму зямлі сваёй не пабачыць, абяцаў усіх выпусціць, казаў, што зробіць так, быццам іх партызаны выратавалі. Ажно заміж гэтага — дваім вяроўка. І ніводная душа ў Навасёлках не ведала, для каго гайдалася трэцяя пятля на той шыбеніцы. А яго ж немчур і не выпусціў адразу, трымаў, каб я не занаравілася ды ласкаваю была. Ссільнічаць ён мог любую дзеўку — ягоная ўлада была,— а яму, гаду, пястоты хацелася. Я ў тыя дні сама сваю жытухну і пракляла. Пачуў, мусіць, бог, як я клікала перуноў на сваю галаву. Здаецца, лягчэй ужо ў пельку, чым да немчура прыцемкам, ад сваіх жа людцаў крадучыся, ісці, ды тая вяроўка днём і ноччу ў вачах стаяла.

Стэпка абхапіла галаву рукамі, заплюшчыла вочы:

— Не глядзі ты, дзетухна, на мяне, брыдкую. Ні разочку ні з кім не гаварыла пра сваю бяду ды і слухаць не было каму. А табе дзякуй, што не пагрэбаваў — горачка маё паслухаў.

Васіль глядзеў праз акно на гонкую грушу і маўчаў. Паблізу дрэва цвіў разложысты бухматы куст пунсовых юргіняў. Ён здаўся Васілю недарэчным побач з гэтай трухлявай хацінай, якая дажывала свой век, побач з дрэвам, якое, быццам здзекуючыся са Стэпкі, скідала ёй пераспелыя чарвівыя плады, а здаровыя, ядраныя трымала на недасяжнай вышыні.

— Цётка Стэпка,— прамовіў задуменна Васіль,— а гэта праўда, што ногі вам... бабы нашыя...

— Праўда,— коратка адказала Стэпка.

— А цётка Гэля... Яна таксама была з імі?

Стэпка адняла рукі ад твару, пільна паглядзела на Васіля.

— Чаму пытаеш? — насцярожылася.— Не помню я. А што, матка кажа, што не было Гэлі? Значыць, і не было,— і ўсхліпнула: — Замучылі, звяры, Гэлю.

— А нямецкі афіцэр? Што ён?

— Яму гэта пацехай было,— махнула Стэпка рукой.— Аднаго разу прыйшоў у хату, а бацька мяне лапушнікам ды матачнікам усю абклаў, каб вогнік адцягвала. Дык ён кійком лісцінку з твару адкінуў — зморшчыўся. Болей і не паказваўся, толькі лекара прыслаў. Той і адпілаваў мне ногі. Вот і засталася мучыцца. Мусіць, мне ўжо тады бог пакуту вялікую паслаў, не ў адзін дзень смертухну.

Васіль падняўся. Хацеў прайсціся па хаце, але пабаяўся спатыкнуцца — ужо добра сшарэла, а Стэпка не запальвала святла. Ён адчуваў, што час ісці, але карцела запытаць самае важнае, і ён наважыўся:

— Дык той чалавек, якога вы ўратавалі, у Навасёлках жыве?

— Якая розніца... Жыў тут, цяпер трохі ад'ехаўся. Нялёгка ж, мусіць, і яму, калі па свеце кідаецца — месца сабе знайсці не можа. Вайна гэта, дзетухна, вайна навырабляла...

— Хто ён? — перапыніў Стэпку Васіль.

— Не трэба, дзетухна,— паспешліва сказала Стэпка.— Мне ўжо не палягчэе. Ганьбу людскую я заслужыла і не ў крыўдзе на іх. Век свой з людской нялюбасцю пражыла — з ёй і паміраць. А ён жа і на фронце пасля быў — медалёў нізавошта не далі б.

— Паслухайце, няўжо вам не хочацца, каб людзі даведаліся, што вы не проста так... зналіся з тым афіцэрам? І чаму, як вы маглі столькі гадоў маўчаць?

— А хто ж бы мне паверыў, дзетухна? Няма ж нікога, хто знаў бы ўсё гэта. Адзін ён. А ён ужо не скажа. Калі адразу не хапіла смеласці, то па часе знайсці яе цяжка. На фронце, кажуць, ён быў смелым — мабыць, лягчэй гэта там яму ўдавалася, разам з усімі, навідавоку... А ў інвалідскі дом я паеду, не думай — у цябе іншага клопату, нябось, хапае.

— Вам жа лягчэй там будзе — з людзьмі,— не знайшоўся нічога іншага сказаць Васіль.

— Праўда, праўда, дзетухна,— згодна ківала Стэпка галавой.

Назаўтра ўранні, ідучы на працу, Васіль думаў пра тое, што трэба абавязкова зноў схадзіць да Стэпкі: не можа быць, каб не сказала яна пра таго чалавека. Васіль яшчэ не ведаў, што ён пасля зробіць, што зменіць, але ён цвёрда вырашыў: імя гэтага чалавека ён павінен пачуць.

Думаў так Васіль і не ведаў, што ледзь развіднела, Стэпка ўскуліла на сваю трохколку вэндзал з такімі-сякімі трантамі і рушыла ў дарогу. Дагнаў яе Васіль на сельсавецкім газіку далёка за Навасёлкамі.

— Чаго ты, чалавек, турбуешся? — сказала Стэпка, выціраючы рукавом узмакрэлы ад поту твар.— Сама я заеду, не пані — не прывыкла, каб з-за мяне людзі мелі клопат.

— Мне пагаварыць...— пачаў Васіль.

— Адвыкла я шмат гаварыць,— перапыніла яго Стэпка і раптам неяк адчайна ўскінула галаву, сарвалася на крык: — Ну, што табе яшчэ трэба? Я табе ўчора як на споведзі, а цяпер твая воля: адпушчаць грахі ці не. А і не адпусціш, то мне, відаць, ужо не пацяжэе, не палягчэе. Выпетралася маё сэрца дашчэнту. Выпетралася! Каб хто гэтак прыйшоў да мяне тады, як я начамі стагнала і галавой аб сцяну білася, ды спытаў: «Чаму ж ты так здурнела, дзеўка? Што цябе штурхнула ў пекла? Ты ж чалавекам была?!» Дык жа не знайшлося ніводнай душы, якая хаця б на крапельку захацела паверыць, паслухаць, падумаць над маёй доляй. А я чакала, ох, як я, дурная, чакала!..

Стэпка змоўкла — адвярнулася. Не ведаючы што сказаць, маўчаў і Васіль.

— Не дапытвайся ты, чалавек, болей нічога,— стомлена папрасіла Стэпка.

— Ды што за пачуцці да яго ў вас такія?— злосна шпурнуў нагой глыж Васіль.— Ён вам жыццё паламаў, а вы і цяпер яго шкадуеце!

— Гэта што ж ты такое навыдумляў? — паволі павярнулася да Васіля Стэпка.— Сама я сваю жызню скалечыла. Сама. Ніхто мяне не змушаў рабіць тое, што зрабіла. Чуеш? Сама я гэта, сама! Мне і крыж несці,— дадала цішэй і сціснула рукамі галаву.— Ну, на ліха ж я табе расказала ўсё гэта?!

І Васіль зразумеў: яна не назаве імя таго чалавека.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.

Мірскі замак.
XV—XVI стагоддзе.
Карэліцкі раён.



СТАРАЖЫТНАЕ
ДОЙЛІДСТВА
БЕЛАРУСІ

МАЙ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

Беларусь

Цэнтральная частка трыпціха «25-га, першы дзень».



Балада пра маці.

Леанід Асядоўскі — мастак, чые творы на выстаўках не губляюцца. Іх пазнаеш адразу. Па адметным жывапісным почырку. Энергічным. Актыўным. Па каларыце. Па кампазіцыйных прынцыпах будовы палатна. Усё гэта, зразумела, эвалюцыяніруе. І на нядаўняй персанальнай выстаўцы твораў мастака можна было ўвачавідкі пераканацца, які шлях ён прайшоў: ад даўніх карцін, прысвечаных падзеям і людзям Вялікага Кастрычніка, да такога пранікнёнага мастакоўскага абагульнення, як у карціне пра беларускую маці Купрыянаву... Маляўнічасцю ўражваюць творы з паездак па нашай краіне і за мяжу.

Ён любіць кампазіцыі шматфігурныя, на значныя тэмы.

Ці заўсёды ўдаецца яму сказаць сваё!

Ужо самыя першыя кампазіцыі Асядоўскага вызначаліся самастойнасцю мастакоўскага мыслення, жывапісна-кампазіцыйнага выказвання, стылістыкай, уласцівай менавіта гэтаму мастаку. Змест у яго палотнах у суладдзі з усімі адметнасцямі формы.

Менавіта самастойнасць мастакоўскага мыслення прывяла да такой значнай карціны, як «Балада пра маці».

...Здавалася б, пасля вядомага помніка Купрыянавай, беларускай маці пяцярых сыноў, што не вярнуліся да яе з вайны, немагчыма знайсці новае ў мастакоўскім перажыванні гэтай трагічнай тэмы. Але Асядоўскі стварае сваю — жывапісную — баладу. Сапраўдная ўнутраная неабходнасць выказацца павяла думку і пачуццё мастака. Жывапісу пад сілу ажыццявіць самае небывалае: вось маці мроіцца, як выходзіць яна на падворак насустрач усім пяцярым, якія ніколі не вернуцца, пра якіх прыйшлі жахлівыя весткі, але вось яны, усе пяцёра, перад ёю, перад яе мацярынскім позіркам, быццам наяве, — маладыя, вясёлыя, яны крочаць да яе празісткі ці то пісьмаў франтавых сваіх апошніх, ці то праз трагічна белы снег пахаронак... Найтрагічная з метафар быцця

Леанід АСЯДОЎСКІ.





Ветраны дзень.

# ЗВОНКІЯ ФАРБЫ

шматпакутнай душы мацярынскай напісана звонкімі фарбамі, такімі, як сама неперможнасць ненатольнай мацярынскай мары і веры — насуперак усяму!.. Так гаварыць пра вайну і мір — ці ж гэта не пераканаўчы «сігнал трывогі», працяты ўсімі нервамі дзён нашых!!

Асядоўскі любіць пісаць шырока. Любіць звонкія фарбы. Ён пэўным чынам абмяжоўвае палітру. І ў той жа час яна застаецца маляўнічай, моцнай па гучанні колераў. Часам колер фарсіраваны. Залаты ператвараецца ў яго ў сонечны!.. Ён умее падпарадкаваць гучанне колеру выказванню пачуцця. Кіруе колерам. Праўда, калі глядзіш адразу шмат яго работ, то кідаецца ў вочы, што часам пэўны жывапісны прыём пераходзіць з карціны ў карціну. Ды гэта, урэшце, натуральна: паўтарэнне прыёму ёсць не што іншае, як яго замацаванне. Аднак, шчыра кажучы, узнікае часам і адчуванне пэўнай каларыстычнай манатоннасці.

У эвалюцыі жывапісу гэтага мастака назіраюцца пераходы ад кантрастных спалучэнняў колераў да больш гарманічнай іх узаемазвязанасці, да большай развжлівасці жывапіснага выказвання. І, безумоўна, больш спелай робіцца, сталее мастакоўская думка. А ўсё гэта разам і ёсць майстэрства, індывідуальны шлях мастака. Ён, можа, не столькі ўшыркі развіваецца ў жывапісе, колькі ідзе ўглыб. Прынцыпы, заяўленыя даўно, дзесяцігоддзі назад, можа, і не чыталіся некалі як пазіцыя мастака. Іншая справа сёння. Колішняя выразная яго адметнасць, відочная больш за кошт знешніх прыёмаў, цяпер развілася ў адметнасць мыслення. Менавіта мыслення, якое — у аснове жывапіснага выказвання.

Мяркую, што прапанаваныя тут рэпрадукцыі работ мастака прыцягнуць увагу чытачоў часопіса.

Леанід Асядоўскі працуе шмат. У яго майстэрні спеюць новыя творы.

Уладзімір БОЙКА.



Нафтавікі Палесся.

noblement mis en sepulture en
labie s. maart. si comme il avoit p
avant devise. Il y avoit xxx. milez
de la ou il trespassa. jusquez la il fu
portes. Ses .iiii. fieux estoient pnt
qui moult honorablement le firent
porter toute la voie. a grans pressi
ons de gens de religion. qui lame
recommanderent a nrēs. et faisoient

le service et office divin selonc ce
que a noblece de roy doit appartenir.

Ceste hystoire demoustre et enseigne co
ment les .iiii. filz clotaire partirent le
roialme. et bouterent hors de paris chil
pric leur frere qui lor avoit ravie.
Item comment rocus passa le pont de maience
et destruist la cite et celle de mes. Item
du chastoy que fist s. germain au roy childeb.
De la vision le roy gontran en dormant a la chace



Apres le mort le roy
clotaire. fu li roia
mes departis as
.iiii. freres. mais
chilpris qui plus
sages et plus malicieus estoit que
nulz des aultres a qui ne souffissoit
pas tel partie que il devoit avoir
par droit sort. alla a paris saisir
les tresors son pere au plus tost
quil pot. Les poissans franchois ma
nda. et acquist lor amour par dons
et par promesses. en tel maniere
se mist en possession du royalme.

Mais les aultres freres qui pas ne
sacorderent a ce. sassamblerent et
entrerent en la cite soudainement
que chilz nen sceut mot qui estoit
desporveus contre lor venue. hors le
bouterent. puis lui manderent que
sil se voloit assentir que tout le roi
alme qui fu leur pere. fust partiz en
.iiii. parties egaus. ilz le rapeleroi
ent. Rapeles fu donquez en tel ma
niere. Lors partirent le roialme en
.iiii. Childeberts qui ainsnes estoit. ot
le roialme de paris. qui ot este son
oncle childebert. Gontrans ot le roi

Эцюды аб шэдэўрах

# МІНІЯЦЮРЫ „ВЯЛІКІХ ФРАНЦУЗСКІХ ХРОНІК"

Самую сярэдзіну 15 стагоддзя адна з тагачасных хронік адзначыла наступным запісам: «1450 год быў залатым годам, калі пачалі друкаваць кнігі...», а ўжо праз восем гадоў, ацаніўшы выгоды новага тэхнічнага адкрыцця, французскі кароль Карл VII спецыяльным ардэнансам пасылае аднаго са сваіх ювеліраў «выведаць кнігадрукаванне ў горад Майнц, да месіра Іагана Гутэнберга». Пакуль жа адбывалася станаўленне паліграфіі, узрослыя запатрабаванні грамадства на кнігу задавальнялі, галоўным чынам, рамеснікі-перапісчыкі. З'явілася адносна танная кніга на паперы, без усялякіх упрыгожанняў, неабходная для вучоных, юрыстаў-практыкаў, студэнтаў.

У той жа час для высокапастаўленых асоб пачалі вырабляць незвычайна раскошныя кнігі, якія каштавалі велізарныя грошы. Цэлыя бібліятэкі каралёў, папаў, вялікіх князёў і герцагаў складаліся з кодэксаў, на бялюткіх пергаментных старонках якіх зіхацелі золатам і ўсімі фарбамі вясёлкі мініяцюры лепшых мастакоў таго часу. Паводле трапнага вызначэння савецкага гісторыка А. Люблінскай, большасць мініяцюр сярэдневяковых кніг — гэта маленства і сталенне еўрапейскага жывапісу. Пачынаючы прыкладна з XIV стагоддзя, у мініяцюрах пачалі больш выразна выяўляцца і нацыянальныя асаблівасці мастацтва кожнага з народаў Еўропы. Мастацкая каштоўнасць твораў многіх сярэдневяковых майстроў мініяцюрнага жывапісу надзвычай вялікая. Можна бясконца і з велізарнай эстэтычнай асалодай разглядаць гэтыя маленькія карцінкі, намаляваныя нібыта бязважкімі штрыхамі, дзівіцца іх непаўторнаму і непадуладнаму часу каларыту, захапляцца выразнасцю тварў і прыгажосцю пейзажаў. Можна бясконца здзіўляцца гарманічнаму спалучэнню тэксту, мініяцюры і арнаментаў на лісце, працавітай руплівасці і бясконцай фантазіі старых майстроў.

«Каралямі» мініяцюрыстаў і мініяцюрыстамі для каралёў у перыяд найбольшага росквіту гэтага мастацтва былі Сімон Марміён і Жан Фукэ. Жан Фукэ працаваў для французскага караля, Сімон Марміён — для каралеўскага васала, герцага бургундскага, які па багаццю і пышнасці двара пераўзыходзіў свайго сюзерэна.

Адзін з шэдэўраў работы Сімона Марміёна — «Вялікія французскія хронікі». Тэксты гэтай кнігі шмат у чым адрозніваюцца ад кананічных тэкстаў французскіх хронік, што пісаліся ў абацтве Сен-Дэні, непадалёку ад Парыжа. Перапісаныя спецыяльна для бургундскага двара, «Вялікія французскія хронікі» былі адрэдагаваны абатам манастыра Сен-Бертэн Гільёмам Філятрам, прычым рэдакцыі былі падвергнуты не толькі змест, але і сюжэты мініяцюр. Усё было скіравана на тое, каб узвысіць палітычную вагу Бургундыі і яе ўладароў. Калі ў 1456 годзе работа па стварэнню «Вялікіх французскіх хронік» была завершана, абат Філятр урачыста паднёс велізарны том у сінім аксамітавым пераплёце герцагу Бургундыі Філіпу Добраму.

Кніга была аздоблена 90 мініяцюрамі, з якіх чатырнаццаць стварыў сам Сімон Марміён, астатнія выканалі яго вучні і чаляднікі. Характэрная рыса творчасці Марміёна — добры густ пры арганізацыі прасторы ліста рукапісу. Багатыя арнаменты, якія акружаюць мініяцюры і тэкст, ніколі не паўтараюцца, у адрозненне ад арнаментаў, зробленых памочнікамі,— складаных, але выкананых па адной пэўнай схеме. Архітэктура і пейзажы, твары персанажаў намаляваны Марміёнам надзіва тонка і па-майстэрску. Кожная мініяцюра — ілюстрацыя адразу да некалькіх апісаных у хроніцы падзей французскай гісторыі. На каляровым фота мы ўпершыню прадстаўляем у поўным аб'ёме выгляд адвароту 36-га ліста, аздобленага самім Сімонам Марміёнам. Мініяцюра гэтага ліста прадстаўляе падзеі, якія адбыліся за часы праўлення франкскай дынастыі Меравінгаў.

...Была сярэдзіна шостага стагоддзя новай эры. Франкскай дзяржавай кіравалі каралі, звычаі якіх уяўлялі спалучэнне дзікунства і рэштак загінуўшай рымскай культуры. У 561 годзе кароль Хлотар апошні раз выехаў з любага яго сэрцу маёнтка Брэн, дзе ў патаемным пакоі за трайнымі замкамі захоўваліся яго скарбы, якія складаліся з залатых манет, каштоўных сасудаў і рэчаў. Незадоўга перад гэтым ён падавіў паўстанне аднаго са сваіх сыноў, спаліў вінаватага разам з жонкай і дзецьмі. Цяпер кароль са спакойным сумленнем, задаволены сабой, узяўшы вялікую колькасць людзей, коней і сабак, накіраваўся на паляванне ў Кюізскія лясы (невялічкія рэшткі гэтых лясоў складаюць цяперашні Кампʼенскі лес на поўначы Францыі). Ці то ад напружанага палявання, ці то ад сырасці ён захварэў на ліхаманку і памёр пасля пяцідзесяцігадовага ўладарання. Чатыры сыны Хлотара — Харыберт, Гартран, Хільперык і Сігіберт — з факеламі ў руках, співаючы псалмы, правялі пахавальнае шэсце да Суасона.

Ледзь толькі скончылася пахаванне, як трэці з братоў, Хільперык, заспяшаўся ў Брэн і прымусіў людзей, што аберагалі каралеўскі маёнтак, выдаць яму ключы ад скарбу. Завалодаўшы бацькавым багаццем, Хільперык раздаў частку яго начальнікам дружын і воінам у Брэне і ваколіцах. Усе пакляліся яму ў вернасці, па звычаю паклаўшы свае рукі ў яго рукі, і абвясцілі яго кунігам (каралём). Пасля гэтага, стаўшы на чале сваіх воінаў, Хільперык пайшоў на Парыж.

Французскі гісторык XIX стагоддзя Агюсцен Цьеры, які маляўніча апісаў гэту гісторыю, лічыць, што галоўным жаданнем Хільперыка было авалодаць замкам-палацам, будынкі і сады якога ўзвышаліся на паўднёвым беразе Сены. Увайшоўшы ў Парыж без супраціўлення, Хільперык размясціў сваіх воінаў на вежах, што абаранялі гарадскія масты праз Сену (у тыя часы яна акружала Парыж з усіх бакоў). Аднак браты, даведаўшыся пра гэта, аб'ядналіся супраць таго, хто сам вызначыў сваю долю бацькаўскай спадчыны, і ў хуткім часе прыйшлі да Парыжа з сіламі, якія пераўзыходзілі сілы Хільперыка. Хільперык пабаяўся супраціўляцца і, адмовіўшыся ад сваёй задумы, падпарадкаваўся ўмовам палюбоўнага падзелу.

На мініяцюры, у левым куце, адлюстраваны парыжскі замак-палац, на браме якога шчыт з трыма каралеўскімі лілеямі. У глыбіні двара — браты абмяркоўваюць учынак Хільперыка, а на пярэднім плане паказана, як Хільперыка выводзяць з незаконна занятага Парыжа. У пакоях замка адбываецца яшчэ адзін эпізод, звязаны з каралём Хільдэбертам, які пакінуў жонку дзеля дзвюх служанак. За гэта яму выгаворвае святы Герман, які на той час быў парыжскім біскупам (ён у пурпуровым адзенні). Але, як паведамляе хроніка, «кароль не захацеў выправіцца пасля вымовы гэтага святога чалавека».

Сімон Марміён працуе без перабольшанай узнёсласці — прывабнасць яго мініяцюр перш за ўсё ў рэалістычным і радасным успрыманні жыцця. Людзі, жывёлы, архітэктурныя ансамблі, сама прырода ў яго мініяцюрах складаюць гарманічнае адзінства. Ён прымушае гледача пазіраць на свет нібыта з высокай вежы, адкуль ён сам меў магчымасць аглядаць наваколле. Майстар то набліжае да нас маляўнічыя краявіды, то аддаляе іх на задні план. У нашай мініяцюры, каб паказаць цудоўны пейзаж, мастак карыстаецца сюжэтам сну караля Бургундыі і Арлеана. Хроніка апавядае: «Калі Гартран апусціўся пад дрэвам для кароткага адпачынку і сну і прыхінуўся да таго, хто быў побач з ім», яму саснілася, што з'явіўся зварок, які пачаў бегаць па беразе ручая, шукаючы пераходу на другі бок. «Калі той, які быў з каралём, убачыў гэта, ён узяў свой меч і паклаў яго ўпоперак ручая. Зварок ускочыў на яго, перапоўз на другі бераг» і паказаў, што там, у горнай шчыліне, закапаны скарб.

Тэкстуальна перадаўшы словы хронікі пра сон караля, мастак дае волю свайму ўяўленню. На беразе ручая ляжыць Гартран. Лёгкі драўляны масток вядзе гледача ў лясны гушчар, з якога выязджае паляўнічы, трубячы ў рог. У глыбіні адкрываюцца рака, узгоркі, цудоўныя далягляды з характэрнымі для сярэдневяковага пейзажа сілуэтамі феадальных замкаў і ветракоў. Тут жа выява жудасных вынікаў вайны — з педантычнай дакладнасцю мастак паказвае, як кароль гунаў Крокус хацеў здабыць сабе славу разбурэннем горадоў...

Вельмі нямнога ведаем мы пра жыццё Сімона Марміёна. Нарадзіўся ён у Ам'ене, у сям'і мастака Жана Марміёна. З 1449 года выконваў заказы гарадскога савета Ам'ена на жывапісныя работы. У 1454 годзе Сімона запрасілі ў Ліль, дзе ён прымаў удзел у аздабленні ўрачыстасцей, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай «Свята фазана». Тады ж адбылося яго знаёмства з Гільёмам Філятрам, ад якога ён атрымаў заказ на «Вялікія французскія хронікі». Мастак падняўся на ўзровень лепшых жывапісцаў свайго часу — ван дэр Вэйдэна, ван Эйкаў, Ганса Мемлінга. Творчае жыццё яго прайшло галоўным чынам у фландрскім горадзе Валансьене. Даследчыкі да гэтай пары спрачаюцца аб школе, да якой належыць Сімон Марміён — большасць лічыць, што гэта было фламандскае мастацтва, аднак некаторыя называюць яго прадстаўніком французскай школы. На нашу думку, адасобленасць ад Францыі галоўных заказчыкаў Марміёна — фландрскіх гараджан і бургундскіх герцагаў — аб'ектыўна набліжала мастака да плыняў фламандскага мастацтва.

Бургундскіх герцагаў таго часу можна параўнаць з беларускімі магнатамі Радзівіламі, пра якіх існавала — і небеспадстаўна — прымаўка: «Кароль у Варшаве, а Радзівіл у Нясвіжы». Князі Радзівілы, як і герцагі Бургундыі, валодалі багатымі гарадамі, замкамі, мелі ўласнае вялікае войска. Іх пышныя двары прыцягвалі да сябе музыкаў, мастакоў, вучоных. З Радзівіламі звязаны такія вялікія набыткі сярэдневяковай беларускай культуры, як нясвіжская партрэтная галерэя, «Радзівілаўскі летапіс», Брэсцкая біблія 1563 г. Герцагі бургундскія не здолелі ўмацаваць сваю дзяржаву, і яна распалася ў XVI стагоддзі, пышнасць жа шляхецкага двара Радзівілаў, як вядома, з цягам часу ператваралася ў нічога не вартую шляхецкую пыху. І толькі спадчына таленавітых майстроў нагадвае пра драматычныя гістарычныя падзеі, на фоне якіх адбывалася станаўленне кніжнага мастацтва і якія адлюстраваліся ў кніжнай ілюстрацыі. Шэдэўр кніжнай культуры пятнаццатага стагоддзя — «Вялікія французскія хронікі» — сёння гонар калекцыі еўрапейскіх манускрыптаў аддзела рукапісаў Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе.

Мікола **НІКАЛАЕЎ**.

Чытач памыляецца, калі мяркуе, што размова пойдзе аб чарговай спажывецкай навінцы Галівуда — фантастычным супербаевіку, у якім расказваецца аб тым, як уварваліся на зямлю пачварныя монстры з далёкай зорнай сістэмы і некалькі бравых хлопцаў, вядома ж, амерыканцаў, ратуюць нашу старэнькую планету, разбіваючы ўшчэнт «імперыю зла». Фільм такі, вядома, неўзабаве можа з'явіцца, але гэтыя нататкі аб рэчах не менш злавесных, тым больш, што яны, на жаль, пакуль існуюць у рэальным жыцці Злучаных Штатаў.



# КОБРА-ХАН СУПРАЦЬ АМЕРЫКІ

Уявіце сабе, як нейкі амерыканец прыходзіць дадому, а яго сынок Джоні ўскоквае яму ззаду на шыю і злавесным шэптам паведамляе ўмовы ўльтыматуму: «Калі не купіш мне «Трансфарматары» (набор фантастычных салдат-робатаў), раскажу аб усім Кобра-хану, і ён у цябе з пушкі як жа-ахне!»

Лухта нейкая, скажаце вы. А вось самі амерыканцы не на жарт занепакоены, і маюць на гэта ўсе падставы.

Зайдзіце ў любы амерыканскі магазін дзіцячых цацак, і вам падасца ў першае імгненне, што вы апынуліся ў... армейскім складзе. Тут можна купіць лялечную мабільную дыверсійную групу ў поўным складзе, з верталётам і ўсім рыштункам. Можна набыць самую сучасную тэхніку для вядзення «зорных войнаў», наборы «Гаспадары сусвету», «Вальтрон», Кобра-хана — «гібрыд» гладыятара з дыназаўрам, узброенага лазернай пушкай, і гэтак далей. Зброю, якая не ўмяшчаецца на вітрыне ў натуральную велічыню, замяняе мадэль-копія. Захочацца, напрыклад, Джоні пагуляць у вайну ў В'етнаме або разыграць прыгоды наёмнікаў у Цэнтральнай Амерыцы,— калі ласка, да яго паслуг брудна-плямістыя маскхалаты і іншыя аксесуары, на любы густ і ўзрост, пачынаючы з двухгадовага. Так і чуецца ў гэтым складзе вайсковай амуніцыі, паслужліва выстаўленай на дзіцячыя вочы, нечы ліслівы голас: «Падрастай хутчэй, Джоні! Магчыма, табе пашчасціць, і ты зможаш прыняць удзел у сапраўднай вайне, ажыццявіш аперацыі, якія не раз разыгрываў у маленстве!..»

Усё прадугледзелі прадпрымальныя дзялкі ад цацак. Усё, акрамя аднаго. На старанна намаляваных цэнніках не названа сапраўдная цана расплаты: чалавечыя трагедыі ў цынкавых трунах, пакрытых флагамі нацыянальнай ганьбы. Бо наўрад ці знайшліся б пакупнікі на такі тавар. Прынамсі, і гэта нельга сцвярджаць з усёй пэўнасцю: усё магчыма ў сучаснай Амерыцы.

Здзіўляе статыстыка. Толькі за адзін мінулы год у ЗША было прададзена 214 мільёнаў цацак і цацачных набораў мілітарысцкага характару, а з 1982 года продаж такіх цацак узрос на 350 працэнтаў. За цацачнікамі-мілітарыстамі не паспяваюць нават вытворцы сапраўднай зброі. А рэкламу гэтай далёка не цацачнай прадукцыі, акрамя паўсядзённага жыцця, напоўненага штохвілінным насіллем, з максімальным вынаходніцтвам стварае тэлебачанне. Так цэлая мультыплікацыйная праграма «штурхае» самую папулярную сёння ў ЗША гульню «Трансфарматары» з «хуткасцю» 83 акты гвалту ў гадзіну.

Даследаванні, праведзеныя доктарам філасофіі Чарльзам Тэрнерам з універсітэта штата Юта і яго калегамі з Йельскага універсітэта, паказваюць, што лавінападобны рост вытворчасці дзіцячых гульняў, якія прапагандуюць насілле і, больш таго, навучаюць яму, вядуць да павелічэння дзіцячай злачыннасці, розных псіхічных адхіленняў у дзяцей, зніжэння паспяховасці ў школе.

Фабрыканты ўсіх гэтых, з дазволу сказаць, «цацак» не абцяжарваюць сябе апраўданнямі, абмяжоўваючыся стандартным аргументам, што, маўляў, «гульня са зброяй змяншае прыродную дзіцячую агрэсіўнасць». Што ж, калі пагадзіцца з такой логікай, то для дарослых сапраўдная зброя і вайна таксама з'яўляюцца жыватворнымі, бо яны «змяншаюць прыродную чалавечую агрэсіўнасць». У Амерыцы, дарэчы, нямала псеўдавучоных, якія пераконваюць, што так яно і ёсць на самай справе. Пытанне толькі ў тым, што прымаць за гэту самую «прыродную агрэсіўнасць» і адкуль яна бярэцца. Калі прызнаць, што ўсёй сваёй існасцю капіталізм разбурае, дэгуманізуе асобу, абуджае ў ёй самыя нізкія інстынкты і, перамалоўшы, нібыта ў мясарубцы, выплёўвае на сметнік буржуазнага грамадства індывідаў, якія дайшлі да апошняй мяжы адчаю, здольных на любыя ўчынкі дзеля таго, каб выжыць, тады стане зразумелым, што ў такім становішчы вінавата не «адвечна грэшная чалавечая прырода», а антыгуманны грамадскі лад, ненармальныя ўмовы існавання, якія зводзяць чалавека да ўзроўню жывёлы. Аднак такое тлумачэнне пастаўшчыкоў насілля, вядома ж, не задавальняе.

Прынамсі, клапоцяцца яны зусім не аб чысціні дзіцячых душ. Нацыянальная кааліцыя супраць тэлевізійнага насілля адзначае асаблівы акцэнт, які вытворцы цацак робяць на ідэі заваявання сусветнага панавання, якую амерыканскія добрыя малайцы ажыццяўляюць з дапамогай грубага насілля і жорсткіх баёў. Паказальнае ў сувязі з гэтым прызнанне прадстаўніка адной з буйнейшых у ЗША «цацачных» кампаній «Хасба Брэдлі інкарпарэйтэд» у тым, што бум мілітарысцкіх гульняў з'яўляецца вынікам «зусім новага клімату патрыятызму». Такім чынам, усё становіцца на свае месцы. Наколькі кобра-ханы — параджэнне гэтага клімату, настолькі яны самі яго ствараюць, і далёка не ў цацачным варыянце.

У бізнесе на дзіцячых душах, як у кроплі вады, яскрава адбіваецца сацыяльны заказ амерыканскіх правячых колаў: літаральна з пялёнак фарміраваць у амерыканцаў светаўспрыманне, для якога вайна была б такой жа звычайнай з'явай, як, скажам, галодная смерць чарговага беспрацоўнага або ўзброенае абрабаванне сярод белага дня. Тое, што патрабуе беспярыннай масіраванай «прамыўкі мазгоў» дарослых амерыканцаў, без асаблівых клопатаў укараняецца ў свядомасць дзіцяці з дапамогай цацкі.

У гэтым атрутным клімаце не проста працвітае мода на мілітарызаваныя гульні. Мілітарызуецца ўсё: ад вопраткі, музыкі, прэсы, кіно і літаратуры да мыслення, ладу жыцця амерыканскага грамадства ў цэлым. І наўрад ці хто ўспрымае як «бяскрыўдную» даніну модзе настальгічных забойцаў, якія фарсяць на цэнтральных вуліцах Вашынгтона і Нью-Йорка ва уніформе з нашыўкамі «US ARMY» і медалямі за ўдзел у бруднай вайне ў В'етнаме. Гэта не што іншае, як бравада ўменнем і гатоўнасцю паліць, забіваць, разбураць па першай камандзе.

«Зусім новы клімат патрыятызму» ў ЗША, або «неапатрыятызм», як яго вызначыў прэзідэнт Рэйган на нацыянальным з'ездзе рэспубліканцаў у Даласе, уяўляе сабой чарговы ўсплёск усё тых жа старых нацыянальна-вялікадзяржаўных настрояў, закліканых у сучасных умовах садзейнічаць, зноў жа карыстаючыся тэрміналогіяй «правых», «неакансерватыўнаму пераадоленню крызіснага лёсу» Амерыкі. Такім чынам, глыбокі крызіс мяркуюць пераадолець, раздзімаючы шавіністычныя настроі і мілітарысцкі псіхоз, каб выліць вонкі незадаволенасць сваім становішчам пераважнай большасці амерыканцаў, знайсці своеасаблівага «казла адпушчэння», на якога можна было б зваліць усе беды, пераадолець славуты «крызісны лёс» за кошт іншых.

«Кліматрон» запушчаны на поўную сілу, дый вопыту па стварэнню ледніковага клімату «халоднай вайны» ў правячай Амерыкі больш чым дастаткова. «Лютыя эгацэнтрызм і агрэсіўная ксенафобія буржуазнай дзяржавы,— піша прафесар Бостанскага універсітэта Говард Зін,— нідзе не дзейнічалі з такой сілай, як у Злучаных Штатах, дзе матэрыяльныя сродкі і энергія людзей затрачваліся на войны і падрыхтоўку да войнаў, а не на задавальненне найбольш важных чалавечых патрэб».

Чаго варты ўсе гэтыя «патрыятычныя» разглагольстваванні, калі, як адзначае старшыня кампартыі ЗША Генры Уинстан, «сённяшнія кансерватары мяркуюць аб ступені патрыятызму сваіх суграмадзян не па іх любові да сваёй краіны і народа, а па нянавісці да іншай краіны і іншага народа — Савецкага Саюза і савецкіх людзей! Гэтыя пачуцці не маюць нічога агульнага з сапраўдным патрыятызмам. Гэта адкрыты шавінізм, расізм і джынгаізм. Нянавісць распаўсюджваецца на ўсіх, хто выступае супраць прыгнёту і эксплуатацыі, хто змагаецца за вызваленне ад ланцугоў імперыялізму».

Чым жа тлумачыцца гэта паталагічная нянавісць? Наіўна было б думаць, што, скажам, некалькі тысяч нікарагуанцаў могуць уяўляць нейкую пагрозу бяспецы ЗША з іх велізарнымі ваеннымі, эканамічнымі і чалавечымі рэсурсамі. Нянавісць выклікае само імкненне адстаяць права выбару незалежнага шляху развіцця насуперак дыктату Вашынгтона. За туманнымі заклікамі да «выратавання Амерыкі», на якую ніхто, як вядома, нападаць не збіраецца, хаваецца старое жаданне любой цаной адстаяць інтарэсы амерыканскага капіталу, якія паўсюдна ўсё больш прыходзяць у прамую супярэчнасць з логікай міжнароднага развіцця.

Як гэта ні ўяўляецца парадаксальным, «неапатрыятызм», які ўкараняецца ў сённяшніх Злучаных Штатах, не ў апошнюю чаргу накіраваны і супраць саміх амерыканцаў, асабліва тых, хто не жадае глядзець на свет праз прыцэл аўтамата. І тут да месца будзе прыгадаць дальнабачную перасцярогу першага амерыканскага прэзідэнта Джорджа Вашынгтона, які гаварыў, што народ, якім авалодвае пачуццё нянавісці да іншага народа, сам становіцца некаторым чынам яе ахвярай. Дарэчы, нельга заручыцца, што за такія «антыпатрыятычныя» выказванні нават прэзідэнт Вашынгтон не быў бы сёння ашальмаваны як «падрыўны элемент».

На шчасце, як гэтага ні дамагаюцца кобраханы, гэтыя шматаблічныя сімвалы кансерватыўнага экстрэмізму, мілітарызму і антыкамунізму, пярэваратні ў абліччы цацак і ў цялесным вобразе, яны — гэта яшчэ не ўся Амерыка. Дагматычнай вузкасці мыслення сучасных «звышпатрыётаў» супрацьстаіць цвярозы розум амерыканцаў. Гэта яны, сапраўдныя патрыёты: камуністы, члены шматлікіх негрыцянскіх, антываенных, іншых прагрэсіўных дэмакратычных арганізацый, вядуць самаадданую барацьбу за мір. Гэта яны, выстраіўшыся ланцугом даўжынёй амаль 24 кіламетры ад Пентагона да будынка кангрэса напярэдадні 40-годдзя атамных бамбардзіровак Хірасімы і Нагасакі, сказалі сваё рашучае «НЕ!» падпальшчыкам вайны.

Зараз многія ў Амерыцы пагаджаюцца з тым, што палітыка цяперашняй адміністрацыі часцей за ўсё прыводзіць да вынікаў нежаданых, а то і супрацьлеглых тым, на якія яна разлічвала. Несціханы бой у барабаны вайны не выклікаў прыліву ваяўнічага настрою ў шырокіх слаёў амерыканцаў, а толькі абвастрыў пачуццё трывогі за заўтрашні мірны дзень, за ўласнае жыццё. Больш як 60 працэнтаў амерыканцаў лічаць, што ядзерная вайна магчыма, і звязваюць гэту небяспеку з палітыкай Белага дома. Страх кіруе Амерыкай? Часткова гэта так. Аднак на амерыканскай палітычнай арэне ўзаемадзейнічаюць розныя, часам палярна супрацьлеглыя палітычныя сілы, сутыкаюцца інтарэсы розных груп і слаёў насельніцтва, якія не паддаюцца простаму арыфметычнаму падліку. Але выбар можа быць толькі адзін: на карысць розуму. І чым хутчэй гэта ўсвядомяць на ўсіх паверхах амерыканскай палітычнай піраміды, тым лепш. Часу на роздум ужо не застаецца.

Вось чаму такі магутны рэзананс выклікала савецка-амерыканская сустрэча на самым высокім узроўні ў Жэневе. Як гавораць самі амерыканцы, яна абудзіла многіх ад мілітарысцкага дурману, пасеяла ў сэрцах мільёнаў надзею на тое, што знішчальнай атамнай вайны можна пазбегнуць. Пераважная большасць амерыканцаў рашуча падтрымлівае савецка-амерыканскі дыялог, распрацоўку асноў для дасягнення дагаворанасці па кантролю над ядзернымі ўзбраеннямі.

Час пачынае новы адлік.

**Вячаслаў ПАЗНЯК.**



# РАЗЗБРАЕННЕ!



**«Савецкі Саюз прапануе, дзейнічаючы паэтапна і паслядоўна, ажыццявіць і завяршыць працэс вызвалення зямлі ад ядзернай зброі на працягу бліжэйшых 15 гадоў, да канца цяперашняга стагоддзя».**

**З Заявы Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. ГАРБАЧОВА.**






РЭЦЭНЗУЕМ

# СІЛАВОЕ ПОЛЕ ТАЛЕНТУ

Ад першай кнігі «Адкрыццё» Уладзіміра Някляева было дваякае ўражанне. З аднаго боку — багацце жыццёвых назіранняў, уменне мысліць паэтычнымі вобразамі, адчуванне слова, а з другога — сям-там празмернае імкненне атаясамліваць воблік лірычнага героя з уласным «я». Здавалася б, нічога благога ў гэтым няма, ды толькі так не хацелася, каб малады паэт станавіўся ў позу гэткага павучальніка. Але як паказаў час, гэтага, на шчасце, не здарылася. Уваходзячы ў літаратуру ўпэўнена, размашыстым крокам, з першага ж зборніка ён заявіў аб сабе, як аб творцы ярка індывідуальным, акрэсліў свае тэмы. Сярод іх — і памяць аб мінулай вайне, якой не бачыў, але пра якую чуў і ведае з расказаў нямала, і спроба суаднесці дзень сённяшні з падзеямі сівой мінуўшчыны. Аднак пры ўсім тым дамінавала ў яго паэзіі сучасная тэматыка.

І ў другой кнізе «Вынаходцы вятроў», і ў наступнай «Знак аховы», і ў апошняй, якая летась выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

«Наскрозь» — крыху нечакана і разам з тым па-някляеўску непаўторна назваў яе паэт. Наскрозь спрабуе ён пранікнуць у самыя складаныя жыццёвыя з'явы, убачыць душу чалавека, адчуць, хто ёсць хто ў нашым неспакойным і супярэчлівым дваццатым стагоддзі. Інакш пісаць немагчыма, калі ты не проста працуеш у літаратуры, а жывеш літаратураю. Прынамсі, паэзія ва ўсе часы была і застаецца па сённяшні дзень своеасаблівым камертонам грамадскай думкі.

Ужо ў другім зборніку У. Някляева намецілася спроба высветліць, а хто ж ён, паэт, які мае права быць выразнікам дум народа, і вылілася ў страсныя радкі верша «Мост Шандара Пецёфі»:

Паэт не той, хто вершы піша, не.
Каб так было — усе былі б паэты.
Паэт сябе ствараае...

І ў трэцяй кнізе «Знак аховы» паэт пра творчасць гаворыць вельмі дакладна: сапраўдныя вершы пішуць — «Як жывуць. Як дыхаюць. Як паміраюць». У новым зборніку спрадвечнай тэме — творца і час, паэт і народ — прысвечана паэма «Наскрозь». З'явіўшыся на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», яна адразу выклікала гарачыя спрэчкі. Былі прыхільнікі — такіх безумоўная большасць, сустракаліся і тыя, хто не мог цалкам успрыняць празмерную — на іх думку — завостранасць паэтычнай гаворкі.

Справа, безумоўна, не ў прыхільніках і не ў тых, каму хочацца, каб паэт пісаў інакш. Справа ў самой паэме, якая — гэта ўжо відавочна — тое лепшае, што ўдалося стварыць У. Някляеву ў гэтым няпростым жанры.

Паэзія для У. Някляева — само жыццё, з яго зменлівасцю і хуткаплыннасцю, пастаянствам і сцішанасцю. Паэт не маўклівы сузіральнік жыцця, ён адчувае сябе далучаным да ўсяго, што адбываецца ў свеце:

Я прашу пад іменем паэта
(Іменем сапраўднага Паэта)
Разумець ратая, каваля,
Фізіка, міністра, верхалаза —
Паасобку ўсіх і ўсіх адразу,
Хто не можа знясь з сябе адказу
За жыццё, што будзе нас пасля...
Хто не даў зямлі згарэць каметай,
Кім зямля апета і сагрэта
І на кім трымаецца зямля.

Умешваючыся ў час, У. Някляеў не дае гатовых рэцэптаў, як жыць, бо яны не патрэбны. Для яго галоўнае прыўзняць розныя жыццёвыя пласты, каб можна было ўбачыць самыя розныя праявы гэтага жыцця. Бадай, ні ў адным ранейшым творы (а была ж у кнізе «Вынаходцы вятроў» і паэма «Дарога дарог», у якой таксама талент паэта выразна раскрыўся сваімі адкрыта публіцыстычнымі якасцямі) не адчуваецца гэткага ўмення суаднесці роздум чалавека з думкамі аб самім чалавеку, а гуманістычны пафас паэмы не паслабляе самой выкрывальнасці, якая набліжаецца да з'едлівай сатыры. Наадварот, у паэме вельмі арганічна пяднаны мастакоўская задума з яе канкрэтным вырашэннем. Хіба што толькі паэма «Гарбун» — яна таксама ўвайшла ў кнігу — па сваёй завершанасці, выразнасці сацыяльна-грамадзянскай пазіцыі аўтара набліжаецца да паэмы «Наскрозь».

Як і ў ранейшых зборніках, у апошняй кнізе У. Някляеў спрабуе сябе ў розных жанрах. З балад найбольш удалася паэту балада «Кажух» — з той бязлітаснай праўдай, якая адлюстроўвае пасляваенную рэчаіснасць: «...Я вырастаў з дзіцячых апранах хутчэй, чым травы ў лета выраслі. Ды не ў дакор за рост не па гадах абновы мне гады ў рады спраўлялі». Амаль поруч з гэтай, у нечым традыцыйнай баладай стаіць іншая — «ЕС 987 654 320+1 — 55». Свайго роду паэтычны эксперымент, яна і расказвае пра эксперымент — пра тое, як вучаць электронную машыну пісаць вершы.

У сувязі з гэтым — пра само эксперыментатарства ў творчасці У. Някляева. Сказаць, што заўсёды тут аўтара чакае ўдача — паграшыць супраць ісціны. Часам здараецца і так, што ўсё гэта становіцца самамэтай, арыгінальнічаннем і не больш. Тады і з'яўляюцца «адкрыцці» тыпу: «Які я быў шчаслівы каля сцяны расстрэлу!», як у зборніку «Знак аховы».

Уладзіміру ж Някляеву, як пісала ў артыкуле «Клопат паэта, трывога паэта» Т. Бондар (дарэчы, гэта ці не першая спроба акінуць уважлівым і патрабавальным позіркам усё, што напісана сёння паэтам), «адпушчана таленту багата. І — што, мажліва, яшчэ больш важна! — талент яго надзейна ўмацаваны верай. Верай паэта ў сябе. У сваё прызванне. У свой талент». Дадамо, што вера гэта яго мацуецца яшчэ і адчуваннем грамадзянскага абавязку перад сваім народам, перад сваёю зямлёю, неабыякавасцю творцы да ўсяго, што адбываецца ў свеце. Таму ў кнізе «Наскрозь» паэт такі разнастайны ў сваім творчым выяўленні: ён і публіцыстычна страсны і лірычна-пранікілівы, ён і традыцыяналіст, і эксперыментатар.

Што ж тычыцца выдаткаў, дык не без іх. Не сказаць, каб давала жаданы плён тое, што хацелася паэту выказаць у вершы «Вобласка над школай». Крыху далекаваты ад сапраўднай паэзіі такі натуралізм: «Партэрныя крэслы — дзе перхаць і перасыць — будуць парыпваць...» Не зусім па-беларуску сказана: «Калі ж устанеш прысягнуць усім, хто не вярнуўся з бою...» ці «Для чаго ж нам ламацца ў душу...»

Але ж не гэта, на шчасце, галоўнае. Ёсць у нашай літаратуры цудоўны паэт Уладзімір Някляеў і ёсць паэзія, якой ён дае жыццё. Пацвярджэнне таму і новая кніга «Наскрозь».

Алесь МАРЦІНОВІЧ.



# З ПАКАЛ

Падыходзіў да канца 1918 год. У старажытным рускім горадзе Смаленску ўрачыста адкрывалася VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя, на якой прысутнічалі прадстаўнікі бальшавіцкіх арганізацый Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай і Віленскай губерань. Тыя знамянальныя дні — 30 і 31 снежня — назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю беларускага народа. З дакладам аб бягучым моманце выступіў А. Ф. Мяснікоў. Па яго прапанове VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) аб'явіла сябе Першым з'ездам Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі. Старшынёй Цэнтральнага Бюро КП(б) Беларусі — вышэйшага партыйнага органа ў перыяд паміж з'ездамі КП(б) быў абраны верны ленінец Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў.

Мяснікоў належаў да пакалення барацьбітоў, якіх узняла хваля рэвалюцыі 1905 года, удзел у барыкадных баях у дні Снежаньскага ўзброенага паўстання ў Маскве.

Дваццацігадовага юнака Аляксандра Мяснікова бальшавікі Растова-на-Доне прымаюць у рады РСДРП, а праз некалькі месяцаў — арышт, першае выпрабаванне волі і характару рэвалюцыянера.

У маі 1911 года ён заканчвае юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта і з верасня служыць у адной з вайсковых часцей Маскоўскага гарнізона. На пачатку першай сусветнай вайны Мяснікоў быў мабілізаваны на Заходні фронт і прызначаны начальнікам вучэбнай каманды, дзе за кароткі тэрмін стварыў бальшавіцкую групу. У канцы 1916 года яго перавялі з вучэбнага палка ў штаб арміі, які знаходзіўся ў Смаленску, а затым — на фронт, у дзеючую армію. І зноў Мяснікоў вядзе рэвалюцыйную работу сярод салдат Заходняга фронту ў Беларусі. Ён растлумачваў франтавікам сутнасць Красавіцкіх тэзісаў У. І. Леніна, выступаў па гэтым пытанні на І з'ездзе ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту ў Мінску 6—7 красавіка 1917 года. На ўдзельнікаў з'езда яго выступленні зрабілі моцнае ўражанне яснасцю і дакладнасцю бальшавіцкай лініі і рэвалюцыйным тэмпераментам. На гэтым з'ездзе Мяснікоў быў абраны ў склад франтавога Выканаў-

# АБУДЖ

Сапраўднае прозвішча Змітрака Бядулі — Самуіл Яфімавіч Плаўнік, а Бядуля — абранае літаратурнае імя, араве свядома, са значэннем, як Цётка, Купала і Колас. Ён і належаў да іх кагорты рамантыкаў-абуджальнікаў і разам з тым рэалістаў-змагароў за лепшую долю народа. Агульнымі сіламі, у цесным яднанні яны «бедавалі» над лёсам роднай старонкі, але «бедавалі» актыўна і палымяна, прасвятляючы народныя масы і шукаючы для іх новых шляхоў у будучыню. Ён быў паплечнікам і сябрам Янкі Купалы і Якуба Коласа. Яго творчая спадчына, як і творчасць яго старэйшых літаратурных настаўнікаў, складае вытокавую традыцыю сучасных інтарэсаў духоўнай культуры беларускага народа, які за гады Савецкай улады дасягнуў небывалых поспехаў у сацыяльным і культурным развіцці.

Ад местачковага юнака, сэрца якога шчыра адгукалася на беды народа прачулым мастацкім словам, да пераканаснага дзеяча сацыялістычнай культуры, яе самаадданага стваральніка,

## ЕННЯ БАРАЦЬБІТОЎ



*Да 100-годдзя*
***А. Ф. МЯСНІКОВА***

чага камітэта і ўзначаліў у ім бальшавіцкую фракцыю.

Яго імя становіцца шырока вядомым і ў воінскіх часцях, і сярод бальшавікоў Беларусі. І калі ў Мінску стварыўся Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, Мяснікоў становіцца старшынёй яго бальшавіцкай фракцыі. А ў ліпені таго ж незабыўнага 1917 года ён выбіраецца старшынёй Пастаяннага камітэта Мінскай арганізацыі РСДРП(б). Са сваім сябрам і саратнікам Міхаілам Васільевічам Фрунзе А. Ф. Мяснікоў стварыў газету «Звязда» і быў адным з яе рэдактараў. У першым нумары газеты (які выйшаў 27 ліпеня 1917 года) пад псеўданімам А. Л. Мартуні быў апублікаваны артыкул Мяснікова «Бальшавікі».

Яркай вяхой у гісторыі Камуністычнай партыі нашай краіны стаў Шосты з'езд РСДРП(б), які праходзіў у Петраградзе ў ліпені — жніўні 1917 года. На першым пасяджэнні гэтага гістарычнага з'езда кіраўнік мінскіх бальшавікоў А. Ф. Мяснікоў выступае з прамовай пры абмеркаванні парадку дня. На пятым пасяджэнні ён робіць даклад аб рабоце партыйных арганізацый у Мінску і на Заходнім фронце. Аляксандр Фёдаравіч адзначыў, што ў Мінску існуе моцная бальшавіцкая арганізацыя, рашуча адстойваў ленінскі курс партыі на ўзброенае паўстанне.

25 кастрычніка 1917 года, атрымаўшы паведамленне аб перамозе Савецкай улады ў Петраградзе, А. Ф. Мяснікоў сумесна з К. І. Ландэрам, В. Г. Кнорыным, І. Я. Алібегавым і іншымі бальшавікамі падрыхтоўвае ад імя выканкома Мінскага Савета Загад № 1 аб пераходзе ўсёй улады ў Заходняй вобласці і на фронце ў рукі Саветаў, з палымянай прамовай выступае на мітынгу з выпадку перамогі ўзброенага паўстання ў Петраградзе і стварэння ў Мінску 1-га рэвалюцыйнага палка імя Мінскага Савета.

На наступны дзень у Мінску быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняй вобласці і фронту. У яго склад разам з іншымі ленінцамі ўвайшоў А. Ф. Мяснікоў, які прыняў самы актыўны ўдзел ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Беларусі.

У лістападзе 1917 года 2-гі з'езд Саветаў салдацкіх дэпутатаў Заходняга фронту, на якім з 714 дэлегатаў 473 былі бальшавікі, выбраў Мяснікова галоўнакамандуючым арміямі фронту. Прапаршчыку-бальшавіку ў той час быў 31 год.

Выдатны дзеяч Камуністычнай партыі С. М. Кіраў сказаў: «Мяснікоў... з радавога салдата вырас у нашы гістарычныя кастрычніцкія дні. І паўстаў перад намі ўжо генерал ад рэвалюцыі».

А Сярго Арджанікідзе праз шмат гадоў успамінаў: «...Як сёння сёнішні дзень, памятаю вячэрняе пасяджэнне салдацкіх дэпутатаў Заходняга фронту ў лістападзе семнаццатага года. Увесь з'езд, стоячы, сустракае толькі што выбранага ім рэвалюцыйнага камандуючага фронтам. На сцэне з'яўляецца ў старэнькім шынялі наш дарагі Алёша. Зала радасна яго вітала. Гэта быў новы палкаводзец, яго парадзіла Кастрычніцкая рэвалюцыя, і ён замяняў цяпер старых, царскіх генералаў з залатымі эпалетамі. З'езд бурна апладзіраваў свайму роднаму брату, палкаводцу Алёшу, якога аднагалосна выбралі кіраўніком».

У снежні 1917 года А. Ф. Мяснікоў стаў выконваць абавязкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага Узброенымі Сіламі Савецкай Рэспублікі. У першыя месяцы 1918 года ён кіруе гераічнымі баявымі дзеяннямі толькі што створанай Чырвонай Арміі на заходніх рубяжах краіны. І хоць захопнікам удалося заняць значную частку тэрыторыі Беларусі, у тыл была вывезена амаль уся артылерыя, значная колькасць боепрыпасаў і амуніцыі. Пасля эвакуацыі Паўночна-Заходняга абласнога камітэта і Аблвыкамзаха ў Смаленск Мяснікоў кіруе партыйным падполлем і партызанскім рухам на акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

У пачатку 1919 года Мяснікоў уваходзіць у склад Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі.

2—3 лютага 1919 года Аляксандр Фёдаравіч прымае ўдзел у рабоце 1-га з'езда Саветаў Беларускай ССР і выбіраецца старшынёй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Беларусі. Хутка Мяснікоў назначаецца намеснікам старшыні Саўнаркома Беларусі і народным камісарам па ваенных справах.

У 1920—1925 гадах Мяснікоў працуе сакратаром Маскоўскага камітэта партыі, старшынёй СНК і наркомам па ваенных справах Армянскай ССР, старшынёй Саюзнага Савета ЗСФСР, першым сакратаром Закаўказскага крайкома РКП(б). 22 красавіка 1925 года ён трагічна загінуў у авіяцыйнай катастрофе.

Незадоўга да гэтага А. Ф. Мяснікоў напісаў артыкул «Мае сустрэчы з таварышам Леніным», які заканчваецца такімі словамі: «Я бясконца шчаслівы і да канца жыцця буду ганарыцца, што быў сучаснікам У. І. Леніна, быў знаёмы асабіста, размаўляў з ім, быў паслядоўнікам і маленькім вучнем гэтага гіганта, генія нашага часу».

Такім ён і застанецца ў нашай памяці — вучань і саратнік Леніна, выдатны партыйны, савецкі і ваенны работнік, генерал ад рэвалюцыі, палымяны інтэрнацыяналіст Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў, якому сёлета споўнілася б 100 гадоў.

Эмануіл ІОФЭ.

## АЛЬНІК І ТВОРЦА



*Да 100-годдзя*
***Змітрака БЯДУЛІ***

ад першых пабытавых замалёвак і допісаў у газету «Наша ніва» да славы вядомага савецкага пісьменніка, узнагароджанага ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга — такі жыццёвы і творчы шлях Змітрака Бядулі, які аддаў справе адраджэння і развіцця беларускай культуры і літаратуры ўсе сілы сваёй багатай душы. Талент яго арыгінальны, самабытны і align рознабаковы. У яго асобе арганічна і каларытна спалучаліся тонкі, праніклівы лірык і апавядальнік суровай, бязлітаснай праўды, мастак выразнай, яскравай псіхалагічнай дэталі і майстар шырокага, эпічна разгорнутага малюнка, субяседнік ціхага, задушэўнага, раздумлівага настрою і ўсхваляваны, палымяны публіцыст.

Уклад Змітрака Бядулі ў гісторыю беларускай літаратуры і культуры вялікі. Творы пісьменніка дакастрычніцкага часу моцна жывілі і ўмацоўвалі дэмакратычную плынь беларускай літаратуры, абуджалі пачуццё сацыяльнага і нацыянальнага пратэсту супраць несправядлівасці і прыгнёту. І хоць у гады грамадзянскай вайны палітычная арыентацыя пісьменніка не заўсёды была прамой і беспамылковай, аднак ён шчыра вітаў устанаўленне Савецкай улады на Беларусі і з вялікім запалам душы адразу ўключыўся ў працэс развіцця новай сацыялістычнай культуры, усім сэрцам прыняўшы самыя перадавыя, марксісцка-ленінскія асновы мастацкай творчасці. Многія яго творы, напісаныя як у дакастрычніцкі, так і ў савецкі час, сталі хрэстаматыйнымі.

У дні стогадовага юбілею пісьменніка, які ўрачыста адзначаецца як падзея ўсенароднага значэння, яго высакароднае імя згадваецца з узнёслым пачуццём вялікай удзячнасці за творчую самаадданасць, за бескарыслівае служэнне народнай справе, за шчырую і натхнёную любоў да роднага краю — Беларусі.

Віктар КАВАЛЕНКА.

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА. ЯК ІХ РАЗУМЕЦЬ?**



# МЫ, НАРОДЫ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ...

**«...Уладкаваць лёс чалавецтва так, каб правы чалавека прызнаваліся аднолькава ўсім адукаваным светам і каб знішчалася магчымасць вайны паміж народамі».**

**Л. ТАЛСТОЙ.**

Не мог не прывесці гэтыя, вынесеныя ў эпіграф словы. Не мог, бо не раз прыгадваў іх, задумваўся над імі, працуючы над сваімі нататкамі. Уражвае, як шырока і дальнабачна глядзеў аўтар «Вайны і міру» на праблемы... вайны і міру (прабачце за міжвольны каламбур), з якой, я б сказаў, палітычнай праніклівасцю ўлоўліваў карэнную ўзаемазалежнасць гэтых праблем.

Па-першае, Талстой, як бачым, ставіць магчымасць ліквідацыі войнаў і ўсталявання міру паміж народамі ў прамую залежнасць ад становішча з правамі чалавека. У гэтым сэнсе талстоўская выснова, сваім духам і літарай сваёй, пераклікаецца ў часе з прэамбулай Статута ААН, у якой услед за вядомымі свету словамі аб гатоўнасці «пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны» ідуць адразу менш вядомыя, але не менш знамянальныя і важныя, таксама выпакутаваныя ў ліхалецці сусветнай вайны словы аб рашучым імкненні Аб'яднаных Нацый «зноў усталяваць веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы, у раўнапраўе мужчын і жанчын і ў роўнасць правоў вялікіх і малых народаў».

Па-другое, Талстой, як бачым, гаворыць, па сутнасці, пра неабходнасць міжнароднага супрацоўніцтва на шляху ўсеагульнага прызнання і павагі асноўных правоў чалавека («...каб правы чалавека прызнаваліся аднолькава ўсім адукаваным светам») — таго супрацоўніцтва, рэальны пачатак якому быў пакладзены стварэннем ААН і прыняццем ёй адпаведных прававых актаў, у прыватнасці, Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, якая ўрачыста абвяшчалася «ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы».

Правы чалавека... Гэтае шматзначнае, ёмістае паняцце безумоўна фігуравала і ў галоўнай, агульнапалітычнай дыскусіі і ў іншых дэбатах, якія праходзілі ў час Асамблеі. Яно ўзнікала то ў адной, то ў другой сувязі, з'яўлялася ў самым розным — палітычным, ідэалагічным, эканамічным — кантэксце. І гэта было лагічным і апраўданым — калі мець на ўвазе тыя прынцыпы і мэты, якія сфармуляваны ў названых толькі што дакументах ААН. «Імкненне народаў да міру, бяспекі і вызвалення ад прыгнёту азначае ў канчатковым выніку барацьбу за ажыццяўленне правоў чалавека»,— зазначаў у сваёй прамове кіраўнік дэлегацыі ГДР. «Гэта Арганізацыя,— гаварыў аўстрыйскі дэлегат, маючы на ўвазе ААН,— была створана пасля катастрофы вялікай вайны, з тым каб даць чалавецтву мір і бяспеку. Непасрэднае мінулае, у якім мільёнам людзей адмаўлялася ў іх чалавечай годнасці, калі яны былі пазбаўлены сваіх правоў, было прычынай глыбокай заклапочанасці тым, каб абараніць правы чалавека на будучае. Стварыўшы Камісію ААН па правах чалавека і абвясціўшы Усеагульную Дэкларацыю правоў чалавека, наша Арганізацыя выступіла як абаронца гэтых правоў».

Словам, адным з лейтматываў, якія гучалі ў аанаўскім хоры, было сцвярджэнне павагі і паўсюднага захавання правоў чалавека, яго асноўных дэмакратычных свабод. Іншая справа, як хто з выступаючых трактаваў гэтае паняцце: «правы і свабоды чалавека», які сэнс укладваў у яго і, дадам, якія мэты меў на ўвазе, закранаючы гэтую ўвогуле важную і надзённую тэму.

І вось тут выявілася, што не толькі існуюць розныя меркі, тлумачэнні і падыходы — гэта яшчэ паўбяды, дыскусія ёсць дыскусія,— а што сёй-той прынёс на форум пытанне аб правах чалавека накшталт каменя за пазухай, у якасці зброі для вядзення «псіхалагічнай вайны», скіраванай перш за ўсё супраць Савецкага Саюза і іншых краін сацыялістычнай садружнасці. Тон тут задаваў Белы дом з яго крыклівa-дэмагагічнай кампаніяй «у абарону правоў чалавека». На яго баявы кліч адгукнуліся некаторыя верныя саюзнікі ЗША. Міністр замежных спраў ФРГ Геншар заявіў голасна, адпраўляючыся на сесію і ўпакоўваючы адпаведны палітычны багаж, што «адной з галоўных тэм сесіі Генеральнай Асамблеі ААН будзе пытанне аб правах чалавека». З падобнай заявай выступіў, прыехаўшы за акіян, і кіраўнік вялікабрытанскага дыпламатычнага ведамства Оўэн. У ходзе самой сесіі, на пленарных пасяджэннях, прысвечаных агульным спрэчкам, і ў дыскусіі па пытанню аб правах чалавека, якая вялася ў Трэцім камітэце (сацыяльныя, гуманітарныя пытанні і пытанні культуры), некаторыя заходнія прамоўцы — асабліва стараліся прадстаўнікі Італіі, Нідэрландаў і Люксембурга — шматслоўна разважалі на тэму аб правах чалавека ў сваім, буржуазным разуменні гэтага паняцця, завучана рэзанёрствавалі аб «свабодзе індывідуума як аснове заходніх дэмакратычных каштоўнасцей», аб «прынцыпах свабоднага развіцця асобы» і г. д. На вачах свету яны прысвойвалі сабе права вучыць свет гуманізму і дэмакратыі.

Але, трэба аддаць належнае міжнароднаму супольніцтву, гэтая адпаведным чынам інструментаваная і ідэалагічна завостраная рыторыка, гэтыя спробы спекуляваць з пэўнымі мэтамі высокім паняццем «правы чалавека» не знаходзілі падтрымкі, а ў некаторых выпадках — атрымоўвалі належны адпор. І не толькі з боку сацыялістычных краін.

Напрыклад, пераважная большасць стаўшых на шлях развіцця і іншых міралюбівых дзяржаў заняла пазіцыю, якая ішла яўна ўразрэз з задумамі заходніх «абаронцаў» правоў чалавека. Адны з іх, у прыватнасці, арабскія і азіяцкія краіны, свядома абыходзілі пытанне аб правах у такім варыянце, які ім прапаноўвалі, аддавалі перавагу свайму клопату аб тым, каб, гаворачы словамі дэлегата Йеменскай Арабскай Рэспублікі, «стварыць новыя перспектывы для справядлівасці і роўнасці ўсіх дзяржаў, для свабоды без гегемоніі і парушэння правоў і інтарэсаў краін, стаўшых на шлях развіцця». Другія рашуча выступалі са сваёй інтэрпрэтацыяй праблемы, выказваліся за прыярытэт эканамічных і сацыяльных правоў — па сутнасці, у духу гістарычна вядомых слоў аб тым, што «людзі ў першую чаргу павінны есці, піць, мець жыллё і адзявацца, раней чым быць у стане займацца палітыкай, навукай, мастацтвам, рэлігіяй і г. д.». «Якое значэнне мае свабода выбару,— ставіў палемічна пытанне іранскі дэлегат,— для хворага, галоднага ці зусім неадукаванага чалавека?». «Без эканамічных правоў іншыя правы чалавека не маюць ніякага сэнсу»,— зазначаў у сваёй прамове прадстаўнік Шры-Ланкі. «Правы чалавека,— гаварыў дэлегат Гвінеі,— намі разумеюцца толькі ў кантэксце ліквідацыі эксплуатацыі чалавека чалавекам».

Рашуча і аргументавана аспрэчваў нерэалістычны — ці спекуляцыйны — падыход да пытання аб правах чалавека дзяржаўны сакратар Мексікі. «Надзённыя рэальныя праблемы,— звяртаўся ён да членаў Асамблеі,— часта вытлумачваюцца няправільна, у адрыве адна ад другой. Правы чалавека могуць быць зразуметы толькі ў кантэксце правоў сацыяльных. Годнасць і вартасць чалавечай асобы не могуць быць забяспечаны без эканамічнага, сацыяльнага і палітычнага вызвалення».

Інакш кажучы, дэлегаты сцвярджалі палажэнне, якое мелі на ўвазе ў свой час і аўтары Дэкларацыі правоў чалавека і якое адлюстра-

**Працяг. Пачатак у №№ 1, 2, 3.**

вана тут у наступнай фармуліроўцы: «Кожны чалавек мае права на сацыяльны і міжнародны парадак, пры якім правы і свабоды, выкладзены ў данай Дэкларацыі, могуць быць поўнасцю ажыццёўлены».

Гэта па-першае, гэта адзін бок дыскусіі вакол правоў і свабод.

Па-другое, многія ўдзельнікі форуму палічылі за лепшае разглядаць пытанне аб правах чалавека перш за ўсё як пытанне аб барацьбе з масавымі і грубымі парушэннямі гэтых правоў на поўдні Афрыкі, на акупіраваных Ізраілем арабскіх тэрыторыях, у Чылі і ў іншых месцах зямнога шара. «Выклікае асаблівае абурэнне той факт,— гаварыла ўзрушана маладая прадстаўніца маладой Народнай Рэспублікі Бенін,— што капіталістычныя краіны, якія змагаюцца з уяўнымі парушэннямі правоў чалавека ў сацыялістычных краінах, стараюцца не заўважаць страшэнных парушэнняў гэтых правоў у паўднёвай частцы Афрыкі, Палесціне і Чылі». Ігнаруючы ў сапраўднасці правы чалавека, працягвала далей прамоўца, некаторыя заходнія краіны па-ранейшаму аказваюць падтрымку і дапамогу рэжыму белай меншасці на поўдні Афрыкі. Прадстаўнік Нігерыі таксама падвергнуў рэзкай крытыцы тых, хто, як ён сказаў, «прызнае дэмакратыю ў сябе дома, але ў той жа час прытрымліваецца фашысцкага курсу ў Паўднёвай Афрыцы». Адказваючы на пытанне аб тым, дзе сапраўды «закапаны сабака», дэлегат Кубы звярнуў увагу міжнароднага супольніцтва на ўшчамленне правоў неграў, індзейцаў, пуэртарыканцаў і іншых нацыянальных меншасцей у ЗША.

Шмат месца адвёў праблеме правоў чалавека кіраўнік аўстрыйскай дэлегацыі, выступаючы ў ходзе агульнапалітычнай дыскусіі. Адзначыўшы, што «сёння мы ясней, чым калі-небудзь раней, бачым, што мір і бяспека патрабуюць прагрэсу ў справе свабоднага сацыяльнага, палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця чалавека», прамоўца сказаў далей: «Уяўляецца мэтазгодным звярнуць увагу на тое, што прычыны ўсіх праблем у канчатковым выніку заключаюцца ў парушэнні правоў чалавека ці ў пазбаўленні яго правоў. Гэта слушна ў дачыненні крызісаў на Блізкім Усходзе, на Кіпры і на поўдні Афрыкі. Гэта прымяніма таксама і да крызісу ў адносінах паміж Поўначчу і Поўднем — да крызісу, паходжанне якога звязана з недасканалым становішчам у глабальным маштабе эканамічных і сацыяльных правоў народаў планеты».

Ці ўзяць такі, паказальны ў данай сувязі, эпізод. Міністр замежных спраў Ірландыі (па прозвішчу Кенэдзі) пачаў свой аналіз праблемы з таго, што спрабаваў падтрымаць «краун кампані», апраўдаць выкарыстанне пытання аб правах чалавека для ўмяшання ва ўнутраныя справы дзяржаў. Але калі ён звярнуўся да рэальнага становішча спраў у свеце, то мусіў тут жа змяніць тон і загаварыў аб «неабходнасці прызнання права кожнай нацыі на незалежнасць і самавызначэнне», аб «несправядлівасці і бесчалавечнасці палітыкі апартэіду, накіраванай на захаванне ўлады ў руках белай меншасці і асуджэнне на галечу і адсталасць большасці грамадзян Паўднёвай Афрыкі», аб... «трагічным становішчы ў Паўночнай Ірландыі».

Логіка фактаў, словам, брала верх над логікай прадузятых схем.

Па-трэцяе, прадстаўнікі многіх краін катэгарычна асуджалі спробы выкарыстаць пытанне аб правах чалавека як зручную зачэпку для ўмяшання ва ўнутраныя справы суверэнных дзяржаў. Менавіта ў такім духу выступілі Гвінея, Бурундзі, Нігерыя, Лівія, Аргенціна, Бразілія, Фінляндыя і інш. «ААН не можа дазволіць сабе спрошчаныя падыходы,— заяўляў міністр замежных спраў Фінляндыі Пааво Вяйрюнен,— у тым ліку і да праблемы правоў чалавека. Яна павінна зыходзіць з рэальнасцей свету. Існуе, напрыклад, скандынаўская традыцыя ў вызначэнні паняцця «правы чалавека». На нашу думку, спробы навязваць свой набор каштоўнасцей другім не можа служыць ніякай мэце». «Ніякая краіна або група краін не можа ўзяць на сябе ролю суддзі ў ацэнцы дзеянняў іншых краін у галіне правоў чалавека»,— заявіў міністр замежных спраў Бразіліі Азерэда да Сільвейра.

З негатыўнай рэакцыяй на спробы «навязваць свой набор каштоўнасцей другім», павучаць другіх, гаворачы з'едлівымі словамі Марка Твэна, «на той глебе, на якой сам не можаш стаяць перпендыкулярна», звязана некалькі драматычных інцыдэнтаў, якія адбыліся ў ходзе сесіі Генеральнай Асамблеі. Як я ўжо гаварыў, міністр замежных спраў і па справах садружнасці Вялікабрытаніі Дэвід Оўэн быў у ліку актыўных удзельнікаў шуміхі «ў абарону правоў чалавека». У інтэрв'ю для амерыканскага друку ён нават пастравіў у залежнасць ад гэтай кампаніі лёс разрадкі, глыбакамудра заўважыўшы, што «калі разрадка не прыносіць прагрэсу ў плане барацьбы за правы чалавека, то яна не мае другой мэты, чым проста барацьба за існаванне». Гэтую тэму кіраўнік Форын офіса працягваў развіваць і ў сваёй прамове, з якой выступіў з трыбуны ААН, зрабіў, у прыватнасці, крытычныя закіды ў адрас Уганды: там, маўляў, парушаюцца правы чалавека. І вось у канцы пасяджэння на трыбуну ўзняўся пастаянны прадстаўнік Уганды пры ААН і без асаблівых дыпламатычных цырымоній, скіраваўшы ўказальны палец у бок англійскай дэлегацыі, заявіў: «Вы спачатку навядзіце парадак з правамі чалавека ў сябе дома, а потым вучыце гэтаму другіх. Вунь ваш прэм'ер едзе ў Ольстэр у суправаджэнні салдат ледзь не ўсіх родаў войск, інакш ён баіцца туды паказвацца. І вы выдаіце гэта за ўзор захавання правоў чалавека?»

Праз некалькі дзён у той жа зале адбылася яшчэ адна, падобная на прыведзеную, толькі яшчэ больш характэрная па сваёй ідэйнай сутнасці сцэна. Ад імя Люксембурга выступаў яго прэм'ер-міністр і аднačасова міністр замежных спраў Гастон Торн, вопытны палітык заходнееўрапейскага тыпу (быў старшынёй XXX сесіі ГА ААН, яго фотаздымак красуецца тут сярод партрэтаў іншых былых старшыняў). «Пані і панове, не магу выказаць больш, чым хацелася б, аптымістычных слоў,— красамоўнічаў пан прэм'ер.— І праз дваццаць дзевяць гадоў пасля прыняцця высакароднага дакумента нашага часу — Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека правы чалавека парушаюцца... І гэта ў той час, калі ўсе мы ўрачыста прызналі за кожным чалавекам максімум правоў і свабод... Павага правоў — не ўнутраная справа, дзе б яны ні парушаліся...» І вось, называючы краіны, дзе, на яго думку, назіраецца парушэнне правоў, Гастон Торн папракнуў і... В'етнам. Такое абвінавачанне ў адрас краіны, якая толькі што ў цяжкіх пакутах і нягодах, у крывавай, шматахвярнай барацьбе то з адным, то з другім агрэсарам здабыла элементарнае права на свабоду, незалежнасць і нацыянальны суверэнітэт, якая ўсяго некалькі дзён таму назад дабілася прызнання сваіх законных правоў у ААН,— такое абвінавачанне з высокай трыбуны было, вядома, несправядлівым, дзіўным, калі не кашчунным. Дэлегацыя Сацыялістычнага В'етнама не магла, натуральна, пакінуць яго без адказу. Узяўшы слова ў парадку права на адказ, на трыбуну пайшла прадстаўніца слаўнага народа, невысокая, худзенькая, смуглая жанчына, і дала рэзкую водпаведзь высокапастаўленаму маралісту з яго еўрацэнтрызмам. «Сілы імперыялізму, каланіялізму і расізму,— гаварыла сваім ціхім, але цвёрдым па сіле перакананасці голасам Нгуен Нгок Дунг (я не мог не запісаць гэтае імя),— бяруцца, як мы бачым, выступаць у ролі абаронцаў правоў чалавека. Разам з тым яны адмаўляюць у гэтым праве сваім уласным народам, насельніцтву былых каланіяльных і паўкаланіяльных народаў».

На такім высокім, афіцыйным форуме, як Генеральная Асамблея ААН, апладысменты асабліва не прыняты. Але бываюць і выключэнні. Адно з іх прыйшлося на долю дэлегаткі В'етнама. Яна сыходзіла з трыбуны пад бурныя воплескі («Яшчэ адна перамога в'етнамскага народа, на гэты раз пад купалам залы ААН»,— падумалася мне, помню, у гэты момант).

Наогул, трэба сказаць, дэлегацыі краін сацыялістычнай садружнасці і ў даным выпадку, выступаючы адзіным фронтам, займалі прынцыповую, выразна акрэсленую пазіцыю, давалі рашучы бой прошукам рыцараў «псіхалагічнай вайны», псеўдаабаронцаў правоў чалавека. Выступаючы ў дыскусіі па пытанню аб апартэідзе, дэлегат БССР гаварыў: «Зараз на Захадзе знаходзіцца нямала ахвотнікаў умешвацца пад флагам барацьбы за правы чалавека ва ўнутраныя справы другіх дзяржаў. Такім, з дазволу сказаць, «ахоўнікам дэмакратыі» трэба было б працэрці вочы да пагляздзець, што творыцца ў Паўднёвай Афрыцы, дзе парушэнне правоў чалавека ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Менавіта на поўдні Афрыкі знаходзіцца адзін з важнейшых плацдармаў бітвы за ажыццяўленне высакародных прынцыпаў гуманізму, за забеспячэнне правоў чалавека. Ліквідацыя эксплуатацыі, дыскрымінацыі мільёнаў людзей, заснаванай на розніцы ў колеры скуры,— гэта і ёсць праяўленне сапраўднага гуманізму, сапраўднага клопату аб правах чалавека». Нагадаўшы аб тым, што барацьба супраць масавых парушэнняў правоў чалавека «адпавядае галоўнай задачы ААН і яе мандату», што нядаўна ўступіўшыя ў сілу пакты аб правах чалавека «ўяўляюць сабой важную аснову для супрацоўніцтва дзяржаў па пытанню так званых індывідуальных чалавечых правоў», прадстаўнік ГДР сказаў далей: «У гэтай сувязі дазволю сабе адзначыць, што любыя спробы выкарыстаць гэтае пытанне як прычыну для ўмяшання ва ўнутраныя справы дзяржаў не толькі супярэчаць Статуту Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, але і ўскладняюць адносіны паміж дзяржавамі. Тым, хто пад шыльдаю правоў чалавека распальвае паклёпніцкую кампанію супраць другіх дзяржаў, лепш было б засяродзіцца на ажыццяўленні гэтых правоў у сваіх краінах». І далей прамоўца прывёў наступныя словы Эрыха Хонекера: «Калі ў сучасным свеце адна з палітычных сіл мае права гаварыць аб барацьбе за правы чалавека, то гэта, перш за ўсё, рэвалюцыйны рабочы рух, і калі ў сучасным свеце адна з палітычных сістэм можа паказаць на здзейсненыя правы чалавека, то гэта сусветная сацыялістычная сістэма».

Прайграючы бітву ў ідэйным плане, заходнія прадстаўнікі спрабавалі ўзяць рэванш у плане арганізацыйным — намерваліся працягнуць праз Трэці камітэт рашэнне аб стварэнні паста вярхоўнага камісара па правах чалавека (ФРГ яшчэ ўносіла прапанову аб заснаванні міжнароднага суда па грамадзянскіх правах). Іх разлік заключаўся ў тым, што калі такі пост будзе створаны і яго зойме падыходзячы для іх чалавек, то ён, гэты так званы вярхоўны камісар па правах, будзе незалежна ад генеральнага сакратара ААН займацца расследаваннем усемагчымых скаргаў і кавярзаў, г. зн. умешвацца ў нацыянальную юрысдыкцыю той або іншай суверэннай дзяржавы. Амерыканцы не ўтойвалі, што гэтая задума з «камісарам» накіравана перш за ўсё супраць Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін, і разам са сваімі саюзнікамі настойліва вялі, збіраючы галасы, адпаведную закулісную агітацыю сярод афрыканскіх, азіяцкіх і лацінаамерыканскіх краін. Але гэты іх «нумар» таксама не прайшоў. Пераважная большасць дэлегацый палічыла за лепшае заняць рэалістычную пазіцыю і адмовілася падтрымаць падазроную важданіну вакол утварэння новага паста.

Словам, чарговая сесія Генеральнай Асамблеі яшчэ раз паказала, што праблема правоў чалавека занадта важная для міжнароднага супольніцтва, каб дазваляць рабіць яе прадметам крывадушнай рыторыкі ці цынічнага палітыканства; што, з другога боку, сапраўдны клопат аб павазе і гарантаванні грамадзянскіх правоў і дэмакратычных свабод чалавека неаддзельны ад барацьбы за мір, мірнае развіццё і сацыяльны прагрэс.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

АНАГРАМА

# БЕЗ ПЕСНІ НЯМА І СВЯТА

Гартаючы старонкі рукапіснай гісторыі калгаса імя Пушкіна, што на Бабруйшчыне, заўважаеш адну акалічнасць. Вядомы ў рэспубліцы хор народнай песні ў вёсцы Варатынь пачынаўся ў незабыўныя гады калектывізацыі. Калектыўная праца, што тая маленькая рачулка, дала пачатак вялікай рацэ,— усяму таму, чым мы сёння ганарымся. Вядома, куды лягчэй працаваць гуртам, дзяржаўныя справы вырашаць, на калгасных палетках агульным мазалём хлеб здабываць. У ахвоту разам і песні спяваць. Рознага стала ў жыцці вяскоўцаў. І радаснага, і горкага, але ўсе жылі з яснай надзеяй, заўтрашні дзень набліжаючы.

У рэпертуары вакальнай групы той даўняй пары ўсім палюбілася песня «Ой ты, пчолка, ой працаўніца!» На калгасным полі людзі працавалі старанна, увішна, да сёмага поту, як рупныя пчолкі, мёд збіраючы. Ці не па той жа прычыне і калгасная арцель «Пчолкай» звалася.

— Летам 1926 года пяцьдзесят сямей згуртаваліся, каб па-новаму жыць, куды лепей учарашняга,— прыгадвае кіраўнік хору народнай песні Вольга Іванаўна Дашкоўская.— Такі добры настрой панаваў ва ўсіх, што не перадаць. На абагульненне вяскоўцы аддалі ўсё, на што былі багатыя: дзесяць коней, дваццаць каровак, паўсотні авечак, некалькі вазоў сельскагаспадарчага інвентару. У вёсцы адрамантавалі дом, абсталявалі яго пад клуб. Вечарамі збіраліся ў ім, развучвалі песні, адпачывалі...

— Незабыўная то была пара,— нібы сумуючы па назаўсёды адышоўшай маладосці, успамінае Вольга Іванаўна.— Хоць жылі бедна, але не сумавалі, бо верылі, што гэта часова. Папрацуем, адбудуемся, дзетак на ногі паставім, будзе і хлеб, і да хлеба. Перад самай вайной я падалася вучыцца ў Бабруйскае дашкольнае педвучылішча. Яшчэ, калі ў школе вучылася, спявала ў вясковым хоры даярак, ездзіла з імі выступаць у Бабруйск. У час вучобы ў педвучылішчы не парывала сувязі з хорам. Бадай што кожны тыдзень дадому спяшалася, не магла дачакацца, калі настане выхадны... Як пачалася вайна, пайшла ў партызаны. Цяжкія былі гады, пабачыла гора... Але жыццё ёсць жыццё. У партызанскім атрадзе сустрэла свайго суджанага, выйшла замуж. Вяселле адзначылі сярод баявых таварышаў. У суровым 1943 годзе нарадзіўся ў нас сынок Святаслаў... Пасля вайны працавала ў паляводчай брыгадзе, была жывёлаводам,— няспешна расказвае Вольга Іванаўна, паказваючы пажоўклыя фотаздымкі даярак-пяюх, дакументы незабыўнай эпохі...

У 1963 годзе быў створаны хор народнай песні калгаса. Цяжка пералічыць усё тое, што зроблена калектывам за два дзесяцігоддзі. Хіба пералічыш, колькі песень праспявалі, дзе з канцэртамі выступілі, у якіх ганаровых мясцінах гасцявалі!..

Спытайце ў Вольгі Іванаўны пра самых актыўных харыстак, і яна, не вагаючыся, назаве імёны Раісы Іванаўны Ануфрыенка, Соф'і Уладзіміраўны Парахневіч, Валянціны Якаўлеўны Пракопчык, Марыі Аляксандраўны Пракопчык.

— Галасістых кабет у адной толькі Варатыні — на хату па трое,— жартуе яна.— Здавён славіліся спевакамі і вёскі Пасека, Доўгі Клін, Лесішча, Дулева, Анісімавічы,— прадаўжае Вольга Іванаўна.— Вяселле каціласся па наваколлі, нікога не абмінаючы. Усе людзі высыпалі на вуліцу, спявалі, цешыліся скокамі, маладых славячы. А як хораша спявалі жанчыны нашы — задушэўна, шчыра — за сэрца брала. Я на сучасным вяселлі пабуду, дык на тыдзень настрой губляю... Гэта ж трэба, вяселле святкуецца пад гучны ляскат бубнаў і аднастайнае падвыванне патлатых хлопцаў з электрагітарамі! А дзе ж падзеліся харошыя песні, арыгінальныя, мілагучныя, задушэўныя!.. Што і гаварыць, мы з песняй амаль не разлучаліся. На працу ішлі — песня сама прасілася. Без песні няма і свята. І сёння нашы харысткі таксама не абмінаюць вясковыя ўрачыстасці. І на свята вясны спяваюць, і на свята ўраджаю спяшаюцца. Першы каравай услаўляюць, лецейка праводзяць, госціку дарагому шчасця зычаць...

Слухаю яе і міжволі прыгадваю, як цёпла, з гонарам гавораць пра Вольгу Іванаўну аднавяскоўцы:

— Дашкоўская за гадзіну збярэ ўсіх пяюх з наваколля. Даволі ёй сказаць: «Сёння рэпетыцыя», як харысты, а іх да сарака чалавек, разам з гарманістам спяшаюцца ў калгасны клуб.

Любяць сваіх артыстаў калгаснікі. На канцэрты ў калгасным клубе набіваецца столькі народу — яблык не ўпадзе. Такімі зборамі на Бабруйшчыне не пахваляцца нават артысты са сталічнай прапіскай. Так, шануюць жыхары Бабруйшчыны і шчырую песню, і задзірыстую прыпеўку.

А поспех жа сам па сабе не прыйшоў. Каменьчык з дарогі не адкоціш, не нагнуўшыся. Каласок хлебны не вырасце, калі зямліцы не паклонішся.

Сцвярджаюць у Варатыні, што ў Вольгі Іванаўны Дашкоўскай і гультай забегае, і безгалосы заспявае. Жарт жартам, але наўрад ці хто добра ведае, колькі нерваў, цярпення, нарэшце, такту і сялянскай хітрасці патрачана Вольга Іванаўна, каб стварыць калектыў, які праславіўся не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі.

— Іншы раз апускаліся рукі,— расказвае Вольга Іванаўна,— на рэпетыцыю збіралася купка кабет, якія тут спевы. Застаецца адно — бегчы па хатах, гукаць пяюх. Я сама гаспадарку вяду і добра іх разумею. Трэба і каровку падаіць, і агарод дагледзець, дзяцей накарміць. «Не магу спяваць — плакаць хочацца,— з такімі словамі сустракае мяне адна з маіх салістак,— сынкі і дочкі на сваіх легкавіках унукаў колькі спевакоў прывезлі, не паспяваю насы ім падціраць»,— яна паказвае на малых, што гуляюць у куточку. «А мы разам будзем гадаваць тваіх унукаў,— кажу ёй,— забірай дзяцей у клуб. Ты будзеш рэпеціраваць, а я з імі пабаўлюся...» Так і пайшлі дружнай кампаніяй на рэпетыцыю ў клуб.

Варатынскія дзяўчаты ведаюць: жадаеш, галубка, харошага, прыгожага хлопца да свайго сэрца прывабіць, запісвайся ў хор народнай песні, ва ўсім слухайся кіраўніка. Як галасок адточыш, дык атрымаеш прыгожую сукенку, якую хіба толькі прынцэса насіла. І сама прыгожая, і пяюха — хлопцы ўлягуць чарадой.

Яно і праўда, ёсць на каго палюбавацца, калі варатынскія артысты, апрануўшыся ў пекныя ўборы, выходзяць на сцэну. Расквечваецца вёска, варта ім выйсці на вуліцу ў час маёвых свят.

У рэпертуары хору нямала вядомых беларускіх народных песень. Цёпла прымаюць слухачы знаёмыя з маленства песні «Каля кузні ішла», «А ўжо вечар», «Калінка», «Ой хацела ж мяне маці...», «Ой пад вішанькай».

— Мы абхадзілі ўсё наваколле, шукаючы сярод людзей сталага веку песні,— прыгадвае Вольга Іванаўна,— запісвалі нават асобныя радкі. Бывала, запішаш у Осаве прыпеўку, а ў Анісімавічах — ужо поўны куплет той жа песні. Усё тут занатавана,— Вольга Іванаўна паказвае агульны сшытак.— Багата песень назапашана, спяваць нам і спяваць, да 2000 года хопіць!

І не дзіва, што калгасных артыстаў з Бабруйшчыны цёпла віталі і на Магілёўшчыне, і ў Мінску, і ў сталіцы нашай радзімы — Маскве. Завітайце да Вольгі Іванаўны Дашкоўскай, і яна з гонарам пакажа шматлікія «трафеі» хору — ганаровыя граматы, дыпломы, медалі, каштоўныя прызы.

— Некалькі гадоў таму ў Варатынь завіталі карэспандэнты Беларускага радыё, каб запісаць песні ў выкананні нашага хору. Праспявалі мы на плёнку і прыпеўкі, у якіх падсыпалі чамярыцы нашым гультаям, абібокам, парушальнікам дысцыпліны. Добра прапясочылі іх, не пасаромеліся! — Расказваючы пра гэта, Вольга Іванаўна шчыра ўсміхаецца.— Праходзіць час, і неяк у харошы сонечны ранак, калі ўся вёска даўно вочы ад сну прамыла, па радыё дыктар абвяшчае, што перад слухачамі выступаюць артысты хору народнай песні калгаса імя Пушкіна. І так ужо заягнулі галасіста, далёка песня паляцела — заслухаешся! Уся вёска тыдзень смяялася з тых, каго мы «шаравалі», а гультаі, абібокі, выпівохі па кутках пазашываліся, бо сорамна было ім на вочы людзям паказацца! З той пары і мой муж другімі вачамі на мяне пазірае, кепікаў не строіць. Некалі ж пасмейваўся. Маўляў, курэй смешыце, бабы-пяюхі. Апранаеце свае доўгія вышываныя спаднічкі і горла дзераце, што пеўні на падворку...

Перапыніўшы на хвіліну нашу гамонку, Вольга Іванаўна паказала мне ганаровую грамату і дыплом за поспехі на рэспубліканскім конкурсе мастацкай самадзейнасці, якія муж уласнымі рукамі пад шкло паставіў і на віднае месца павесіў. А потым працягвала расказваць.

— Не хочаш смяяцца, дык паплач. Не можаш спяваць, навучыся слухаць,— так пачала яна згадку пра тое, як харысты ў Зорным гарадку выступалі.— Вельмі хваляваліся, рыхтуючыся ў дарогу. Вырашылі грунтоўна свой рэпертуар паднавіць. Хадзілі па вёсках, збіралі хатняе начынне, апратку, уборы. Яно, і праўда, выглядала больш натуральна — мы ж выконваем песні, якія просты народ спяваў. Спяваў, але не сядзеў склаўшы рукі... Жанчыны пралі кудзелю, ткалі, завіхаліся па дому... Павезлі ў Зорны гарадок поўны куфар дабра. Песні выконвалі народныя, даўнейшыя, але на сцэне пастроіліся па-сучаснаму — «ракетай». Стаім, цішыні чакаем. А потым пацякла наша жартоўная ў прасторнай зале: «Ой там на таргу, на базары мужыкоў прадавалі!..»

Асмялелі, падахвоціліся і ці не палову свайго рэпертуару праспявалі. І «Пасылала баба дзеда», «Ой пад вішанькай», і «Чаму не прыйшоў»,— прадаўжае Вольга Іванаўна.— Доўга не адпускалі нас гледачы, прасілі, каб яшчэ спявалі. А ўжо ноч на дварэ, ад стомы ногі падкошваліся, але мы спявалі. Усяго і не прыгадаеш. Адно магу сказаць: вялікая для мяне радасць бачыць поўную залу гледачоў з усмешкай на твары. Кожную б сваю пяюху-харыстку тады б прытуліла і расцалавала — за гэтыя светлыя ўсмешкі, за свята ў душы, якое яны прыносяць сваім майстэрствам.

Вячаслаў ДУБІНКА.



На здымку: кіраўнік хору народнай песні калгаса імя Пушкіна Бабруйскага раёна заслужаны дзеяч культуры БССР Вольга Іванаўна Дашкоўская.

Фота аўтара.

**Выступае Дзяржаўны акадэмічны народны хор Беларускай ССР... Дастаткова пачуць гэтыя словы па радыё альбо ў канцэртнай зале, як сэрца адразу напаўняецца трапяткой радасцю і прадчуваннем сустрэчы з сапраўдным мастацтвам. Прагучаць пасля гэтага беларускія народныя песні ці выйдуць на сцэну артысты ў вакальна-інструментальна-харэаграфічнай кампазіцыі «Вечарынка ў калгасе» — нязменнымі будуць дружныя, працяглыя апладысменты ўдзячных гледачоў. Імі заканчваўся кожны нумар праграмы падчас гастроляў калектыву ў Венгрыі і Балгарыі, Польшчы і Румыніі, Францыі і Фінляндыі, Швейцарыі і Канадзе, выступленняў у гарадах і вёсках нашай рэспублікі і краіны. Пастаянных прыхільнікаў артысты маюць з таго, цяпер далёкага, 1952 года, калі вялікі знаўца і прапагандыст фальклору народны артыст СССР Генадзь Цітовіч з удзельнікаў створанага ім хору вёскі Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна, а таксама з іншых самадзейных артыстаў пачаў фарміраванне гэтага самабытнага калектыву... Традыцыі, закладзеныя майстрам, працягвае цяперашні мастацкі кіраўнік хору заслужаны дзеяч мастацтваў БССР М. Дрынеўскі. Сёння ў рэпертуары калектыву больш за пяцьсот канцэртных нумароў, у якіх гучаць песні народаў СССР, творы вядомых кампазітараў.**

**Канстанцін СЯРГЕЕНКА.**

Фота Уладзіміра КРУКА.



# СУЛАДДЗЕ МНОГІХ ГАЛАСОЎ

Здаецца, упершыню на сцэне кансерваторыі сабралася столькі выканаўцаў. Наведвальнікі канцэртаў мінулага з'езда кампазітараў Беларусі пачалі нават сумнявацца: ці можна ў такіх умовах пачуць аркестру, ды яшчэ з хорам! Дзяржаўны народны аркестр БССР імя Жыновіча выконваў у той вечар новую сімфонію А. Мдывані «Памяць зямлі». У выкананні прымаў удзел Аб'яднаны хор Беларускага тэлебачання і радыё і кансерваторыі. Такі маштабны, складаны па музычнай драматургіі арыгінальны твор з'явіўся ў рэпертуары аркестра ўпершыню за больш чым паўвекавую гісторыю.

Жыновічаўцы занялі ўсю сцэну (уявіце сабе адну толькі групу цымбалаў!); хор і салістка вымушаны былі размясціцца ў зале, на балконе. І загучала сімфонія...

У кульмінацыйныя моманты, калі ўступаў хор або спявачка, дырыжор за пультам на нейкі час як бы «раздвойваўся». Рукі яго не прыпынялі натхнёнага руху, сам жа ён неўпрыкмет паварочваўся тварам да залы і, здавалася, позіркам ахопліваў усю галёрку, дзе стаялі харысты. Я нібыта ўпершыню бачыла жывы, не «злоўлены» кінакамерай, звернуты да залы натхнёны твар дырыжора, па волі якога ажывала партытура, ператвараючыся ў Музыку...

Гучаў хор, гучаў аркестр... Дырыжор усёй сваёй рухавай постаццю, жвавай мімікай, іскрыстымі вачамі нібыта... спяваў сімфонію! Потым авацыі, віншаванні, кветкі. І раптам — гэта было так лёгка і артыстычна, так прыгожа — Казінец ступіў на край сцэны, зрабіў мудрагелістае па і падкінуў букет акурат на бакавы балкон. Дзяўчаты-харысткі падхапілі пунсовы россып гваздзікоў...

Праз два дні Міхаіл Казінец выступаў на з'ездаўскай дыскусіі. Дзякаваў кампазітарам за супрацоўніцтва з аркестрам. Звяртаўся да маладзейшых, каб прыходзілі на рэпетыцыі, трымалі сувязь з народным аркестрам, падтрымлівалі і развівалі традыцыі жанру.

І вось імя Міхаіла Казінца, мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Дзяржаўнага народнага аркестра БССР, названа сярод лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі рэспублікі. Варта было мне загаварыць з Міхаілам Антонавічам пра новае яго званне, як пачула ў адказ:

— А што значыла б мая праца ў мастацтве без суладдзя ў калектыве, без добрага грунту жыновічаўскіх традыцый! Кіраваць такім аркестрам — ужо само па сабе гонар. А за высокую ацэнку маёй асабістай сціплай працы — самая глыбокая ўдзячнасць...

І далей — знаёмая ўжо, шчырая і заклапочаная гаворка пра сённяшні дзень аркестра, пра новыя грамзапісы, пра рэпертуарныя перспектывы, пра таленавітых музыкантаў, што складаюць ядро калектыву. Тут і дырыжор Сяргей Сакалоў і салісты: лаўрэат Усесаюзнага конкурсу баяністка Святлана Лясун, цымбалісты — лаўрэаты і дыпламанты Рэспубліканскага конкурсу Генадзь Клімовіч, Віктар Міхальчук, Сяргей Забаронак...

Ён захоплена раскажа пра цымбалы, якія называе «інструментальным голасам роднага краю», пра непаўторнае гучанне дудак, ліры, пра калярыт сялянскай скрыпкі. Бо ўжо не першы год мяркуе аб тым, каб новымі партытурамі разнастаіць тэмбравую палітру жыновічаўцаў, а не толькі пашыраць жанравыя далягляды народнааркестравай музыкі. Казінцом «выпеставана» ўжо нямала п'ес, якія свежа і самабытна прагучалі ў аркестры і набылі прызнанне слухачоў. Прыгадайце хаця б «Дудароў» Я. Глебава, кранальную лірыку «Зямлі бацькоў» і «Спеву дуброў» В. Іванова, дасціпную тэатральнасць «Вясковых музыкаў» і «Батлейкі» В. Помазава. Прыгадайце і цымбальныя канцэрты Д. Смольскага, і шмат у чым эксперыментальны вопыт Г. Вагнера пры стварэнні ім канцэрта для фартэпіяна і народнага аркестра...

Вакол асобы Казінца існуе своеасаблівае поле творчай зацікаўленасці. «Поле» тое прыцягвае і зусім не вядомага слухачам студэнта, чый твор выконваецца на роўных з музыкай масціты[х] членаў кампазітарскага саюза, і знакамітага майстра, які раней ніколі для аркестра народных інструментаў не пісаў. Вядома, што аўтары часам досыць хваравіта перажываюць інтэрпрэтацыю свайго твора выканаўцам. Ды асабіста мне дагэтуль не даводзілася чуць, каб хтосьці з нашых кампазітараў скардзіўся на Казінца за «скажэнне аўтарскай задумы». Затое бываюць жартаўлівыя скаргі на тое, што Казінец, маўляў, падбухторвае на новы опус, звоніць, прыспешвае.

Рэпертуар жыновічаўцаў сёння — гэта суладдзе стракатых тэм, кантрастных вобразаў, розных стыляў. Менавіта суладдзе — бо, скажам так, дружна жывуць у праграмах аркестра народная песня і ўзор заходнееўрапейскай музычнай класікі, музыка беларускіх кампазітараў усіх пакаленняў і творы іх калег з братніх рэспублік. Арганічна гучаць пад акампанемент жыновічаўцаў оперныя арыі ў выкананні Анатоля Салаўяненкі і Зураба Саткілавы... Як вядома, многія славутыя салісты — частыя госці аркестра.

Летась Дзяржаўны народны аркестр БССР пабываў на першых сумесных гастролях з народным артыстам СССР, майстрам літоўскай опернай сцэны Віргіліусам Нарэйкам. Канцэрты адбыліся ў гарадах Прыбалтыкі і прысвячаліся 40-годдзю Перамогі. Гастролі гастролямі, а кіраўнік тым часам ужо дбае пра новую праграму — да фестывалю «Мінская вясна», таксама прысвечанай вялікай даце. І зноў — музычныя прэм'еры: «Партызанская мадонна» Д. Смольскага (фрэска-карціна, навеяная палотнамі М. Савіцкага), музычная карціна В. Іванова «Салдацкае поле», фантазія А. Мдывані «Лянок».

Магчыма, сёння «апрабоўваюцца» на рэпетыцыях новыя творы, пра якія Міхаіл Казінец вёў гаворку з кампазітарамі. Тады, увесну, гэта былі проста задумы: канцэрт для баяна В. Помазава (з разлікам на выдатную салістку С. Лясун) і яго ж «Заслаўская легенда» — музычнае прысвячэнне 1000-годдзю старажытнага горада; «Рапсодыя» Г. Вагнера для цымбал, вакальна-аркестравы цыкл А. Багатырова «Вянок беларускіх народных песень».

Пачынаецца новы сезон — і з'яўляюцца новыя назвы ў багатых праграмах Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча. І хаця заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Міхаіл Казінец нядаўна прызначаны рэктарам Беларускай кансерваторыі, жыновічаўцы не развітваюцца са сваім мастацкім кіраўніком. Ён па-ранейшаму падтрымлівае жывую творчую сувязь з калектывам аркестра.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

Алена РУЦКАЯ



## Максіму Танку

**Хай святло навукі яснай**
**Заблішчыць, як сонца ўсход,**
**Няхай родным словам шчасна**
**Загаворыць наш народ.**

**Якуб КОЛАС.**

Да рукі не датачыцца,
Сінім пухіром далонь,
Слёзы выплылі жывіцай:
Боль — агонь і гнеў — агонь.
«Хто ты естэсь, хто ты естэсь? —
Слоў чужых спадае друз,—
Помніш, верш вучылі летась?»
«Там хлусня — я беларус!»
Верш другі, на мове роднай,
Гоіць хлапчуковы боль,
Зяе, кліча, як паходня,
У свет іскрысты за сабой.
І натхнёна і выразна
Шэпча, гледзячы на ўсход:
«Хутка родным словам шчасна
Загаворыць наш народ».
У нарачанскіх соснах спеўна
Словы Коласа жылі...
Той хлапчук прайшоў праз вернасць
Роднай мове і зямлі.

## І памяць, і пашана, і любоў

Пажарышчы,
руіны,
каміны.
Са здымка, з той, апошняе вайны,
Мой горад, ты ўглядаешся ў мяне,
Нібы праверыць хочаш, ці кране
Маю душу твой незагойны боль,
Боль тых, хто тут ахвяраваў
сабой,
У чый апошні дзень ўвайшлі яны:
Пажарышчы,
руіны,
каміны.

Праменнасць,
зеляніна
і блакіт,
У Шчары сонца асляпляльны плыт,
Празрыстыя ўсмешкі аканіц,
Крылатыя паходні зараніц,
Шчымлівая задумлівасць прысад —
З дзяцінства мой
усцешвалі пагляд,
Ад злыбеды ахоўвалі, як шчыт:
Праменнасць,
зеляніна
і блакіт.

Спакою,
цішыні
і дабрыні
Мне тут падараваны лёсам дні...
Ці ж лёсам?
Не, заплачана жыццём
За мірны ранак,
за бацькоўскі дом,
За годнасць, за здзяйсненне
смелых мар —
Так многа найкаштоўнейшых ахвяр
Тых, хто хацеў для роднае зямлі
Спакою,
цішыні
і дабрыні.

І памяць,
і пашана,
і любоў
Мяне сюды прыводзяць зноў і зноў
Да Вечнага Свяшчэннага агню,
Дзе шчырую удзячнасць аддаю
Сумленнасцю сваіх пражытых дзён.
Прыміце ж ад мяне зямны паклон,
Хай сплацяць доўг вам
з далечы гадоў
І памяць,
і пашана,
і любоў.

## Першы снег

*Так незвычайна падаў першы снег,*
*Няспешна апускаўся,*
*урачыста,—*
*Блакітнаваты,*
*асляпляльна чысты*
*І незваротны, як імгненняў бег.*
*Ён падаў у рухомай цішыні,*
*Гучаў узнёслай музыкай арганаў;*
*Хвалююча,*
*трывожна,*
*раскавана*
*Сняжынкі лёгка гукамі плылі.*
*Бязважка ападала чысціня*
*На слоту*
*і аслізлую макрэчу,*
*Ахвяравальна,*
*шчодра*
*і адвечна,*
*Як у імя аднойленага дня.*

## Шчаслівыя сцежкі

Хто з нас не азіраецца назад,
У хвілі растрывожанай развагі,
Калі гадоў няспынны лістапад
Прымёў сцяжыны маладой адвагі.

Калі пачнеш адмерваць
кожны крок,
Узважваць думкі
і ацэньваць словы,
І хочацца жыцця свайго клубок
Хоць крышачку пераматаць нанова.

І найцяжэй усведамляць тады,
Што не было ў жыцці
любімай справы,
Што стомлены, як ад пустой хады
Пакосамі патраўленай атавы.

Затое як азорвае святло
Усёй душой абранае дарогі,
І каб вярнуць — вярнуў бы,
што было:
І радасці, і золкія трывогі.

Як шчодра, і як многа
дорыць нам
здабыткаў
праца, выбраная сэрцам.
Ты уладар — не парабак гадам,
Тканіна мары
да здзяйснення тчэцца.

І светла азіраецца назад,
Калі развагі спыніць
міг трывожны —
Пражытых дзён уладны лістапад
Шчаслівых сцежак замясці не можа.

Фота Таццяны ЕНІКЕЕВАЙ.

СЛОЎНІК МАРАЛІ

# АДКАЗНАСЦЬ АДНА НА ЎСІХ

**Тэма нашай сённяшняй размовы — адказнасць. Гэта паняцце ўключае ў сябе вельмі многае: уменне чалавека быць гаспадаром свайго слова, гатоўнасць узяць на сябе абавязкі галавы сям'і, кіраўніка калектыву, грамадзяніна, быць выказнікам інтарэсаў народа і дзяржавы.**

Напэўна, не мне аднаму даводзілася назіраць даволі тыповую з'яву: бабуля праводзіць унука ў школу. Сыты, дагледжаны хлопчык бадзёра крочыць наперадзе, незадаволена азіраючыся на бабулю. Рукі яго нічым не занятыя, і ён то сашмаргне лісце з куста, то падыме каменьчык і прачэрціць ім на плоце даўжэзную лінію. А бабуля, трымаючы ў адной руцэ ранец, а ў другой — сумку (відаць, на зваротным шляху трэба зайсці ў магазін), як ні стараецца, не патрапляе за хлопчыкам. Хоць і цяжка ёй, але заўтра раніцой яна зноў павядзе ўнука ў школу, бо ёй кіруе абавязак: яна павінна ўносіць уклад у выхаванне дзіцяці. Вось толькі ці задумваецца яна над тым, што выхоўвае ў ім... безадказнасць?..

— Якое глупства! — чую я абуранае шматгалоссе пакрыўджаных бабуль.— Пры чым тут безадказнасць? Што кепскага ў тым, калі старэйшыя дапамогуць школьніку, які яшчэ не прывык да розных ношак? Яшчэ паспее адчуць іх цяжар на сваіх плячах!

У тым вось і справа, мае даражэнькія, што дзеці вельмі лёгка і ахвотна прывыкаюць да гатоўнасці дарослых браць на сябе адказнасць за іх справы — справы няхай і нязначныя, на першы погляд, а на самай справе надзвычай важныя, бо з іх пачынаецца самастойнасць, яны фарміруюць асобу чалавека, вызначаюць яго будучы характар, псіхалогію, адносіны да ўсяго навакольнага свету.

Адказнасць... Як многа страчвае грамадства і як многа страчваюць тыя людзі, якія не здолелі выхаваць у сабе пачуцця адказнасці! А гэта складаны і працяглы працэс, і я нездарма нагадаў пра ранні ўзрост — чалавечыя якасці фарміруюцца менавіта ў маленстве, таму нязддольнасць або нежаданне дарослых зразумець гэта наносіць дзіцяці непапраўную шкоду.

На жаль, і сям'я, і школа, і камсамол тут сур'ёзна і сістэматычна недапрацоўваюць. Чым, як не выхаваннем безадказнасці, з'яўляюцца так званыя казённыя мерапрыемствы — пагаварылі, паспрачаліся і... разышліся да наступнага мерапрыемства? Што, як не безадказнасць, выхоўвае існуючая ў іншых школах практыка абвяшчэння вучнёўскага самакіравання і ўстанаўленне над ім такога педагагічнага кантролю, які ўсякія спробы самакіравання наглуха перакрывае? А пазіцыя некаторых кіраўнікоў прадпрыемстваў?.. У афіцыйным парадку яны крытыкуюць камсамольцаў за тое, што тыя недастаткова ініцыятыўныя, а самі любую ініцыятыву бесцырымонна, па-чыноўніцку падаўляюць...

Зараз усім нам неабходна глыбока і сур'ёзна задумацца над гэтым. Тая перабудова, якая пачалася ў краіне пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС, робіць зусім непрымальнай атмасферу безадказнасці, «прынцып» стаяння ў баку ад важных дзяржаўных і грамадскіх спраў. Гранічна прынцыпова і дакладна расстаўлены акцэнты наконт гэтага ў новай рэдакцыі Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якую прыняў XXVII з'езд КПСС. Удумайцеся вось у гэтыя, напрыклад, палажэнні:

«...Чым больш маштабныя гістарычныя мэты, тым больш важны па-гаспадарску зацікаўлены, адказны, свядомы і актыўны ўдзел мільёнаў у іх дасягненні»;

«...Павінна забяспечвацца паслядоўнае ажыццяўленне ленінскіх прынцыпаў кіравання і перш за ўсё прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму, які выяўляецца ў адзінстве абодвух яго пачаткаў — як павышэнні эфектыўнасці цэнтралізаванага кіраўніцтва, так і значным пашырэнні гаспадарчай самастойнасці і адказнасці аб'яднанняў і прадпрыемстваў».

«...Школа заклікана выхоўваць у вучняў пачуццё любві да Радзімы, павагі да старэйшых, бацькоў і настаўнікаў, выхоўваць іх у духу высокай адказнасці за якасць вучобы і працы, за свае паводзіны, развіваць вучнёўскае самакіраванне».

Адказнасць, адказнасць і яшчэ раз адказнасць... Што ж мы павінны рабіць, каб яна стала нормай нашага жыцця?

Найперш, мне здаецца, ствараць і падтрымліваць такую абстаноўку, у якой бы кожны чалавек ведаў і разумеў, што грамадства патрабуе ад яго пастаяннай, паслядоўнай і прынцыповай адказнасці за свае паводзіны, адносіны да працы, народнай маёмасці і прыроды і, вядома ж, за захаванне тых норм і правіл, якія ляжаць у аснове савецкіх законаў.

Чаму ў нас так часта распадаюцца сем'і, іншы раз нават не паспеўшы закласці падмурак для паўнацэннага сумеснага жыцця? Можа, таму, што муж і жонка не здольны ўзяць на сябе адказнасць за ўладкаванне быту, за выхаванне дзяцей, за стварэнне здаровай маральнай атмасферы ў сям'і? Магу прывесці ў якасці прыкладу нямала былых сем'яў, што распаліся, як толькі пазбавіліся падпорак, якімі з'яўляліся для іх да пары да часу таты і мамы, бабулі і дзядулі, цёткі і іншыя апекуны. Пазбавіліся, і тут жа выявілася бездапаможнасць, тая славутая інфантыльнасць, аб якой так часта пішуць сёння, а звычка жыць бяздумна і лёгка аказалася мацнейшай за пачуцці.

А між тым усё пачынаецца з дробязей. О, як часта мы бываем нечуллівымі да так званых дробязей, як старанна часам імкнёмся не заўважаць іх.

Вось вам адна такая дробязь. Кантралёр у трамваі выяўляе безбілетніка і, вядома ж, патрабуе заплаціць штраф за безбілетны праезд. І, здараецца, выслухоўвае зняважлівыя, злосныя папрокі — «пацярпеўшы» або «пацярпеўшая» актыўна абараняюцца, дый спагадлівія заступнікі не скупяцца на словы. Чалавека абражаюць за тое, што ён паводле сваіх службовых абавязкаў ад імя дзяржавы і народнай улады вымушаны нагадаць аб адказнасці кожнага за парадак, за павагу да правіл супольнага жыцця, за ўласны чалавечы воблік, нарэшце...

Між тым, адказнасць за свае паводзіны непадзельная, у ёй няма дробнага і буйнога, істотнага і неістотнага. І мы часта наносім шкоду грамадству і самім сабе, калі не хочам зразумець гэта і сумленна прызнаць свае памылкі.

У адным з інстытутаў Акадэміі навук БССР на партыйным сходзе абмяркоўвалі супрацоўнікаў, якія прынараўіліся, атрымліваючы добрыя аклады, падрабляць камандзіровачныя дакументы і класці ў кішэню прысвоеныя такім чынам грошы. І што ж сход? Запатрабаваў выключыць зламыснікаў з партыі, назаўсёды адлучыць іх ад навукі? Ні ў якім разе! Сход абмежаваўся партыйнымі спагнаннямі, нібыта такімі паўмерамі можна прадэманстраваць сваю адказнасць за стварэнне здаровага грамадства.

Скажуць, магчыма, што такі падыход задужа суровы. Не згодны! Ушчуваць можна за памылкі, за злачынствы супраць грамадства трэба караць! Пакуль нехта аспрэчвае або тым больш ігнаруе гэтую маральную ісціну, нельга дасягнуць такога становішча, якое будзе заахвочваць чалавека, як гаворыць Праграма КПСС, «да зацікаўленага ўдзелу ў жыцці калектыву і ўсёй краіны, да актыўнага непрыняцця ўсяго, што супярэчыць сацыялістычнаму ладу жыцця, да настойлівай барацьбы за камуністычныя ідэалы».

Лічу неабходным нагадаць яшчэ пра адну загану, якая даўно і моцна нам перашкаджае.

Усе добра ведаюць, што фармалізм — бясспрэчнае зло. У любым праяўленні ён адмоўна ўздзейнічае на грамадскую свядомасць, падрывае яе маральную аснову. Але не ўсе ведаюць пра шкодную разнавіднасць адказнасці — адказнасць фармальную. Яе цяжка бывае адразу выявіць, у яе здаровыя знешнія прыкметы, а сарцавіна — зусім непрыгодная, гнілая.

Успамінаю нядаўнюю размову з дырэктарам саўгаса. Гаспадарка насенняводчая, таму найпершае яе прызначэнне — забяспечваць элітным насеннем калгасы і саўгасы вялікага рэгіёна.

— Як толькі пачынаецца жніво, пачынаюцца і непаразуменні з райкомам партыі,— расказваў ён.— Сутнасць іх у тым, што продаж элітнага насення не ўваходзіць у план раённых паставак, а ў раёна павышаныя абавязацельствы, і таму райкому нявыгадна, каб за межы раёна «сплывала» хоць нешта, што можна прыплюсаваць да раённых зводак, што можа пазней прынесці пахвалу, апладысменты, узнагароды. Вось і ціснуць на мяне, хоць і ведаюць, што я дзейнічаю ў інтарэсах дзяржавы.

Асуджаць раённых работнікаў за адказнасць у маштабе раёна, безумоўна, нельга. Кожны адказвае за тое, што яму даверана. І ў той жа час умець не на словах, а на справе жыць інтарэсамі дзяржавы — вышэйшы маральны закон нашага грамадства і вышэйшы партыйны абавязак. І фармалізм тут не толькі непрымальны — небяспечны.

Пішу пра саўгас, а бачу перад сабой Андрэя Пятровіча Таракіна — генеральнага дырэктара магілёўскага вытворчага аб'яднання «Стромаўталінія». Вось хто, на мой погляд, увасабленне адказнасці! Ён жыве інтарэсамі сваёй вытворчасці, але ніколі не проціпастаўляе іх інтарэсам ведамства, горада, асабістым інтарэсам. Для яго не існуе інтарэсаў сённяшняга дня ў процівагу інтарэсам будучага. Ён ніколі, нават пры сур'ёзных няўдачах (а хто ад іх застрахаваны?) не шукае, на каго можна зваліць адказнасць, за каго схавацца, чым прыкрыцца. Сваю адказнасць, адказнасць кіраўніка прадпрыемства, народнага дэпутата і камуніста, ён нясе годна, з гордасцю, апраўдваючы высокі давер народа. Лепшае пацвярджэнне таму — велізарная павага да Андрэя Пятровіча рабочых, кіраўнікоў міністэрства, партыйных работнікаў. З Таракіным могуць спрачацца, не згаджацца па нейкіх прычынах, могуць адмовіцца з ім працаваць, але яго не папракнуць у беспрынцыпнасці, крывадушнасці, непаслядоўнасці, словам, у тым, што звычайна спадарожнічае безадказнасці і робіць чалавека непаўнацэнным і нават шкодным для грамадства.

«У парадак дня,— чытаем у Праграме Камуністычнай партыі Савецкага Саюза,— стала задача ўсямернага і ўсебаковага ўдасканалення сацыялістычнага грамадства, больш поўнага і эфектыўнага выкарыстання яго магчымасцей і пераваг».

Гэта датычыць нас усіх, і ўсе мы адказваем за рашэнне гэтай задачы. Адказнасць агульная. Адна на ўсіх.

**Алесь ШЧАРБАКОЎ.**

# НАДЗЕЙНЫ ДОМ СЫНАМІ



Таццяна ХАРАВЕЦ

Дзень халаднаваты. Па-сапраўднаму зімовы. Мы з сакратаром Сенненскага райкома партыі Таісіяй Сцяпанаўнай Кубароўскай едзем у вёску. Ведаю, місія ў Таісіі Сцяпанаўны сёння вельмі прыемная — павіншаваць перадавікоў спаборніцтва.

Адрасоў у яе шмат. А першы — вось гэты: калгас «Запаветы Ільіча», вёска Алексінічы. Тут жыве цэлая дынастыя механізатараў Шыбекаў. Пачынае пра яе расказваць Таісія Сцяпанаўна, а ў самой вочы так і свецяцца радасцю.

— Вось убачыце, якія ў нас цудоўныя і Аркадзь Пятровіч, і Ганна Фёдараўна Шыбекі,— гаворыць яна.— Абое перадавікі. На якую нараду ні паклічам Аркадзя Пятровіча, абавязкова прыедзе і Ганна Фёдараўна. Сядзе з ім побач і будзе ўважліва слухаць: што ж скажуць сёння пра мужа? Ну, а сказаць пра яго заўсёды ёсць што.

Ордэн Леніна, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга мае заслужаны работнік сельскай гаспадаркі рэспублікі. Узяць хаця б 1985 год: Шыбекі — бацька з сынамі — за жніво ўбралі трэцюю частку ўраджаю ў сваім калгасе «Запаветы Ільіча». Вельмі пастараўся сам Аркадзь Пятровіч. Надзейнай зменай сталі яму сыны Аркадзь і Мікалай. Мы іх прынялі кандыдатамі ў члены партыі. Сям'я камуністаў. Дзякуй трэба сказаць і гаспадыні дома — Ганне Фёдараўне. Усё лета працавала памочнікам камбайнера. Увішна ўпраўлялася, калі давадзілася і браць штурвал з рук мужа. Вось бы яшчэ са дзве такія хлебаробскія дынастыі, і з уборкай ураджаю мы б упраўляліся лёгка.

Так непрыкметна, за размовай, мы і пад'ехалі да дома Шыбекаў. Стаіць ён, як звон, на вясковай вуліцы. Новы, з разнымі аканіцамі, з акуратненькім, па-гаспадарску дагледжаным дворыкам. Адразу бачна: пабудаваны на доўгія гады. Хопіць яго і бацькам, і дзецям. Дзверы гасцінна адчыніла Ганна Фёдараўна і сустрэла нас з Таісіяй Сцяпанаўнай з уласцівым ёй сялянскім гумарам:

— Раней да майго Пятровіча ўсё мужчыны прыязджалі: і калі ў газету фатаграфавалі, і калі вымпел уручалі. А тут раптам жанчынкі завіталі, ды адразу аж дзве. Вось якая радасць! Хадзем, даражэнькія, у хату. Сёння тут усімі справамі камандую я. Гэта на жніве я ў Пятровіча ў памочніках хадзіла. А вось зараз на кухні ён у мяне ў памагатых. Але нішто сабе: упраўляецца. І дзеці памагаюць. На дзяўчат нам не пашанцавала, адны хлопцы ў сям'і. Дык, пакуль дачакаюся нявестак, хай самі патупаюць каля печы.

Жарт жартам, а якой сардэчнасцю і цеплынёй павеяла ад слоў Ганны Фёдараўны. У гэтым доме сапраўды не дзеляць справы на мужчынскія і жаночыя: усё робяць разам, усё з увагай ды павагай адзін да аднаго. Бачу і зараз любы «загад» маці гатовы выканаць і Мікалай, і Міхаіл, і Валерык, і нават самы меншанькі Эдзік. Усе чарнявыя, рослыя — у бацьку пайшлі. Толькі Аркадзя сёння няма дома — служыць у Ленінградскай вобласці. Але з партрэта ўсміхаецца такі ж мажны, статны хлопец, як і гэтыя. Аркадзь таксама да арміі ў калгасе працаваў. Майстар на ўсе рукі: і трактарыст, і камбайнер, і шафёр. Неяк адбылася сустрэча ў Высокаўскім сельскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы былых выпускнікоў. Якія апладысменты раздаваліся ў зале, калі на сцэну падняліся чацвёра Шыбекаў: Аркадзь Пятровіч, Ганна Фёдараўна, іх сыны Аркадзь і Мікалай. Было чаму і павучыцца, і пазайздросціць цяперашнім навучэнцам. Такімі зямля наша моцная. На такіх хлебны колас трымаецца. Бо працуюць усе і па прызванню, і па добраму сумленню. І ведаюць цану хлебу. Я была сведкай вось такой размовы бацькі з сынам:

— Ведаеш, Міколка,— сказаў бацька,— што сказаў адзін стары механізатар маладому? У нас, як і ў сонца, свая арбіта. Вясной мы прыходзім на сваё поле, даём жыццё на ім зялёнай руні. Летам чакаем важкага, пругкага коласа, сіл не шкадуем дзеля гэтага. А восенню радуемся, калі ў засеках калгасных спелага золата горы. На наступны год усё паўтараецца спачатку... У мяне іншы раз такое пачуццё гордасці з'яўляецца, што я — калгаснік. Я даю краіне самае дарагое багацце — хлеб. І мы, механізатары, павінны працаваць так, каб хлеба нашага хапіла на ўсіх. Дзеля гэтага мы не павінны ніколі сыходзіць са сваёй хлебаробскай арбіты.

— Тата, такое пачуццё і я зведаў упершыню,— адказваў сын,— калі нас віншавалі, як намалацілі сямейным экіпажам 1100 тон збожжа, як усім чацвярым павязалі чырвоныя стужкі пераможцаў спаборніцтва. Не ведаю, як табе, а мне нялёгка тая перамога далася. Памятаеш, ноч з табой не спалі. Нечакананеспадзявана вечарам сапсаваўся камбайн. Мы не пакінулі поле, рамантавалі аж да самай раніцы — ты, Аркадзь і я. Прыехалі вымпел уручаць, шукаюць пераможцаў, а мы пад камбайнам корпаемся, апошнія гайкі прывінчваем. І ўсё ж самі яго адрамантавалі. Вельмі мне запомніўся той дзень, тата. Такі клапотны ён быў і такі шчаслівы. Вось тады я па-сапраўднаму адчуў, што магу працаваць, як і ты.

У майстэрстве і на самай справе сыны могуць паспрачацца з бацькам. І любую тэхніку даверыць ім можна. Таму калі залетась калгас набыў новы камбайн, рашэнне было адно: выдаць яго сямейнаму экіпажу Шыбекаў. Так і зрабілі. А хто персанальна вадзіць яго будзе — вырашаў ужо сямейны савет. Бацька прапанаваў аддаць гэты падарунак сыну: якніяк, Мікалай малады, дасціпны, тэорыю лепш ведае. Хай на радасць працуе на новай тэхніцы. А Мікалай разважыў па-свойму: тата за дваццаць гадоў работы як ніхто іншы заслужыў права працаваць на гэтым камбайне. Рукі ў яго больш надзейныя. Ды і мама яго не падвядзе.

Гаспадар цёпла зірнуў на жонку.

— Наша мама — залаты чалавек. Яна — мой добры памочнік і верны друг. Экіпаж наш зладжаны, бо мы разумеем адзін аднаго. Дзеці нас таксама разумеюць. Нам і хатнія, і рабочыя клопаты ўсе ў радасць. Праўленне калгаса дбае пра людзей. Бачыце, як адбудавалася наша вуліца, якая прыгожая вёска Алексінічы. Старэйшы сын Аркадзь толькі ажаніўся, як тут жа калгас яму новую кватэру даў. Ды з усімі выгодамі. Чаму ж нам не працаваць на радасць сабе і людзям? Вось і мы сёння ўсім жадаем: няхай год будзе хлебны! Няхай уборка для ўсіх будзе радасная. Мы ведаем, больш будзе хлеба — багацейшая будзе наша краіна. А багацейшая будзе краіна, мацнейшыя будзем мы ўсе разам. Што асабіста для гэтага я зраблю і мае сыны? Мы сваім сямейным экіпажам пастараемся намалаціць больш за 1300 тон збожжа. Нашы і малодшанькія Мішка з Валеркам праходзяць практыку ў вучэбна-вытворчым камбінаце, ну, а Міколка ўжо мае падзякі за працу. Сыны набіраюцца вопыту. А пры добрым старанні і добрыя поспехі пад сілу.

— Калі я выходзіла замуж за свайго Пятровіча,— даверліва гаворыць Ганна Фёдараўна, то нават і не думала, што ўсё так ладна складзецца ў жыцці. Муж у мяне клапатлівы, уважлівы, дзеці старанныя, працавітыя. Ганаруся імі. І шчыра прызнаюся вам: я вельмі шчаслівая і як маці, і як жонка.

Такая размова адбылася ў нас у доме Шыбекаў. На развітанне мы пажадалі гаспадарам, каб вярнуўся іх сын Аркадзь, а яшчэ — важкага хлебнага каравая. Падзякавалі за іх шчодры дом, які заўсёды надзейны сынамі...

# ВЯСКОВЫЯ ЭЦЮДЫ



«Моцнае ў бацькі плячо...» Фота Анатоля ДУДКІНА (Мінск).

Раніца. Фота Уладзіміра БАЗАНА (Віцебск).

Свята. Фота Міхаіла ЖЫЛІНСКАГА (Мінск).

СПАДЧЫНА

# КОЛЬКІ ГАДОЎ ТАБЕ, СЛУЦК?!

Мой родны кут, мой горад родны! Калі ўзнік ты, калі ўпершыню пісалі пра цябе? Паводле трэцяй рэдакцыі Іпацьеўскага летапісу «Аповесці мінулых часоў», энцыклапедый і даведнікаў, а таксама манаграфій вучоных-гісторыкаў, Слуцк упершыню ўпамінаецца ў 1116 годзе, калі мінскі князь Глеб Усяславіч «воевал Дреговичи и Случеск пожег». У X ст. (948 г.) аб дрыгавічах упамінае візантыйскі гісторык Канстанцін Багранародны. Дрыгавічы знаходзіліся тады на заключнай стадыі распаду родаплемяннога ладу, мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне». А калі мелі «княжанне», то было і княства. Савецкая гістарычная энцыклапедыя пра княства дрыгавічоў дае такую звестку: «Тураўскае княства — рускае феадальнае княства IX—XIV стст. Знаходзілася ў басейне р. Прыпяці і яе прытокаў у зямлі ўсходнеславянскага племені дрыгавічоў. На захадзе межавала з землямі ятвягаў, на поўначы — з Полацкім княствам. На ўсходзе граніца Тураўскага княства праходзіла па Дняпры. Стольны горад Тураўскага княства — Тураў. Найбольшыя гарады дрыгавічоў — Пінск, Давыд-Гарадок, Брэст, Клецк, Слуцк, Капыль, Рагачоў. Займаліся дрыгавічы лядным земляробствам, жывёлагадоўляй, былі развіты ў іх промыслы і гандаль».

У X ст. значная частка зямель дрыгавічоў увайшла ў склад Кіеўскай Русі, не страціўшы пры гэтым адносна самастойнага княжання. Паўночна-ўсходняя частка зямель трапіла ў Полацкае княства. Пазней дрыгавічы разам з крывічамі і радзімічамі склалі беларускую народнасць.

Паводле гістарычных звестак, Слуцк стаў цэнтрам Слуцкага княства ў канцы XII ст. На пачатку свайго самастойнага існавання Слуцкае княства, як калісьці Турава-Пінскае, знаходзілася пад пэўным уплывам Кіева. Безумоўна, гэта непакоіла полацкіх князёў, якія імкнуліся пашырыць свае ўладанні на поўдзень. Адсюль і падзеі 1116 года. Мінск, як вядома, быў тады паўднёвым фарпостам Полацкага княства.

За тое, што Слуцк існаваў да 1116 г., гаворыць элементарная логіка. У пажарах (Случеск «пожгли» у 1116 г.) гіне тое, што існуе. Але цікава, калі яно тое пачало існаваць і дзе пра яго раней пісалася? Аказваецца, у пісьмовым помніку «О поставлении Туровское епископии» — статуце, дадзеным Тураўскай епіскапіі кіеўскім князем Уладзімірам у 1005 годзе. Сярод іншых гарадоў, адданых «в послушание и священие» Тураўскай епіскапіі, называўся тады і Слуцк. Аб факце існавання гэтага дакумента паведамляе «Гісторыя крыўскай кнігі» (Коўна, 1926 г.) Такім чынам ёсць падставы лічыць, што Слуцк упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах не ў 1116, а ў 1005 годзе. Гэта значыць, што летась гораду споўнілася 980 гадоў.

А аб яшчэ старэйшым яго ўзросце гаворацць даныя археалогіі...

**Яўген ГУЧОК,**
**старшы рэдактар рэдакцыі гісторыі і геаграфіі выдавецтва «Народная асвета».**

ЗРАБІЦЕ САМІ

# АЖУРНЫ ПУЛОВЕР

Хутка цёплыя дзянькі прымусяць нас апрануцца ў лёгкія сукенкі, блузкі, таму модны ажурны пуловер, які зусім няцяжка звязаць нават пачынаючай рукадзельніцы, прыйдзецца якраз дарэчы ў вашым гардэробе.

ПАМЕР: 44-ты.

МАТЭРЫЯЛ: 300 грамаў тонкай шэрсці, пруткі № 2 і № 2,5.

Усе дэталі — спінку, перад, рукавы — пачынаем вязаць з рызінкі 2×2 (дзве пятлі ўлева, дзве пятлі ўправа). Ажурная вязка выконваецца наступным чынам: ПЕРШЫ РАДОК: 1 пятля пругавая, * накід, 2 пятлі разам направа *. Паўтарыць ад * да *. ДРУГІ І ЧАЦВЕРТЫ радкі правязваюцца левымі петлямі. ТРЭЦІ РАДОК: 1 пятля пругавая, * 2 пятлі разам направа, 1 накід *. Паўтарыць ад * да *. Далей паўтараць апісаныя чатыры радкі.

УЗОР: 10 см$^2$=24 пятлі па гарызанталі і 60 радкоў у вышыню.

СПІНКА: набраць 140 петляў на прутках № 2. Вязаць рызінку: дзве пятлі ўлева, дзве пятлі ўправа (2×2). На вышыні 4 см звязаць адзін радок левымі петлямі, у гэтым радку раўнамерна ўбавіць 10 петляў (застанецца 130). Замяніць пруткі на № 2,5 і выконваць ажурную вязку па прамой. На вышыні 65 см ад нізу работы пачынаем закрываць з двух бакоў полкі ў кожным другім радку: 2 разы па 10 петляў і 2 разы па 9. Петлі, якія застануцца на прутку, закрыем за адзін раз, даволі свабодна.

ПЕРАД: да вышыні 49 см вязаць гэтак жа, як і спінку. Пакінуць палову петляў на запасным прутку, і кожную частку затым вязаць асобна, пры гэтым збаўляць з боку выразу па 1 пятлі на 3 радкі 27 разоў. На вышыні 65 см ад нізу закрываем петлі так, як і ў спінцы.

РУКАВЫ: набраць 120 петляў на пруткі № 2. Пачатак работы такі ж, як і ў спінцы. У радку, які вяжацца левымі петлямі, выканаць 8 убаўленняў (застанецца 112 петляў). Далей пруткамі № 2,5 вяжам ажурнай вязкай 55 см ад нізу вырабу, і ўсе петлі закрываем за адзін раз досыць шчыльна.

БЕЙКА: набраць 258 петляў на прутках № 2. Вязаць рызінкай 2×2, пры гэтым закрываць на абодвух канцах у кожным другім радку па 1 пятлі. На вышыні 4 см усе петлі закрываем досыць шчыльна.

ЗАКАНЧЭННЕ: сшыць спінку і перад па лініях плячэй. Шво сумясціць з сярэдзінай рукава і прышыць рукавы да стану. Сшыць бакі — рукавы і стан — адным швом.

Бейку сшыць і ўставіць у гарлавіну.

Гатовы пуловер можна ўпрыгожыць аплікацыяй, кветкамі, звязанымі шыдэлкам.

**Алёна ВАЛЯНЦІНАВА.**



16 16 16 61 54 49 4 47 51 4

З АРХІВА ФОТАКАРЭСПАНДЭНТА



**Вы бачыце на здымку Міхаіла Калашнікава, ваеннага карэспандэнта «Праўды» на Заходнім фронце. Здымак зроблен у жніўні 1941 года пасля цяжкага бою за горад Вялікія Лукі, дзе мы ў той час знаходзіліся разам з перадавымі часцямі.**

**Міхаіл АНАНЬІН,**
**былы ваенны карэспандэнт «Комсомольской правды».**

# СА ШЧЫТОМ І ПАД ШАЛОМАМ

Хто не ведае настурку?.. Усе. Але не ўсё.

Чырвоная, пунсовая, ярка-чырвоная, пурпурная, аранжавая, залацістая, белая... Яна ўпрыгожвае клумбы, садовыя вазы, балконы, ажыўляе кветнікі яркай пяшчотай пялёсткаў. Адцвіўшы, расліны таксама не губляюць сваёй дэкаратыўнасці. Форма лістоў, узор жылак на іх, насычанасць зялёнага колеру — гэтаму доказ. Дарэчы, пра форму кветак і лістоў. Што яны нагадваюць?.. Аказваецца, назва расліны (Tropaeolum) складзена з двух грэчаскіх слоў і перакладаецца як «поўнае ўзбраенне воіна». І сапраўды, лісты настуркі падобныя на шчыты воінаў, а кветкі — на іх шаломы.

У сям'і настуркавых 80 відаў, пашыраных пераважна ў горных раёнах Паўднёвай Амерыкі. Гэта травы, якія сцелюцца па зямлі, завіваюцца чаранкамі лістоў вакол суседніх раслін. Вышыня кусцікаў іншы раз дасягае чатырох метраў. У тонкай трубачцы кветак назапашваецца нектар — салодкі духмяны пачастунак для заўжды жадаюных гасцей — насякомых-апыляльнікаў. Прыпомніце, мы ж таксама неаднойчы ў дзяцінстве ласаваліся гэтай мядовай вадкасцю.

Але, на жаль, мы чамусьці не ведалі пра іншыя якасці гэтай расліны. Павойная і паўзучая формы настуркі вялікай здаўна выкарыстоўваюцца ў кулінарыі. Не ўсюды, вядома. Немцы і французы, напрыклад, з лістоў настуркі робяць салату. Лісты, кветкавыя пупышкі, недаспелае зялёнае насенне маюць прыемны востры смак. Гэта добрая прыправа да шматлікіх страў, тым больш, што настурка аказалася багатай крыніцай вітамінаў, асабліва вітаміну С. З яе кветак, якія ўжо распусціліся, гатуюць смачныя пікантныя супы.

З далёкіх часоў у Перу і Балівіі на сваіх агародах інкі вырошчвалі настурку клубняносную. У гэтага віду ў ежу ішлі белыя і жоўтыя з фіялетавымі плямамі клубні ў вараным і замарожаным стане.

Настурка яшчэ і лякарства. У народнай медыцыне яе выкарыстоўвалі пры цынзе і іншых хваробах.

У спецыяльных замежных часопісах ёсць паведамленні аб вывучэнні антыбіётыку трамаліту, атрыманага з настуркі. Трамаліт падаўляе рост многіх хваробатворных мікробаў, грыбкоў і рыкетсій, а таксама стымулюе ахоўныя рэакцыі арганізма і дапамагае пры лячэнні некаторых захворванняў дыхальных і мочавывадных шляхоў.

Заўважылі ў настуркі і яшчэ адну карысную асаблівасць. Калі яе пасадзіць на гародзе між градкамі з памідорамі, капустай і іншымі гароднімнымі культурамі, дык матылькі многіх шкоднікаў трымаюцца ўбаку ад іх.

Канечне ж, гэта не поўная біяграфія прыгожай і карыснай нам расліны.

**Вольга САЛАЎЯНЧЫК.**







**«СЫН» (З ЦЫКЛА «МОЙ КРАЙ»).** Фота Юрыя **ВАСІЛЬЕВА**. г. Мінск.

# БЕЛАРУСКАЯ МАЧАНКА

**САКРЭТ «ФІРМЫ»**

Засмажце на патэльні кавалачкі свініны разам з рэбрамі і сялянскай каўбасой. Развядзіце халоднай вадой або яшчэ лепш — грыбным адварам пшанічную або ячную муку і ўліце ў вар, увесь час памешваючы. У мучную падліўку пакладзіце лаўровы ліст, сельдэрэй, соль, засмажанае сала і дробна накрышаную цыбулю, а потым свініну з каўбасой, і пастаўце на 20—25 хвілін у гарачую духоўку.

Да мачанкі падаюць бліны або адвараную бульбу.

**НЕАБХОДНЫЯ ПРАДУКТЫ:**
**250 г свініны, 200 г сялянскай каўбасы, 2 цыбуліны, 100 г сала, 2 сталовыя лыжкі мукі, лаўровы ліст, сельдэрэй, соль.**

**Любоў ЯКІМОВІЧ,**
**загадчык вытворчасці рэстарана «Журавінка»**



# ЯКАЯ КАРЫСЦЬ АД АЛІЎКАВАГА АЛЕЮ?

**«Неаднойчы даводзілася чуць, што аліўкавы алей дапамагае пры многіх хваробах. Вось толькі як ужываць яго! Адны лічаць, што алей трэба піць лыжкамі, другія — што яго трэба смактаць, падоўгу трымаючы ў роце. Ці нельга расказаць пра гэта больш падрабязна!**

**Л. БАРЫСЮК,**
**г. Рагачоў».**

Аліўкавы алей — толькі адна са шматлікіх разнавіднасцей алеяў, кампанентаў харчовых прадуктаў, якім у наш час надаецца вялікае значэнне ў прафілактыцы і барацьбе з «эпідэміяй» стагоддзя — ішэмічнай хваробай сэрца (стэнакардыя, інфаркт міякарда, парушэнні рытму сэрца).

Як і іншыя алеі (санечнікавы, кукурузны, соевы і іншыя), аліўкавы алей утрымлівае вітамін F, які практычна адсутнічае ў тлушчах жывёльнага паходжання. Вітамін F адносіцца да ліку ненасычаных тлустых кіслот, якія не сінтэзуюцца ў арганізме чалавека, але надзвычай яму неабходны — яны садзейнічаюць абароне сэрца ад атэрасклерозу і, такім чынам, ад ішэмічнай хваробы. Акрамя таго яны з'яўляюцца папярэднікамі некаторых іншых злучэнняў — простагландзінаў, якія рэгулююць мясцовыя абменныя працэсы, што таксама вельмі важна пры шэрагу захворванняў. Па ўтрыманню вітаміну F сланечнікавы, кукурузны і соевы алеі значна пераўзыходзяць аліўкавы.

Антысклератычнае ўздзеянне вітамін F аказвае толькі пасля расшчаплення аліўкавага, а таксама іншых алеяў у страўнікава-кішачным тракце. Расшчапленне алею значна паляпшаецца і паскараецца ў прысутнасці жоўці, якая, у сваю чаргу, выдзяляецца з жоўцевага пузыра толькі пасля таго, як алей або тлушч трапіць у страўнікава-кішачны тракт.

Працэс расшчаплення тлушчаў вельмі складаны, ён уключае шматлікія інгрэдыенты нашага арганізма, якія адсутнічаюць у сакрэце слінных залоз. Такім чынам, расшчапленне аліўкавага, як і любога іншага алею, у роце намнога менш эфектыўнае, чым у кішэчніку. Вось чаму шырока распаўсюджаная думка аб «асаблівай карысці» смактання аліўкавага і іншых алеяў надзвычай няпэўная.

Намнога эфектыўней выкарыстоўваюць аліўкавы і іншыя алеі ў розных салатах, закусках, якія гатуюцца са свежай агародніны (асабліва з капусты). Надзвычай карысныя ў гэтым плане нерафінаваныя (сланечнікавы і кукурузны) алеі. У іх асадку ўтрымліваецца другі важны супрацьсклератычны кампанент — фосфаліпіды, якія ўзмацняюць антысклератычнае ўздзеянне вітаміну F.

Разам з тым павінен засцерагчы многіх аматараў самалячэння ад злоўжывання алеямі. Жывёльныя тлушчы гэтак жа неабходны арганізму чалавека, як і раслінныя. У сваім харчаванні кіруйцеся простым правілам: $^{1}/_{3}$ частка ўсіх тлушчаў, якія вы спажываеце, павінна быць расліннага паходжання.

**Леанід БАРАНАЎ,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**





# СОНЦА Ў ВОКНЫ

Зыркае вясновае сонца кідае з кожным днём усё ласкавейшыя позіркі на зямлю, весела смяецца ў лужынах, пакрытых ранішнім лядком, усё смялей зазірае ў вокны, запрашаючы выйсці на волю — у лес, у поле, у сад. У садзе ж рука сама пацягнецца да галінак яблынь і груш, каб пакратаць іх, пераканацца, што яны выстаялі ў зімовыя маразы, адчуць у пругкіх парастках і набрынялых пупышках пульс новага жыцця. Разам з гэтым адчуваннем руху жыватворных зямных сокаў і ледзь улоўным пахам адталай зямлі і прыходзіць да чалавека ўсведамленне вялікай змены ў прыродзе: прыйшла вясна новага года.

Найперш вясна-гаспадыня пачынае завіхацца ў агародзе — у канцы сакавіка самы час закладваць парнікі для вырошчвання расады агародніны і кветак, а таксама каб атрымаць ранні ўраджай радыскі, салаты, зялёнай цыбулі.

Парнікі робяць паглыбленыя або надземныя. Для паглыбленага парніка неабходна папярэдне выкапаць катлаван глыбінёю 70 сантыметраў (малюнак А) — ён патрабуе менш гною і лепш трымае цяпло. Зверху катлаван абшываецца жэрдкамі таўшчынёй 12—14 сантыметраў, прычым паўночны бок зруба павінен быць вышэй за паўднёвы на 13—15 сантыметраў.

Надземны парнік уяўляе сабой драўляную скрыню вышынёй 50 сантыметраў (малюнак Б).

Накрываюць парнікі рамамі памерам 120×110 сантыметраў, на якія нацягнута поліэтыленавая плёнка. Для больш трывалага замацавання плёнкі праз кожныя 30 сантыметраў на раме робяць планкі — шпросы. Зверху ўцяпляюць рагожнымі або саламянымі матамі памерам 140×130 сантыметраў. З гэтай мэтай можна выкарыстоўваць і склененую ў некалькі слаёў паперу або кардон, якія нацягваюцца з двух бакоў на дадатковую раму з лёгкіх драўляных планак.

У якасці біяпалива ўжываюць конскі гной, а калі яго няма, можна выкарыстаць авечы, казіны, трусіны або нутрыевы гной. Ужываюць таксама сумесь каровінага гною (70 працэнтаў) і пілавіння або льняной кастрыцы (30 працэнтаў), а таксама сумесь хатняга смецця (70 працэнтаў) і апалага лісця.

Нарыхтаванае ўгнаенне захоўваюць у старанна ўтрамбаваным штабелі, каб яно раней часу не сагравалася. Гной, які перагарэў, пакрыўся цвіллю, нельга выкарыстоўваць для закладкі парнікоў.

Паглыбленыя парнікі да самага верху напаўняюць рыхлай арганікай. Для надземных парнікоў спачатку рыхтуюць «пасцель» з гною слоем 40 сантыметраў, а потым ставяць на яе скрыню так, каб паўднёвы бок быў ніжэй паўночнага. Дзён праз 7—8 гной угрэецца, асядзе, і можна насыпаць грунт слоем 13—15 сантыметраў. Лепшая сумесь для грунту: перагной (50 працэнтаў), нізінны торф, які добра праветрыўся (15 працэнтаў), пясок (5 працэнтаў) і дзярновая зямля (30 працэнтаў). Можна выкарыстоўваць і «арэхавую зямлю» — перагной, які ўтвараецца ў нізкіх мясцінах ліцевых лясоў з падлескам ляшчыны.

Праз 2—3 дні можна высяваць насенне або высаджваць расаду. Парнік накрываюць рамамі і матамі, падтрымліваючы ў ім тэмпературу ў межах 20—25 градусаў. Пасля з'яўлення ўсходаў маты на дзень здымаюць. У сонечнае надвор'е парнік неабходна праветрываць, каб ён не пераграваўся. Для гэтага рамы з плёнкай прыўзнімаюць і замацоўваюць на драўляных падстаўках. Максімальная тэмпература ў парніку для дыні і кавуна — 30—35 градусаў, таматаў, цыбулі і агурка — 25—26 градусаў, капусты — 18—20 градусаў. Па меры падсыхання глебы парнікі неабходна паліваць. Калі расада падымецца і пачне ўпірацца ў поліэтыленавую плёнку, скрыню трэба падцягнуць вышэй, а з бакоў дадаткова прыкрыць гноем, захоўваючы свой маленькі «аазіс» ад ветру і холаду.

Папярочны разрэз парнікоў паглыбленага (малюнак А) і надземнага (малюнак Б): 1 — гной, 2 — грунт, 3 — рама з плёнкай, 4 — накрыўка (саламяны або рагожны мат, рама з нацягнутай паперай), 5 — зруб або скрыня.










Мал. 1. Пасадка суніц: 1 — правільная, 2 — глыбокая, 3 — залішне высокая.

# САДОВЫЯ СУНІЦЫ

Адцвілі сады ў маі, абляцелі белай завірухай. Яшчэ толькі фарміруецца завязь на дрэвах, а на градках ужо наліваюцца салодкім сокам чырванашчокія і духмяныя ягады — садовыя суніцы. Яны радуюць нас і першым у гэтым сезоне ласункам і незвычайнай скараплоднасцю: летась іх пасадзілі, а ўжо сёлета яны прынеслі багаты ўраджай.

Садовыя суніцы (многія няправільна называюць іх клубніцамі) — шматгадовая травяністая расліна. Іх зялёныя лісцікі захоўваюцца пад снегам на працягу ўсёй зімы. Размнажаюцца яны ў асноўным вусікамі. Высаджваць суніцы можна ў другой палове лета і восенню да замаразкаў. Аднак у нашых умовах гэта лепш рабіць вясной — у красавіку або першай палове мая.

У Беларусі рэкамендуюцца для вырошчвання ранняга гатункі Львоўскія ранняя і Зара, сярэдняранняга Чайка і Фестывальныя, а таксама больш позняя Зенга-Зенгана і Майская. Участак, прызначаны пад суніцы, неабходна ўскапаць на глыбіню 22—25 см, адначасова ўносячы арганічныя ўгнаенні ў выглядзе перапрэлага гною або кампосту з разліку 50 кг на 10 $м^2$. Можна ўносіць і торф па 100—150 кг на 10 $м^2$. Да гэтых угнаенняў лепш дабавіць суперфасфат (500 г) і калійную соль (300 г). Затым участак выроўніваюць граблямі, разбіваючы буйныя камякі, выдаляюць карэнішчы пырніку і іншага пустазелля.

На паніжаных мясцінах з блізкім заляганнем грунтавых водаў або застоем вады суніцы высаджваюць на градках шырынёй 1 м і вышынёй да 40 см. Паміж градкамі пакідаюць баразны шырынёй 35—40 см. Краі ўшчыльняюць рыдлёўкай, каб не абсыпаліся.

Для расады выкарыстоўваюць разеткі не старэй аднаго года, якія добра ўкараніліся і маюць па 2—3 лісцікі і карані даўжынёй 4—5 см. Калі вы збіраецеся некуды перавозіць выкапаную расаду, сачыце за тым, каб яна не падсохла. Для гэтага яе накрываюць вільготным мохам або радном. Высаджваюць расаду радамі з адлегласцю паміж імі 70 см, а ў радах — на 18—20 см адна ад адной (7—8 раслін на 1 $м^2$). Пры пасадцы адной рукой робяць з дапамогай шуфліка ямку, а другой прытрымліваюць расліну так, каб каранёвая шыйка знаходзілася ў ямцы на ўзроўні зямлі. Зямлю ўшчыльняюць так, каб карані не выгіналіся і не скручваліся (мал. 1). Закончыўшы пасадку, суніцы паліваюць з разліку 1 вядро вады на 20—25 раслін. Калі дажджу няма, то паліў паўтараюць праз кожныя дзень — два на працягу 10—12 дзён.

Улетку глебу перыядычна падрыхляюць, не дапускаюць з'яўлення пустазелля. Для барацьбы з пустазеллем, а таксама з хваробамі, можна мульчыраваць глебу хваёвымі іголкамі або накрываць поліэтыленавай плёнкай. Для гэтай мэты выкарыстоўваецца і старая, месцамі парваная плёнка. Каб не застойвалася дажджавая вада, у ёй праразаюць шчыліны.

У наступныя гады пажадана праводзіць падкормку плантацыі гнаявой жыжкай, разбаўленай у 5 разоў вадой, або птушыным паметам, разбаўленым у 12 разоў. На 1 куст разыходзіцца 0,3—0,4 л вадкасці. Замест гэтых угнаенняў можна ўносіць 180—200 г аміячнай салетры або 120—150 г мачавіны на кожныя 10 $м^2$ плантацыі. У гэты ж час зграбаюць і паляць сухое лісце, падрыхляюць і акучваюць суніцы. Пры гэтым нельга засыпаць «сэрцайка» ягаднага куста.

У пачатку красавіка, пасля таго, як растане снег, апырскваюць ягаднік супраць шэрай гнілі, якая стала распаўсюджаным і шкодным захворваннем. Выкарыстоўваюць для гэтага двухпрацэнтны раствор нітрафену або трохпрацэнтны — бардоскай вадкасці (блакітнае апырскванне). У апошнія гады для барацьбы з шэрай гнілю і мучністай расой пачалі выкарыстоўваць прэпарат байлетон (па 12 г парашку на 10 л вады). Байлетонам суніцы апырскваюць двойчы: перад цвіценнем і пасля ўборкі ўраджаю.

Пасля цвіцення глебу пакрываюць мульчай з хвоі, моху або плёнкі, а пасля ўборкі ўраджаю выдаляюць вусы, каб не дапусціць празмернай гушчыні раслін.

**Навум МЕЛЬНІК,**
**кандыдат сельскагаспадарчых навук.**

# ГУМАР

**Марцін КОЎЗКІ**

## З пункта «А» ў пункт «Б»...

● «У месяца рогі злева»,— сказаў адзін. «Справа»,— сказаў другі. «Мабыць, вы яго бачыце з розных бакоў»,— сказаў той, хто лічыў, што ісціна заўсёды пасярэдзіне.

● Адзін да аднаго і адзін пра аднаго, адзін за аднаго ў аднаго, адзін на аднаго і адзін з адным... Колькі камбінацый можна скласці, маючы толькі дзве адзінкі!

● Рыбка выскачыла з вады. «Да зорак»,— свіснуў рак. «Агульны ўзровень знізіла»,— буркнула жаба. «Ад мацнейшых за сябе ратуецца»,— пазяхнула чарапаха. «Тут я, куды дзецьма»,— уздыхнула рыбка.

● «Во дурніца,— сказаў мядзведзь, наступіўшы на пчалу,— і сама памрэ, і мёд прападзе, і мне балюча зрабіла. А маглі ж разысціся мірна».

● Як у аўтобусе: не даюць прабіцца не тыя, што сядзяць на месцы, а тыя, каму пара выходзіць.

● «Як да нас паставяцца нашчадкі?» — спытаў я ЭВМ. «Як камп'ютэры пазнейшых пакаленняў да ранейшых»,— адказала машына.

● Хто ведае, што рабіць,— той, хто ведае, што робіць, ці той, хто робіць, што ведае?



Без слоў.
Мал. Н. Дораш.




Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.

## ГУЛЬНЯ ЁСЦЬ ГУЛЬНЯ

У свет вялікіх шахмат Артур Юсупаў і Андрэй Сакалоў прыйшлі, бадай, адначасова, а дакладней — з інтэрвалам у тры гады.

Прыйшлі, каб перамагаць...

У 1977 годзе Артур Юсупаў становіцца чэмпіёнам свету сярод юнакоў у Інсбруку.

Андрэй Сакалоў у 1982 годзе перамагае сваіх равеснікаў на сусветным першынстве ў Капенгагене.

Цікава і тое, што ў творчых біяграфіях абодвух гросмайстраў адметнае месца займаюць перамогі ў часе выступленняў у беларускай сталіцы.

На 47-е першынство СССР 1979 года Артур Юсупаў прыехаў у Мінск дэбютантам, а вярнуўся... трыумфатарам. Да таго ж ён вярнуўся дадому з сярэбраным медалём.

Мінск — шчаслівы горад і для Андрэя Сакалова. На пачатку гэтага года малады маскоўскі гросмайстар выйграў тут з лікам 6 : 2 паўфінальны матч прэтэндэнтаў на першынство свету ў гросмайстра з Ерэвана Рафаэла Ваганяна.

Што і казаць: перамога пераканаўчая. Хаця і нечаканая. Бо фаварытам матча ў Мінску Андрэя не лічылі. Дый турнірнага вопыту ў яго было менш, чым у Ваганяна. І рэйтынг ніжэйшы.

Але гульня ёсць гульня...

А ў гульні свае законы, свае псіхалагічныя падтэксты.

Як, напрыклад, у чацвёртай партыі. Дагульванне пачалося з пазіцыі, якую вы бачыце на дыяграме.

**А. САКАЛОЎ — Р. ВАГАНЯН**



Думка знаўцаў шахмат напярэдадні дагульвання была прыкладна такая: «У Ваганяна ёсць шанц на перамогу. Праўда, дамагчыся гэтага яму будзе цяжка...»

Гэта быў прагноз.

А што здарылася на самай справе? Гульня працягвалася так.

41... Фd5+(Запісаны ход).

42. Крb1f4 43. Лbc2 Крd6 44. Кр c1 Фb5 45. Л : g7 e3 46. fe fe 47. Лс c7 Ф a4 48. Л : h7 a5 (Першая памылка Р. Ваганяна). 49. Лс g7 Фс4+50. Крb2 Фе6 (Другая памылка). 51. Ла7 Фе5+52. Крс2 Фе4+53. Крс3 Фb4+54. Крd3 Фd2+55. Кр e4 Крс6 56. Лаb7...

У Ваганяна на апошні кантрольны ход заставалася крыху болей за дзве хвіліны. Ён меў магчымасць узяць белую пешку з шахам. І дамагаўся нічыёй. Выйгрышу ў чорных ужо не было. Аднак Ваганян, нібыта зачараваны, сядзеў за шахматным столікам і напэўна разважаў не над сваім чарговым ходам, а над страчанымі магчымасцямі. Калі суддзя накіраваўся да століка, усім здалося, што прэтэндэнты «пачалі мірныя перагаворы». На справе ж адбылося зусім іншае: арбітр зафіксаваў чорным паражэнне — Ваганян пратэрмінаваў шахматны час. Такое здараецца, як бачым, нават у матчы прэтэндэнтаў на шахматную карону. За шэсць хадоў Ваганян прайшоў міма лёгкага выйгрышу, пасля не змог зрабіць лёгкую нічыю, а ўрэшце — атрымаў нуль...

Матч закончыўся датэрмінова...

Андрэй Сакалоў ужо святкаваў перамогу, а Артур Юсупаў у Тылбургу толькі выходзіў наперад у другім паўфінальным матчы з Янам Ціманам (Галандыя) — 3,5:2,5...

Яшчэ праз два дні лік павялічыўся да 4,5:2,5 на карысць савецкага гросмайстра, і стала вядома, што ў фінальным матчы прэтэндэнтаў Андрэю Сакалову давядзецца сесці за шахматны столік з Артурам Юсупавым.

Хто пераможа? Хто кіне пальчатку экс-чэмпіёну свету? 26-гадовы Юсупаў ці 22-гадовы Сакалоў?

Пытанне складанае.

Але пытанне зададзена. Адказ на яго мы мяркуем атрымаць ад удзельнікаў шахматнай віктарыны «Беларусі».

Гэта і ёсць першае пытанне пятага тура.

**ЗАДАННЕ ДРУГОЕ.**



**Мат у два хады.**

Нагадваем: адказы на заданні пятага тура неабходна даслаць на адрас рэдакцыі «Беларусі» не пазней як 1 чэрвеня 1986 года.

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Савецкая метэаралагічная касмічная сістэма. 6. Двойчы Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт СССР. 10. Пазыўныя лётчыка-касманаўта СССР В. М. Церашковай. 11. Зорка ў сузор'і В. Мядзведзіца. 12. Спадарожнік сувязі. 15. Фігура вышэйшага пілатажу. 16. Абарот Зямлі вакол Сонца. 17. Курорт у Крыме, дзе знаходзіцца астранамічная абсерваторыя. 20. Зоркападобная крыніца касмічнага выпраменьвання. 21. Шлях, па якім рухаецца штучны спадарожнік Зямлі. 25. Лётчык-касманаўт Венгерскай Народнай Рэспублікі. 26. Экватарыяльнае сузор'е. 27. Нябеснае цела. 31. Найбольш блізкі да цэнтра Зямлі пункт арбіты Месяца ці штучнага спадарожніка Зямлі. 33. Найвышэйшы пункт нябеснай сферы. 34. Буйнейшы кальцавы радыётэлескоп. 35. Прыбор для вызначэння напрамкаў свету. 36. Стабільная часцінка ядра атама.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Чатырохногі разведчык космасу. 2. Астранамічнае вызначэнне Сусвету. 3. Савецкі вучоны, заснавальнік ракетных рухавікоў. 4. Касманаўт ЗША. 7. Лятальны апарат з рэактыўным рухавіком. 8. Серыя амерыканскіх касмічных караблёў. 9. Малая планета. 13. Лётчык-касманаўт СССР, які тройчы пабываў у космасе. 14. Хімічны прэпарат. 18. Задыякальнае сузор'е. 19. Перыяд у гісторыі Зямлі. 22. Астранамічная адзінка. 23. Самая яркая зорка на небе, знаходзіцца ў сузор'і Вялікі Пёс. 24. Нерухомая частка ротарнай машыны. 28. Адзінка зямельнай плошчы. 29. Савецкая міжпланетная станцыя. 30. Абарот спадарожніка вакол Зямлі. 32. Рускі вынаходнік радыёсувязі.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 3

**1. Мухіна. 2. Дурава. 3. Рэйсмас. 4. «Рэвізор». 5. Драхма. 6. Фрэска. 7. Драйзер. 8. Крухмал. 9. Арбіта. 10. «Тройка». 11. Харужая. 12. Галілей. 13. «Кармэн». 14. Каруза. 15. Трактат. 16. Трамвай. 17. Арманд. 18. Дракон. 19. Капуста. 20. Каракас. 21. Тантал. 22. Карунд. 23. Паскаль. 24. Кантата. 25. Гамбія. 26. Байкал. 27. Гармата. 28. Камбала. 29. Арлова. 30. Прэмія. 31. «Барсукі». 32. Таронта. 33. Аркада. 34. Траста. 35. Каталог. 36. «Маланка».**

# КВЕТКА НА ДАЛОНІ РАСІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.)

-ныя твары, гарачыя позіркі, маладыя звонкія галасы. Натоўп расце. Вось іх ужо не меней як сто. Вось яны групамі накіроўваюцца ў актавую залу. У першых радах — энергічны, рухавы Уладзімір Ульянаў, яго таварышы Палянскі, Зегжда, іншыя студэнты. Да іх далучаецца Мацвееў з радасным воклічам: «Браткі, пастаім за справядлівую справу, за справу таварышаў!»

Першыя групы ўжо ля дзвярэй залы. Але яна на замку. Кінуліся да другога ўвахода — і там замок. Да д'ябла замок, збіць яго! Збілі — і ўра! — няхай жыве свабода!

Груганом навісла над бунтарскімі галовамі змрочная постаць інспектара Патапава. Знаёмы лексікон: паліцыя, войскі, губернатар. «За рукі, таварышы, за рукі!»— скеміў нехта, і вось студэнты, моцна ўзяўшыся за рукі, дружным ланцугом рушылі на грознага наглядчыка. Той пабляеў, страх варухнуўся ў вачах, і вось ён ужо ганебна адступае, палахліва бяжыць. За акном па-снежаньску моцны мароз, але юнакам горача, яны адкрываюць вокны насцеж і крычаць: «Ура!», «Наша ўзяла!» Пад вокнамі універсітэта збіраецца цікаўны гарадскі люд.

У залу ўрываецца перапалоханы рэктар Крамлёў. З яго спроб уціхамірыць студэнтаў нічога не атрымліваецца. Рэктару ўручаюць петыцыю. Яна па-юнацку смелая і рашучая: «Сабрала нас сюды не што іншае, як усведамленне немагчымасці ўсіх умоў, у якія пастаўлены рускае жыццё наогул і студэнцкае ў прыватнасці, а таксама жаданне звярнуць увагу грамадства на гэтыя ўмовы і прад'явіць ураду нашы наступныя патрабаванні...»

Нягледзячы на пагрозы прывесці ў дзеянне паліцыю і батальён войск, якія, дарэчы, стаялі ля універсітэта з баявымі патронамі, сходку закончылі толькі а шасцаццатай гадзіне. Захоўваючы спакой і дабіўшыся абяцання рэктара, што іх не будуць затрымліваць пры выхадзе, студэнты цераз парадны ход пакідалі універсітэт. Выконваючы апошняе рашэнне прэзідыума сходкі, найбольш паслядоўныя з іх пакідалі ўваходныя білеты. Такіх было 99. Адным з першых кінуў на стол свой студэнцкі білет Уладзімір Ульянаў.

Што ён зрабіў, калі вярнуўся дадому? Жыў ён тады на Нова-Камісарыяцкай вуліцы (цяпер Комлева, 15). Гэта зусім блізка ад універсітэта. Мы прайшлі гэтым шляхам, дарога заняла дзесяць хвілін. Не, Уладзімір Ульянаў ніколькі не раскайваўся, не папракаў сябе за гарачнасць. Ён пайшоў на гэты крок свядома, абдумана. Вось тут ён растлумачыў устрывожанай маці тое, што адбылося ва універсітэце, сказаў, што інакш паступіць не мог, а вось тут, сеўшы ля стала, напісаў прашэнне на імя рэктара аб адлічэнні са студэнтаў.

Ноччу яго арыштавалі. Пазней, знаходзячыся ў эміграцыі, У. І. Ленін расказаў члену Казанскага камітэта бальшавікоў У. В. Адарацкаму аб знамянальнай размове з паліцэйскім прыставам, які суправаджаў яго ў турму. «Ну што вы бунтуеце, малады чалавек,— павучаў яго прыстаў,— сцяна ж!» Адказ ашаламіў прystава: «Сцяна, ды г н і л а я,— тыцні і развaліцца».

Казанскія вучоныя ўстанавілі: у сходцы ўдзельнічала звыш 250 студэнтаў. Сярод іх былі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей: рускія, украінцы, грузіны, башкіры. Прафесар Р. І. Нафігаў высветліў, што былі там і беларусы. Ва ўсякім разе, у адной са сваіх прац ён называе выпускніка Слуцкай гімназіі Б. В. Пяжарскага.

Мы выходзім з універсітэта. Некалькі хвілін, і перад намі — вуліца, якая носіць імя правадыра. Тады, амаль стагоддзе назад, яна мела іншую назву — Васкрасенская. Відавочцы засведчылі марозны снежаньскі дзень, натоўп людзей на Васкрасенскай, звон шамкоў на дугах нецярплівых коней, запрэжаных у кібіткі. Здаецца, увесь горад высыпаў правесці высылаемых з Казані выключаных студэнтаў. У кібіткі ляцяць прадукты, цёплыя рэчы. З кібітак — размножаны на гектографе «Развітальны ліст пратэстуючых казанскіх студэнтаў».

Ад Казані да Какушкіна — сорак пяць вёрст. Імклівая «Волга» даставіла нас да месца першай ссылкі семнаццацігадовага Леніна за паўгадзіны. Няцяжка ўявіць апісаную Марыяй Ільінічнай Ульянавай тагачасную санную дарогу да Какушкіна. Снег, снег — чысты, празрысты. Паабапал рэдкі пералесак, невялічкія пасёлкі, што стаіліся ўдалечыні. У кібітцы — маці, Марыя Аляксандраўна, са ссыльным сынам і маленькай Маняшай. Зімовы дзень кароткі. Змяркалася, калі перад спадарожнікамі адкрылася Вялікае Чарамышава, а побач пятнаццаць хацін — Какушкіна.

Кібітку з роднымі сустракала Ганна Ільінічна. Вясной 1887 года яе арыштавалі ў сувязі са справай брата Аляксандра. Прыгавораная спачатку да пяці гадоў ссылкі ў Сібір, Ганна Ільінічна дзякуючы хадайніцтву маці атрымала дазвол жыць пад наглядам у Какушкіна.

Уладзіміру Ульянаву гэтая вёсачка была знаёмая з самага дзяцінства. Ульянавы праводзілі тут амаль кожнае лета. Гісторыя гэтага пастаянства такая.

У 1847 годзе, пасля выхаду ў адстаўку, дзед Уладзіміра Ульянава па маці, урач-асветнік, пераехаў з шасцю дзецьмі ў Какушкіна, дзе і правёў рэшту жыцця. Тут прайшлі дзіцячыя гады і юнацтва Марыі Аляксандраўны: яна жыла ў Какушкіна з дванаццаці да дваццаці васьмі гадоў. У 1863 годзе яна выйшла замуж за Ілью Мікалаевіча Ульянава і пакінула вёску. Наведвалі яе кожны раз, калі выпадала магчымасць.

Можна ўявіць, якая цяжкая была гэта сустрэча з мясцінамі іх дзяцінства. Яшчэ жыло ў памяці пахаванне мужа і бацькі, глыбокай балючай ранай ляжала на сэрцы маці, братоў і сясцёр гібель Аляксандра, а тут новая бяда — ганенне і строгі нагляд за Ганнай і Валодзем. І ўсё ж нягоды не зламалі волі гэтай сям'і.

«Здаецца, ніколі потым у маім жыцці, нават у турме ў Пецярбурзе і ў Сібіры, я не чытаў столькі, як у год пасля маёй высылкі ў вёску з Казані. Гэта было чытанне запоем з раніцы да позняга часу»,— успамінаў пазней Уладзімір Ільіч. Тут ён знаёміўся з кнігамі перадавых рускіх пісьменнікаў, многа думаў аб будучым.

Сёння ў флігелі, дзе правяла сям'я Ульянавых лютую зіму 1887-88 года, размешчаны Дом-музей У. І. Леніна. Захаваўся вуглавы пакойчык, які заняў Уладзімір з братам Дзмітрыем. Абстаноўку пакойчыка ўзнаўлялі паводле ўспамінаў яго стрыечнага брата М. І. Вераценнікава: «Драўляны ложак на козлах, на сцяне палічка з кнігамі, простая шафа, два-тры крэслы, складная табурэтка, стол...»

У парку, што расце ля флігеля, мы падышлі да альтанкі. Тут малады Уладзімір Ільіч у спякотныя летнія дні многія гадзіны праводзіў з кнігай і алоўкам у руках. Альтанка адноўлена паводле ўспамінаў блізкіх Леніна. Наогул, у Какушкіна зараз вядуцца вялікія работы па добраўпарадкаванню. На процілеглым беразе ракі Ушні ідуць лесапасадкі, бо стары лес высечаны, аднаўляюцца плаціна і сажалка на Ушні.

Непадалёк ад Дома-музея У. І. Леніна — сярэдняя школа-інтэрнат імя М. А. Ульянавай. Беражліва, з любоўю захоўваюцца тут фатаграфіі, дакументы, якія ўваскрашаюць старонкі вялікага жыцця маці правадыра. На бачным месцы — пісьмо, якое пасля Вялікага Кастрычніка какушкінскія сяляне даслалі Леніну. Кранаюць сэрца прачулыя радкі, дзе цёпла і шчыра называюць Уладзіміра Ільіча сваім аднавяскоўцам, просяць згоды назваць вёску яго імем і адкрыць у ёй школу рамяства ў памяць М. А. Ульянавай.

Па дарозе з Какушкіна ў Казань маўчым. Зноў і зноў перабіраем у памяці ўбачанае і пачутае, каб пранесці праз усё жыццё самім, расказаць іншым людзям аб тым, што ўразіла, усхвалявала пры знаёмстве з мясцінамі, звязанымі з першымі крокамі маладога Леніна на шляху яго рэвалюцыйнай барацьбы. Аб чым думаў васемнаццацігадовы Валодзя Ульянаў, калі пасля дзесяцімесячнай ссылкі вяртаўся па гэтай дарозе ў Казань?

Адказ даюць матэрыялы яго Дома-музея па вуліцы Ульянавых. Тут шырока прадстаўлены матэрыялы аб рэвалюцыйнай дзейнасці Леніна ў адным з нелегальных гуртkоў М. Я. Федасеева, аб тым, як у аваладанні навуковай тэорыяй і на жывой практыцы складваўся, фарміраваўся і ўмацоўваўся рэвалюцыйны светапогляд будучага правадыра працоўных усяго свету, стваральніка Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Баючыся новых паліцэйскіх рэпрэсій, у маі 1889 года Марыя Аляксандраўна з сынам Уладзімірам і дочкамі паспяшалася пакінуць Казань. Яны пераехалі ў Самарскую губерню. Вядома, што ў наступныя гады Уладзімір Ільіч двойчы быў у Казані: у 1889 годзе ён з Марыяй Аляксандраўнай прыязджаў сюды, каб адправіць у Самару хатнія рэчы, якія тут засталіся, а ў чэрвені 1900 года разам з Марыяй Аляксандраўнай і Ганнай Ільінічнай спыніўся на два дні праездам з Падольска ва Уфу. У Казані Ленін сустракаўся з мясцовымі сацыял-дэмакратамі, вёў размовы аб садзейнічанні ў выданні і распаўсюджанні задуманай ім агульнарускай рэвалюцыйнай рабочай газеты.

Пачыналася новая старонка тытанічнай дзейнасці правадыра.


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

Беларусь №4 (568)

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.







Журнал «Беларусь» на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.02.86. Падпісана да друку 26.03.86. АТ 00533. Фармат $70 \times 108^{1}/_{8}$. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 10,9. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 213 экз. Зак. 783.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.








**ВЯСНОВЫЯ МАТЫВЫ**

Фота Уладзіміра ЗІНІНА (Магілёў) І Эдуарда КАБЯКА (Брэст)



# МЫ З ІМ СУСТРАКАЛІСЯ

**Многія пазнаюць гэтага чалавека, бо неаднойчы сустракаліся з ім. Бачылі яго ў кіно і на тэлеэкране, на падмостках сцэны. Запомнілі ў абліччах Васіля Мульціка з п'есы А. Дударава «ВЕЧАР», журналіста Бачаны Рамішвілі («ЗАКОН ВЕЧНАСЦІ» Н. Думбадзе), Яўхіма Глушака з тэлепастаноўкі «ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ» паводле І. Мележа, галоўнага героя фільма «ВАДЗІЦЕЛЬ АЎТОБУСА»... Дзесяткі самых розных роляў складаюць яго творчую біяграфію.**

**А такі ён у жыцці, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, акцёр Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы,— Віктар Тарасаў.**

**Фота Уладзіміра ШУБЫ.**

Заснаван

Цана 35 кап. «Беларусь», 1986, № 4, 1—36. Індэкс 74820